# ІКАНАПІС БЕЛАРУСІ
## XV–XVIII СТАГОДДЗЯЎ

# ИКОНОПИСЬ БЕЛОРУССИИ
## XV–XVIII ВЕКОВ

# IKON PAINTING IN BELORUSSIA
## 15 TH–18 TH CENTURIES

# LA PEINTURE D'ICÔNES DE BIELORUSSIE
## AUX XV–XVIII SIÈCLES

# IKONENMALEREI BELORUSSLANDS
## DES 15. BIS 18. JAHRHUNDERTS

# ИКОНОПИСЬ БЕЛОРУССИИ
## XV–XVIII ВЕКОВ

# IKON PAINTING IN BELORUSSIA
## 15 TH–18 TH CENTURIES

# LA PEINTURE D'ICÔNES DE BIELORUSSIE
## AUX XV–XVIII SIECLES

# IKONENMALEREI BELORUSSLANDS
## DES 15. BIS 18. JAHRHUNDERTS

**Аўтар тэксту і складальнік**
**Н. Ф. ВЫСОЦКАЯ**

Фота:
Г. Л. ЛІХТАРОВІЧ (141)
А. Б. СПРЫНЧАН (3)
В. І. ГРАБЯНЬКОЎ (2)
В. А. СЛІЖ (1)

У падрыхтоўцы выдання прынялі ўдзел:
А. У. КАРПЕНКА
Н. М. НОВІКАВА
Н. Я. ТРЫФАНАВА
А. Д. ШАПАШНІКАВА

На супервокладцы:

Хрыстос Уседзяржыцель. XVI ст. Фрагмент.
Успенская царква (1654). С. Быцень Брэсцкай вобл.
Шарашоўскі майстар.
Пётр. Другая палавіна XVIII ст. Фрагмент.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

На шмуцтытулах:

Царква Міхаіла. XV—XVI стст. С. Сынкавічы Гродзенскай вобласці.
Царскія вароты. Апошняя чвэрць XVI ст.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Нікольская царква. 1669—1672. Магілёў.
Царскія вароты. 1669—1672.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Сафійскі сабор. XI—XVIII стст. Полацк.
Царскія вароты. Сярэдзіна XVIII ст.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

$$\text{I}\ \frac{4903020000 - 047}{\text{М}\ 301\ (03) - 92}\ 110 - 91$$

ISBN 5-338-00731-2

Жывапіс Беларусі XV—XVIII стст.— арыгінальная з'ява ў еўрапейскім мастацтве. Адна з найцікавейшых яго асаблівасцей — паралельнае існаванне на працягу ўсяго гэтага перыяду іканапісу, алтарнай карціны і свецкага жывапісу, што не мае аналогій у мастацтве іншых краін Усходняй ці Заходняй Еўропы. Прычына гэтага караніцца ў абставінах гістарычнага развіцця Беларусі, размешчанай на стыку лацінскага Захаду і праваслаўнага Усходу, што ў сваю чаргу садзейнічала ўзнікненню цесных сувязей мастацтва як са старажытнарускай, так і заходнееўрапейскай культурай.

Мастацтва Беларусі XV—XVIII стст. яшчэ мала вывучана. Між тым аналіз яго прадстаўляе вялікую цікавасць не толькі сам па сабе, але і для раскрыцця важнейшага гістарычнага працэсу: узаемасувязі мастацкіх культур Заходняй і Усходняй Еўропы. Асабліва важна ў гэтым плане памятаць аб вытоках мастацтва Беларусі, узыходзячых да культуры Кіеўскай Русі, якія садзейнічалі складанню беларускай народнасці і культуры ў Вялікім княстве Літоўскім (XIV — першая палавіна XVI ст.) і развіццю яе ў Рэчы Паспалітай (другая палавіна XVI—XVIII ст.).

Дадзены альбом прысвечаны іканапісу Беларусі XV—XVIII стст. Стварэнне яго стала магчымым толькі пасля раскрыцця на працягу 1955—1990 гг. вядучымі рэстаўратарамі Масквы, Ленінграда і мясцовымі сіламі калекцыі іканапісу Дзяржаўнага мастацкага музея БССР (ДММ БССР) у Мінску, сабранай у пасляваенны час шляхам экспедыцый, вяртання даваенных фондаў, паступленняў ад прыватных асоб і дзяржаўных устаноў. Уключаны ў яго таксама асобныя помнікі, якія захоўваюцца ў царкоўных, касцёльных і музейных калекцыях рэспублікі.

З прычыны таго, што большую частку разглядваемага матэрыялу складалі нелакалізаваныя і недатаваныя абразы, адной з важнейшых задач дадзенага выдання была атрыбуцыя твораў. Для рашэння яе скарыстоўваўся метад гісторыка-мастацкай класіфікацыі. Асноўнымі арыенцірамі, зыходнымі пунктамі для вызначэння дат многіх помнікаў аказаліся абразы з датамі, укладнымі надпісамі, якія захоўваюцца ў ДММ БССР і былі выяўлены 80 музейнымі экспедыцыямі (1946—1990). Для аналогій выкарыстаны матэрыялы гэтых жа навуковых экспедыцый, гравюры, змешчаныя ў беларускіх, украінскіх, заходнееўрапейскіх старадрукаваных кнігах, рукапісы, помнікі паўднёваславянскага, візантыйскага, старажытнарускага, украінскага, заходнееўрапейскага жывапісу.

У выніку праведзенай работы ў навуковы абарот у 1972—1990 гг.[1] былі ўведзены фактычна занава многія помнікі даваенных музейных калекцый і вялікая колькасць новых твораў іканапісу Беларусі XV—XVIII стст., што дазволіла паставіць больш сур'ёзныя задачы ў яго даследаванні.

Перш за ўсё неабходна было выявіць агульныя рысы, характэрныя для мясцовых помнікаў, асаблівасць беларускай іканапіснай школы XV—XVIII стст., намеціць прыкладныя этапы яе развіцця.

Адначасова паўстала праблема выяўлення мясцовых малярных цэхаў. Недастатковая колькасць раскрытых помнікаў усіх абласцей Беларусі, неаседлы спосаб жыцця мастакоў[2], шматлікія войны, пастаянныя канфесіянальныя канфлікты, адміністрацыйны падзел краіны ў XV—XVIII стст., які неаднаразова мяняўся,— усё гэта надзвычай ускладняла вырашэнне дадзенага пытання. Пэўную дапамогу ў гэтым аказалі архіўныя дакументы[3]. У Вільні ў канцы XVI ст. сустракаецца ўпамінанне аб цэху жывапісцаў, у 1666 г.— у Гродна, у XVIII ст.— у Мінскай і Гродзенскай абл., а ў 1800 г.— у Мінску. Па архіўных даных бачна традыцыйная для еўрапейскіх жывапісных цэхаў трохступеньчатая сістэма ў іх — майстар, чаляднік (маляр, таварыш) і вучань (хлопец). У жывапісных і іншых цэхах (разьбяроў, сталяроў, майстроў залатых і сярэбраных спраў) былі свае харугвы, казна і г. д.[4]

У альбоме немагчыма ахапіць усе вядомыя абразы XV—XVIII стст., таму ў ім змешчаны толькі этапныя, раскрытыя рэстаўратарамі помнікі, бегла закрануты і пытанні руска-беларускіх культурных сувязей, алтарнага, партрэтнага жывапісу Беларусі XV—XVIII стст., якія патрабуюць спецыяльнага разгляду.

Неабходна ўпамянуць шматлікія крыніцы і даследаванні па вывучэнню, збіранню іканапісу Беларусі XV—XVIII стст., якія можна ўмоўна падзяліць на два этапы: першы — ахоплівае час ад XVIII да пачатку XX ст.; другі — ад 1919 г. да сённяшняга дня.

Пачатак першаму этапу паклала арганізаваная ў 1773 г. Расійскай акадэміяй навук экспедыцыя пад кіраўніцтвам І. І. Ляпёхіна, якая сабрала цікавы матэрыял па гісторыі і культуры Усходняй Беларусі, далучанай да Расіі ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772)[5].

Гэты перыяд характарызуецца збіраннем рускімі, беларускімі, польскімі вучонымі (да 1864 г.)

пераважна рукапісных, літаратурных, архіўных даных па гісторыі мясцовай культуры. У гэты час у Пецярбургу, Мінску, Варшаве, Маскве, Кіеве, Вільні выходзяць працы, якія маюць немалаважнае значэнне пры вывучэнні іканапісу Беларусі XV—XVIII стст.[6]

У сярэдзіне XIX ст. у Беларусі вызначыліся два культурныя цэнтры — Вільня і Віцебск. Археаграфічныя камісіі, якія працавалі ў гэтых гарадах, выдалі вялікую колькасць дакументаў. У апублікаваных крыніцах, як і ў асобных перыядычных зборніках, манаграфіях, выдадзеных у Вільні, Віцебску, Магілёве, удалося выявіць упамінанні пра многія творы жывапісу і імёны мастакоў, якія жылі ў Беларусі ў XV—XVIII стст.[7]

У другой палавіне XIX — пачатку XX ст. у Мінску, Вільні, Екацярынаслаўе, Пецярбургу, Казані, Маскве, Харкаве, Кіеве таксама публікаваліся архіўныя матэрыялы аб культуры Беларусі[8]. У самой жа Беларусі і Вільні пачалася экспедыцыйная дзейнасць. Віленскай вучэбнай акругай і віленскай археаграфічнай камісіяй былі арганізаваны экспедыцыі па Паўночна-Заходняму краю ў 1864 і 1866 гг. (мастак Д. М. Струкаў). Правядзенне гэтых экспедыцый, візітаў, асабліва ў 1860—1870 гг., з'яўленне прыватных калекцый у Нясвіжы, Слуцку, Мінску дэманструюць узрастанне цікавасці да вывучэння і збірання твораў выяўленчага мастацтва. У гэты час у Беларусі адкрываюцца Віленскі і Магілёўскі музеі царкоўных старажытнасцей, Мінскі царкоўна-археалагічны музей, Віцебскае царкоўна-археалагічнае сховішча старажытнасцей і інш. У арганізацыі музеяў, выяўленні помнікаў старадаўнасці актыўны ўдзел прымалі вучоныя: П. Бацюшкаў, А. Сапуноў, А. Семянтоўскі, Е. Раманаў, Е. Арлоўскі, А. Дзембавецкі, А. Мілавідаў, Ф. Стаўровіч, Е. Дабраслаўскі, П. Красавіцкі і інш.[9] У іх даўнінах, даведніках, апісаннях старажытнасцей, выступленнях змяшчаецца шмат цэнных звестак аб творах выяўленчага мастацтва і сустракаюцца спробы даць яму характарыстыку. Некаторыя даследчыкі (А. Сапуноў, А. Мілавідаў, Е. Дабраслаўскі, П. Красавіцкі) прыходзяць да выдзялення мясцовых помнікаў, не падобных ні на рускія, ні на заходнееўрапейскія. У каталогу Мінскай абласной выстаўкі старажытнасцей (1918) А. Іпелем яны былі ўжо вызначаны як абразы беларускай жывапіснай школы[10].

Пасля ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі працягваецца работа па збіранню і вывучэнню помнікаў старадаўнасці. На пасяджэнні Наркамасветы Беларусі 20 студзеня 1919 г. было пастаўлена пытанне аб стварэнні ў Мінску абласнога музея. У 1920 г. у Мінскім таварыстве гісторыі і старажытнасцей заслухоўваліся даклады аб слуцкай старадаўнасці М. Шкляева і Д. Полазава. У 1921 г. была накіравана экспедыцыя па вывучэнню беларускага народнага мастацтва ў Слуцкі р-н Мінскай вобл., якая абследавала помнікі архітэктуры, жывапісу і выявіла нямала ікон. У 1923 г. на базе Мінскага таварыства аматараў прыроды і археалогіі, мінскіх абласнога і царкоўна-археалагічнага музеяў быў створаны Беларускі дзяржаўны музей, які стаў цэнтрам калекцыяніравання твораў у рэспубліцы.

Неўзабаве функцыі ўстаноў, якія займаліся мастацтвам Беларусі — вышэйзгаданай экспедыцыі 1921 г. і выяўленчага аддзела мастацтва Наркамасветы,— ускладаюцца на Навукова-тэрміналагічную камісію, на базе якой быў створаны Інстытут беларускай культуры, ператвораны ў 1929 г. у Акадэмію навук БССР.

Немалая роля ў вывучэнні і збіранні беларускага мастацтва належыць навуковаму супрацоўніку Інстытута беларускай культуры, дацэнту Беларускага дзяржаўнага універсітэта М. М. Шчакаціхіну (1896—1940)[11], які займаўся даследаваннем старажытнага мастацтва Беларусі і асаблівую ўвагу ўдзяляў іканапісу Усходняй Беларусі XVII—XVIII стст. У яго дакладах (1925, 1928), каталогу 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі (1926), артыкулах (1927—1928) пастаўлена пытанне аб беларускай жывапіснай школе і цэхах («школах») — віцебскай, магілёўскай, слуцка-палескай. Вялікую ўвагу звяртаў вучоны на выяўленне імёнаў беларускіх мастакоў XVIII ст. (М. Руткоўскага, Р. Мядзвецкага) і ўплыву на беларускі іканапіс украінскага мастацтва, якое было таксама выяўлена яшчэ адным савецкім даследчыкам жывапісу Беларусі — Т. Ржавускай[12].

У 1920-я гг. М. Шчакаціхін і М. Каспяровіч спрабуюць сістэматызаваць матэрыял па гісторыі вывучэння беларускага жывапісу XIV—XVIII стст. (Полымя, 1927, № 6—8; Сов. Беларусь, 1927, № 119).

Працы М. Каспяровіча, Т. Ржавускай, і асабліва М. Шчакаціхіна, важныя для далейшага вывучэння беларускага іканапісу. Нягледзячы на некаторыя памылковыя палажэнні ў тэарэтычных вывадах, працы М. Шчакаціхіна з'явіліся значным укладам у вывучэнне жывапісу Усходняй Беларусі дзякуючы смелай пастаноўцы навуковых пытанняў, атрыбуцыі каля 50 помнікаў, а таксама выяўленню імёнаў беларускіх мастакоў XVIII ст.

У час Вялікай Айчыннай вайны значная частка калекцыі музеяў Беларусі, у тым ліку і адкрытай у 1939 г. Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР, была вывезена фашыстамі ў Германію. Часткова знойдзеная і выратаваная савецкімі воінамі, яна спачатку была вернута ў музеі Савецкага Саюза, а ў 1954—1969 гг. перададзена ў ДММ БССР, які быў у 1957 г. перайменаваны з Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР.

ДММ БССР з 1946 г. сістэматычна праводзіць навуковыя экспедыцыі з мэтай рэгістрацыі,

збірання, вывучэння помнікаў выяўленчага мастацтва. У іх былі ўзяты на ўчот помнікі мастацтва 6 абласцей Беларусі.

У пасляваенны перыяд вывучэннем і збіраннем мастацтва Беларусі займаюцца гістарычныя краязнаўчыя музеі рэспублікі, ДММ БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, створаны ў 1957 г.

У апублікаваных працах савецкіх гісторыкаў, філосафаў, мастацтвазнаўцаў 1940—1980 гг.— Л. Абецадарскага, А. Архангельскай, А. Фёдарава-Давыдава, І. Данілавай, Н. Мнёвай, К. Аўчыннікавай, М. Арловай, М. Памяранцава, М. Кацара, В. Брусавай, Н. Малявой, Э. Бялюціна, А. Уса і інш.— маюцца звесткі аб некаторых творах станковага жывапісу Беларусі XV—XVIII стст., жывапісцах, што працавалі ў Беларусі, і аб выхадцах з Беларусі, якія тварылі ў другой палавіне XVII ст. у Расіі[13].

З 1970 г. вывучэннем беларускага мастацтва стаў займацца сектар «Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», створаны ў 1969 г. пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Шматлікімі экспедыцыямі Зводу было выяўлена і вывезена нямала помнікаў выяўленчага мастацтва, што дазволіла адкрыць пры інстытуце Музей старажытнабеларускай культуры (1979)[14].

У 1980-х — 1990 гг. былі арганізаваны выстаўкі рэстаўрацыі старажытнабеларускага мастацтва, партрэта, іканапісу (Масква, Мінск, Магілёў, Каўнас, Сарагоса, Яраслаўль, Новачаркаск, Растоўна-Доне, Гальшаны, Кракаў), з'явіліся публікацыі па жывапісу Беларусі XII—XVIII стст. і нямала артыкулаў, прысвечаных асобным помнікам. У экспазіцыі музеяў рэспублікі сталі ўключацца раскрытыя рэстаўратарамі ад пазнейшых запісаў і пацямнелага пакосту абразы[15].

Новы матэрыял быў выкарыстаны ў 1980-х гг. у энцыклапедычных даведніках па тэорыі, культуры і мастацтву Беларусі і трох тамах «Гісторыі беларускага мастацтва» (1988—1989)[16].

Неабходна адзначыць сур'ёзную ўвагу польскіх, літоўскіх, нямецкіх, французскіх даследчыкаў да пытанняў гісторыі і культуры Вялікага княства Літоўскага.

Найкаштоўнейшыя звесткі аб жывапісцах, помніках мастацтва, якія знаходзяцца або створаны ў Беларусі ці выкананы беларускімі майстрамі за межамі сваёй Радзімы, маюцца ў навуковых каталогах, абагульняючых працах па гісторыі, культуры, мастацтву Літвы, Польшчы, Украіны — Я. Длугаша, М. Бельскага, Т. Ліпіньскага, Е. Лапацінскага, А. Пшэздзецкага, Э. Раставецкага, В. Смакоўскага, Ф. Пекасінскага, В. Сыракомлі, В. Шышкевіча, Н. Руты, М. Сакалоўскага, М. Валіцкага, Т. Маньkoўскага, С. Лоранса, Е. Лаўмянскага, М. Марылоўскага, Б. Таўрогінскага, С. Тамкевіча, В. Таtаркевіча, Я. Рушчыц, І. Вуазэ, М. Матушкайтэ, А. Іпеля, Е. Пашэнды, Е. Паплаткі і інш.[17]

Такім чынам, вывучэнне мастацтва Беларусі, выяўленне імёнаў жывапісцаў (258), вялікай колькасці помнікаў, сярод якіх 104 датаваныя[18], і раскрыццё многіх з іх рэстаўратарамі ўжо сёння дазваляе гаварыць аб пэўных этапах развіцця іканапісу Беларусі XV—XVIII стст., якія прасочваюцца ў трох раздзелах альбома.

У першым разглядаецца іканапіс Беларусі канца XV—XVI ст. У гэты перыяд у Рэчы Паспалітай і ў Беларусі, якая ўваходзіла ў яе склад пасля Люблінскай уніі (1569), назіраецца эканамічны ўздым. Інтэнсіўна развіваюцца гарады, што сталі цэнтрамі рамяства, гандлю, унутранага рынку і адыгралі немалаважную ролю ў фарміраванні беларускай народнасці, яе мовы і культуры. Яны ж садзейнічалі выспяванню эканамічных, сацыяльна-палітычных прадпасылак для развіцця спрадвечных традыцый і рэнесансных гуманістычных асноў. Пранікненню дасягненняў рэнесанснай культуры спрыялі гандлёвыя сувязі Беларусі з Заходняй і Усходняй Еўропай, узнікненне пракапіталістычных элементаў у вытворчасці і абучэнне беларусаў у еўрапейскіх універсітэтах.

У агульным рэчышчы фарміравання беларускай народнасці, мовы, культуры ў XIV—XVI стст. адбываўся працэс станаўлення мясцовай школы іканапісу, які адыграў вызначальную ролю ў развіцці мастацтва наступных стагоддзяў.

У беларускіх гарадах перыяду росквіту гуманізму, рэфармацыйнага руху, развіцця кнігадрукавання працавалі жывапісцы — Навоша, якому пінскі князь Фёдар Яраславіч у 1525 г. «дал две дворыщи в селе Серниках и двор в месте Пинском»; у Гродна ў 1539—1540 гг.— Афанасій Антановіч. У 1570—1580 гг. была вядома цэлая група «маляроў магілёўскіх» — Ісак Іванавіч, Макар Акулініч, Ламака (то) Федаровіч, Семяновіч, Дзімітр Івановіч, Макар Маляр, Макарова Малнярова, што і дае магчымасць дапусціць існаванне ў гэтым горадзе малярскага цэха. У Мінску ў 1591 г. жыў мастак Іеранім. У 1482 г. уладыка Ляшчынскага манастыра пад Пінскам Васьян, манах Растоўскі, даў 100 рублёў іканапісцам, якія «писа чудно вельми Деисус с праздниками и пророками»[19].

Зараз вядома, што ў XVI ст. працавала каля 26 жывапісцаў, 44 скульптараў, 105 залатых спраў майстроў.

Немалая колькасць твораў жывапісу Беларусі XV—XVI стст. прыгадваецца ў архіўных матэрыялах. У дакументах 1482, 1549, 1556, 1557, 1571, 1579, 1588, 1590 гг. паведамляецца аб упрыгожанні цэркваў іканастасамі, што яшчэ раз пацвярджае тэзіс аб засваенні беларускімі майстрамі сістэмы іканастаса, якая склалася ў пачатку XV ст.

у Старажытнай Русі. Ускосным пацвярджэннем таму з'яўляюцца «Царскія вароты» XVI ст. з сёл Яглава, Варанілавічы Брэсцкай вобл.

Сувязі са старажытнарускай культурай прасочваюцца ў мастацтве Беларусі і раней. Напрыклад, абраз «Дзмітрый Салунскі» XIV ст. з вёскі Шчорсы Гродзенскай вобл., на думку М. Памяранцава, імкнуўся да помнікаў наўгародскага жывапісу XII ст. Яны былі добра адчувальныя ў іканапісе XV—XVI стст. У традыцыях старажытнарускага мастацтва выкананы цудоўныя па мастацкай выразнасці работа XVI ст. «Маці Боская Адзігітрыя Іерусалімская» ў Варварынскай царкве горада Пінска Брэсцкай вобл., якая па сілуэту, прыгажосці, каларыту, музычнасці ліній пераклікаецца з работамі вялікага Дзіанісія [1430—1440 (?), 1500—1508 (?)], і помнік XVI ст. «Маці Боская Адзігітрыя» (тыпу Пераўлепты) з Пакроўскай царквы с. Губінка Гродзенскай вобл. «Царскія вароты» з с. Яглава Брэсцкай вобл. блізкія да ўкраінскага мастацтва.

Адначасова ў жывапісе Беларусі выяўляюцца кантакты з заходнееўрапейскім мастацтвам: у абразах, вядомых па фотаздымках канца XIX— пачатку XX ст., «Ануфрый з прыпадаючым мсціслаўскім князем Ю. Ю. Лугвенічам» (1407), «Маці Боская Замілаванне Жыровіцкая» (1470). Апошняя работа, па характарыстыцы М. Кандакова, захавала больш італьянскі характар, чым усе грэка-італьянскія пераводы дадзенага тыпу. Гэты ж вучоны лічыў, што яна ў ліку вялікай серыі абразоў у XV ст. перайшла з Балканскага паўвострава праз Паўднёвую Расію (зусім не з Польшчы) у Вільню (Вострабрамская), Мінск, Гродна, Жыровічы. Пераканаўчым прыкладам можа служыць абраз канца XV — пачатку XVI ст. «Маці Боская Адзігітрыя» са Слуцкага р-на Мінскай вобл., у якім адначасова з засваеннем традыцый старажытнарускага мастацтва бачны сувязі з італьянскай і так званай італа-крыцкай школай жывапісу канца XV — пачатку XVI ст., якія праяўляюцца ў арнаменце ляпнога німба. Тыя ж рысы ўласцівы «Маці Боскай Адзігітрыі Смаленскай» (XVI ст.) з Прачысценскай царквы с. Дубянец Брэсцкай вобл. Такім чынам, у творах жывапісу Беларусі XIV—XVI стст. засвойваюцца дасягненні старажытнарускага і заходнееўрапейскага мастацтва.

Немалаважнае значэнне для развіцця культуры Беларусі мелі кантакты беларускіх рамеснікаў з народамі, якія насялялі Балканскі паўвостраў, што адзначалі М. Кандакоў, У. Пічэта. Апошні пісаў, што Украіна і Беларусь, якія «ў гэты перыяд нацыянальна-культурнага Узраджэння знаходзіліся ў цесных культурных зносінах з усімі славянскімі краінамі,— з'ява вельмі важная і цікавая, на што нашы гісторыкі параўнальна мала звярталі ўвагі»[20]. Менавіта ў гэты час «цэлы шэраг рукапісаў з'яўляецца на Украіне і ў Беларусі на сербскай мове»[21]. У XVI ст. у Беларусь з Сербіі перасяліліся і мастакі. Напрыклад, у Благавешчанскай царкве Супрасльскага манастыра ў 1557 г. «Сербіну Нектарыю маляру за Дэісусец цёплай царквы дадзена 6 коп. грошай, а золата царкоўнае»[22]. Побач з гэтым майстрам у Супраслі працавалі жывапісцы, якія стварылі партрэты фундатара Благавешчанскай царквы Аляксандра Іванавіча Хадкевіча (пам. у 1549 г.) і смаленскага епіскапа мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Іосіфа Солтана (пам. у 1521 г.).

Наяўнасць партрэтаў у жывапісе (Юрый і Ежы Радзівілы), мемарыяльнай пластыцы, кераміцы, алтарных карцінах («Пакланенне вешчуноў» з Дрысвят, «Святое сямейства з Францыскам» у Пінску)[23], цесныя сувязі са славянскімі і заходнееўрапейскімі краінамі не маглі не адбіцца на іканапісе Беларусі сярэдзіны — другой палавіны XVI ст.

У «Параскеве» са Слуцкага р-на Мінскай вобл. побач з традыцыйнымі прыёмамі пісьма «далічнага» бачны рэалістычныя тэндэнцыі, выяўленыя ў святлоценявой мадэліроўцы ліку, у імкненні да перадачы глыбіні. Яны ж назіраюцца і ў вырашэнні пазалочанага разнога фону. Прыём упрыгожання фону арнаментам быў запазычаны беларускім жывапісцам з італьянскага мастацтва. Рэнесансны арнамент у гэтым помніку, як і ў работах XVI ст.— «Маці Боская Адзігітрыя Мінская» ў царкве былога жаночага Бернардзінскага кляштара ў Мінску (яшчэ не раскрыта рэстаўратарамі), «Хрыстос Уседзяржыцель» ва Успенскай царкве с. Быцень Брэсцкай вобл.,— мае аналогіі ў італьянскім і нямецкім ткацтве XV—XVI стст.

Іканаграфічная схема «Параскевы» ўзыходзіць да гравюры «Петка» з кнігі «Мінея выбраная» (1538), выдадзенай калоніяй сербаў у Венецыі, што дазваляе датаваць гэты помнік пасля 1538 г. сярэдзінай—другой палавінай XVI ст. Беларускі майстар захаваў прапорцыі і абрыс фігуры, значна пераасэнсаваў гэтую гравюру.

Абраз «Параскева» мае вялікае значэнне для характарыстыкі станковага жывапісу сярэдзіны — другой палавіны XVI ст. Ён — яркі прыклад творчых пошукаў майстроў Беларусі XVI ст., якія працавалі над стварэннем свайго мастацкага стылю, сваёй манеры пісьма, адпавядаючых духу часу.

Культура і мастацтва таго часу развіваліся пад сцягам барацьбы беларускага народа супраць узмацнення каталіцызму пасля дзяржаўнай Люблінскай уніі і рэлігійнай Брэсцкай (1596). У выніку апошняй побач з праваслаўнай царквой з'явілася уніяцкая і замацавалася каталіцкая, асноўнай задачай якой быў рух Ватыкана на Усход.

Вернасць беларускага народа спрадвечным праваслаўным традыцыям у гэты перыяд набыла асабліва важны палітычны сэнс. Вядучая роля ў барацьбе супраць езуіцкай прапаганды, за беларус-

кую культуру, мову належала брацтвам, створаным праваслаўным насельніцтвам у многіх гарадах і мястэчках. Брацтвы ўтрымлівалі на свае сродкі шпіталі, манастыры, пры якіх былі школы, друкарні, рамесныя майстэрні. Аб'яднанне іканапісцаў, разьбяроў, друкароў, гравёраў пры брацтвах садзейнічала стварэнню цесных кантактаў паміж імі і спрыяла развіццю жывапісу Беларусі[24].

Найбольш ранніміі датаванымі абразамі XVII ст. з'яўляюцца «Маці Боская Адзігітрыя» і «Хрыстос Уседзяржыцель» з Жыткавічаў Гомельскай вобл. Яны істотна адрозніваюцца ад абразоў XV—XVI стст. больш жывапіснай прапрацоўкай складак адзення, смелым спалучэннем колеру, новым падыходам у прапісцы лікаў, што дайшлі да нас у дрэнным стане. Ва ўсім гэтым бачна значнае адступленне ад традыцый старажытнарускага іканапісу. Пры манументальнасці і велічнасці кампазіцыі ў арнаментыцы гэтых помнікаў ужо добра адчуваюцца элементы новага стылю — барока.

Сярод твораў XVII ст. адзіным падпісным помнікам з'яўляецца работа Пятра Яўсеевіча з Галынца «Нараджэнне Маці Боскай» (1649), вывезеная з Успенскай царквы Магілёва ў 1918 г.

Захаваўшы прыём выканання разнога арнаменту, характэрны для XVI ст., Пётр Яўсеевіч смела паказаў архітэктурны пейзаж за кратамі акна, убачаныя ў жыцці бытавыя рэчы: керамічны і драўляны посуд, драўляны ложачак на колцах, падушкі з навалачкамі, упрыгожанымі прошвамі, гарлач з палявымі кветкамі на стале, наміткі на галовах Ганны, бабак, кашалёк, прышпілены да пояса адной з іх. Цяжка знайсці больш этнаграфічна дакладную, поўную і праўдзівую перадачу рэчаў сялянскага быту Магілёўшчыны ў помніках мастацтва першай палавіны XVII ст.

Абраз напісаны ў перыяд наступлення каталіцкай рэакцыі і самаадданага супраціўлення беларусаў каталіцызму. Гісторыя 40-х гадоў — гэта гісторыя сялянскіх паўстанняў і крывавага падаўлення іх, барацьбы беларусаў і ўкраінцаў за нацыянальную незалежнасць (1648—1654) і ўз'яднанне з Расіяй (1654—1667). Таму не выпадкова Пётр Яўсеевіч зберагае старажытнарускую кананічную схему. У той жа час увядзеннем бытавых дэталяў, канкрэтным маляваннем персанажаў «ад сябе» ён ператварае абраз у жанр, не ўласцівы іканапісу. З прычыны гэтага абраз Пятра Яўсеевіча характарызуецца супярэчлівасцю кампазіцыі, каларыту, манеры пісьма. Як і ў творчасці Сімана Ушакова (1626—1686), які займаў значнае месца ў рускім жывапісе трэцяй чвэрці XVII ст., у магілёўскім помніку 1649 г. бачна барацьба старога мастацтва, звязанага з тэалагічным светапоглядам, і новага, якое імкнулася да пазнання навакольнага свету. Тварэнне Пятра Яўсеевіча з Галынца адрозніваецца цеснай сувяззю с партрэтным мастацтвам, на фарміраванне якога, у сваю чаргу, аказалі ўплыў светапогляд беларускіх магнатаў з яго асобымі адносінамі да нябожчыцкага культу і сарматызм. Гэта адлюстравала асаблівасць іканапісу Беларусі, які займаў прамежнае становішча паміж дзвюма галінамі еўрапейскай культуры.

Работа Пятра Яўсеевіча азначае важны этап у гісторыі станковага жывапісу першай палавіны XVII ст., дэманструючы яе дасягненні і паказваючы, што ў развіцці рэалістычных тэндэнцый беларускі іканапіс таго часу некалькі апярэджваў старажытнарускае мастацтва, уздым у якім адбываўся трохі пазней, у другой палавіне XVII ст. Гэты твор — яркі прыклад беларускай іканапіснай школы, у якой ужо добра прасочваецца станаўленне нацыянальнага варыянта барока.

У сваіх творчых пошуках Пётр Яўсеевіч не быў адзінокі. Рэалістычныя тэндэнцыі назіраюцца і ў абразе «Ілья» (1668) з Ільінскай царквы Крычава Магілёўскай вобл. Мастак, стварыўшы яго, адыходзіць ад іканапіснага вырашэння ў ліку святога, паказваючы яго як селяніна са зведзенымі да пераносся бровамі, шчыльна сціснутым ротам, здзіўлена раскрытымі вачамі.

Адметная рыса беларускага мастацтва — імкненне да ўзорыстасці, арнаментыкі — бачна ў помніку першай палавіны XVII ст. «Маці Боская Адзігітрыя Неўвядальны цвет» з с. Басценавічы Магілёўскай вобл., у якім шырока і смела ўведзены барочны арнамент. Ім упрыгожаны поручы, мафорый, карона і фон.

Апрача таго, жывапісец абрамляе палі абраза драўлянымі накладкамі з «камянямі». Такі прыём дэкарыроўкі сустракаўся не толькі ў «Ільі», ён упамінаецца і ў архіўных дакументах пачатку XVII ст. Афармленне падобнага тыпу спрыяла ператварэнню абразоў у карціны з рамамі, што разбурала ўвесь строй плоскаснасці абразоў, сімвалічнасць зместу і мастацкай мовы і сведчыла аб развіцці рэалістычных тэндэнцый у жывапісе.

Характэрная для барока павышаная ўвага да перадачы глыбіні, элеметаў ілюзіянізму адлюстравалася ў пяці работах малярыцкага майстра — «Праабражэнне», «Пакроў», «Успенне», «Нараджэнне Маці Боскай», «Цалаванне Іаакіма і Ганны. Благавесце Ганне»,— выкананых у 1648—1650 гг. У «Праабражэнні» іканаграфічная схема імкнецца да старажытнарускіх узораў. Па дэкаратыўнаму афармленню, тэхніцы выканання разнога арнаменту «Праабражэнне», «Пакроў», «Успенне», «Цалаванне Іаакіма і Ганны. Благавесце Ганне» блізкія да трох вышэйназваных работ з Магілёўшчыны, але адрозніваюцца ад іх большай ураўнаважанасцю кампазіцыі і манерай пісьма, якая пераклікаецца з украінскім жывапісам XVI—XVII стст.

Архіўныя матэрыялы першай палавіны XVII ст. даюць магчымасць прасачыць сацыяльны састаў

вядомых зараз (19) мастакоў. Побач з Пятром Яўсеевічам з Галынца, які паказаў у сваім творы народныя ўяўленні і густы, у Магілёве жыў маляр Фёдар, які сваю маёмасць завяшчаў касцёлу. Разам са многімі іншымі мастакамі ён выконваў заказы касцёла і беларускіх феадалаў. Сярод жывапісцаў былі дамініканскі манах Гілярый Хаецкі (Гродна), Вікенцій (Супрасль), Войцех Ганскі, Ян Лацецкі, Фердынанд, Іаган Шрэтэр (Вільня). Некаторыя з іх размалёўвалі сталі (лаўкі для сядзення, 1644, Гродна), стваралі алтарныя карціны і партрэты, як, напрыклад, Іаган Шрэтэр. У цэрквах побач з абразамі з'яўляюцца і карціны на палатне, што знайшло адлюстраванне ў дакументах 1629, 1631, 1643 гг.[25] У сваю чаргу алтарная карціна і абраз XVI—XVII стст. у Беларусі тэхналагічна выконваліся аднолькава. У гэтым лёгка пераканацца на прыкладах: «Пакланенне вешчуноў» з с. Дрысвяты, што на Віцебшчыне (XVI—XVII стст.), і «Асунта» з с. Гервяты, што на Гродзеншчыне (апошняя чвэрць XVII ст.).

Такім чынам, у першай палавіне XVII ст. працягвала развівацца нацыянальная школа іканапісу, у якой назіраецца аслабленне сувязей з мастацтвам народаў Балканскіх краін і ўзмацненне кантактаў з украінскім і старажытнарускім жывапісам. Мастакі таго часу ідуць следам за майстрам «Параскевы» па шляху захавання кананічных схем і ўвядзення ў іх канкрэтных прадметаў, лікаў, пейзажу, інтэр'ера, архітэктуры, што сведчыць аб нарастанні рэалістычных тэндэнцый.

У канцы XVI — першай палавіне XVII ст. на змену Рэнесансу прыйшоў новы стылістычны напрамак — барока.

Развіццё іканапісу Беларусі другой палавіны XVII ст., нягледзячы на неспрыяльныя гістарычныя ўмовы, не спынілася. Беларусь засталася ў складзе Рэчы Паспалітай па ўмовах Андрусаўскага перамір'я (1667) і Вечнага міру (1686), уступіла ў перыяд доўгага эканамічнага крызісу, які з'явіўся вынікам працяглых войнаў (1658—1667). Палітыка феадалаў, накіраваная на ўзмацненне феадальна-прыгонніцкага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску, суправаджалася неаслабнай барацьбой беларускага народа, у якой прымалі ўдзел і мастакі, напрыклад Казімір з Гродна (1670).

У творах «Маці Боская Замілаванне» (1656) з с. Месткавічы Брэсцкай вобл., «Параскева з жыціем» (1659) у Троіцкай царкве с. Бездзеж Брэсцкай вобл., «Маці Боская Адзігітрыя Баркалабаўская» (1659) у Святатроіцкай царкве Быхава Магілёўскай вобл., «Сашэсце ў пекла» (1678) з Праабражэнскай царквы Чачэрска Гомельскай вобл. выяўлены канкрэтныя тыпы, народныя характары. У бездзежскім і чачэрскім абразах выкарыстан стары прыём дэкарыроўкі палёў (драўляныя накладкі з «камянямі»), які атрымаў шырокае распаўсюджанне ў жывапісе таго часу Брэсцкай, Магілёўскай і Мінскай абл. Аграфлёны арнамент, які маецца ў «Сашэсці ў пекла» (1678), сустракаецца таксама ў помніках другой палавіны XVII ст. Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абл.

Мастакі таго часу працягвалі шырока ўводзіць бытавыя матывы, пейзаж, нацюрморт, архітэктуру, што выяўляецца ў творах «Успенне», «Тройца» з Нікольскай царквы Крычава Магілёўскай вобл., «Тройца» з с. Вялікае Малышава, перанесенай некалі ў Пакроўскую царкву гор. Іванава Брэсцкай вобл., «Маці Боская жываносная крыніца» з манастыра ў Чонках Гомельскай вобл., «Сашэсце ў пекла» з с. Бездзеж, Лахвы Брэсцкай вобл. і гор. Дзісна.

Рэалізм і барочная арнаментыка фонаў, палёў, адзення праніклі ў іканапіс Беларусі сярэдзіны — другой палавіны XVII ст. і апасродкаваны праз гравюры з беларускіх, украінскіх старадрукаваных кніг, заходнееўрапейскіх выданняў. Так як гравюры выкарыстоўваліся мясцовымі майстрамі як рысавальныя дапаможнікі — кужбушкі, то адначасова могуць быць прыцягнуты да ўдакладнення датавання абразоў.

Сярод беларускіх жывапісцаў быў папулярны куцейнскі «Трэфалагіён» (1647). Гравюра «Нараджэнне Хрыстова», змешчаная ў ім, паслужыла кужбушкам для аднасюжэтнага абраза сярэдзіны XVII ст. з царквы Аляксандра Неўскага гор. Пружаны Брэсцкай вобл. і з Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква). Другая гравюра гэтай кнігі была добра вядома майстру, які стварыў у апошняй чвэрці XVII ст. «Успенне», з Крычава.

Параўнанне стылістычна блізкіх помнікаў «Павел» і «Пётр» з Магілёўскай вобл. з гравюрай ў кнізе «Пречестные акафисты всеседмичные» Кіева-Пячэрскай лаўры (1677) асабліва наглядна паказвае, што іканапісец для зводаў і дэкаратыўнага афармлення абразоў выкарыстоўваў як кужбушак дадзеную гравюру. Гэта дазваляе датаваць помнікі апошняй чвэрцю XVII ст. У «Нясенні крыжа» (якое знікла, як і «Пётр», са збору Беларускага дзяржаўнага музея ў час Вялікай Айчыннай вайны) іканаграфічная схема ўзыходзіла да падпісной гравюры Максіма Вашчанкі (1680) з кнігі «Акафісты і каноны» (Магілёў, 1693), а тая, у сваю чаргу,— да гравюры Бібліі Піскатора. Так, складаным шляхам пранікалі ў беларускі жывапіс заходнееўрапейскія павевы. Беларускія і ўкраінскія гравюры XVII ст. служылі ў якасці «ліцавых» арыгіналаў таксама і іншым майстрам, якія стварылі ў апошняй чвэрці XVII ст. «Тройцу» з Нікольскай царквы Крычава, «Хрыста Уседзяржыцеля» з гар. пас. Тураў Гомельскай вобл.

Пасля выяўлення рыс, характэрных для жывапісу Беларусі другой палавіны XVII ст., мэтазгодна зрабіць аналіз помнікаў па абласцях.

Творы Магілёўшчыны валодаюць некаторымі агульнымі рысамі. Каларыт іх пабудаваны на спалучэнні гучных фарбаў і тонкіх адценняў колеру, што найбольш ярка паказана ў тварэнні Пятра Яўсеевіча з Галынца. Абразы гэтага перыяду блізкія і па афармленню палёў. Разам з тым яны даюць магчымасць прасачыць эвалюцыю жывапісу і яго дэкаратыўнага афармлення.

Малюнак у работах апошняй чвэрці XVII ст., як можна бачыць на прыкладах «Успення» з Крычава і «Паўла» з Магілёўскай вобл., становіцца ўсё больш сухім і жорсткім, чым у абразах першай палавіны і сярэдзіны XVII ст. Далей, калі ў першай палавіне — сярэдзіне XVII ст. быў больш распаўсюджаны разны арнамент, то пазней пераважае аграфлёны. Вялікая колькасць агульных рыс, выяўленая ў гэтай групе помнікаў, дэманструе існаванне мастацкай школы на Магілёўшчыне.

Творы Брэстчыны не адрозніваюцца такім стылістычным адзінствам, якое назіралася ў магілёўскай групе абразоў. Шырокі кругагляд жывапісцаў Брэстчыны, цесныя кантакты з украінскімі і рускімі жывапісцамі і стварэнне імі вялікай колькасці абразоў, вядомых па архіўных матэрыялах, даюць магчымасць выказваць меркаванне аб цэнтралізацыі майстроў у цэхі. Удакладніць канкрэтнае месца найбольш актыўнай дзейнасці гэтых цэхаў пакуль не ўдалося.

Яшчэ менш вядома аб жывапісе Міншчыны. Сярод помнікаў, упамянутых у архіўных і літаратурных крыніцах, вядомы «Маці Боская з дзіцем» (Крупецкая?) у царкве былога жаночага кляштара бернардзінак у Мінску і «Узнясенне» сярэдзіны XVII ст. са Стэфанаўскай царквы ў Слуцку. Своеасаблівы малюнак, каларыт гэтых абразоў дазваляюць выказаць меркаванне, што яны адносяцца да другога лакальнага цэнтра, які пакуль умоўна можна назваць мінскім.

Творы з Гомельскай вобл.— «Хрыстос Уседзяржыцель» з гар. пас. Тураў і «Сашэсце ў пекла» (1678) з Праабражэнскай царквы Чачэрска — створаны пад уплывам віленскай і ўкраінскай гравюр 1627, 1677 гг. У іх, як і ў «Сашэсці ў пекла» з могільнікавай царквы Маці Боскай Адзігітрыі Дзісны, аднолькавая тэхніка выканання барочнага арнаменту, блізкія яны па каляроваму строю, канкрэтызацыі персанажа. Гучны каларыт, неіканапісная манера, характэрная для дзісенскага помніка, адрозніваюць і «Маці Боскую жываносную крыніцу» з манастыра ў Чонках Гомельскай вобл. У ёй узрасло значэнне пейзажа, напісанага цэльна, абагульнена, з якім умела звязаны фігуры другога плана. Па іканаграфічнай схеме «Маці Боская жываносная крыніца» аналагічная аднайменнаму абразу школы Аружэйнай палаты канца XVII — пачатку XVIII ст., што дазваляе аднесці яе стварэнне да таго ж часу.

Дадзены прыклад дэманструе творчыя сувязі беларускіх і рускіх жывапісцаў. З'явіўшыся ў мастацтве XIV—XVI стст., яны сталі больш цеснымі і трывалымі ў перыяд руска-польскай вайны (1654—1667). «Выхад на вечнае жыццё ў Маскву» сялян, рамеснікаў, які пачаўся ў сярэдзіне XVII ст., набывае масавы характар у другой палавіне гэтага стагоддзя. З Аршанскага Куцейнскага манастыра ў Маскву ў 1651 і 1664 гг. перасяліліся старац Грыгор'іца і манах Арцемій.

У сувязі з умацаваннем рускай дзяржавы ў сярэдзіне XVII ст. павялічваецца будаўніцтва цэркваў, палацаў, царскіх церамоў, патрыяршых палат і ўзрастае неабходнасць у вялікай колькасці таленавітых мастакоў, рамеснікаў. Таму ў 1656—1657 гг. «суздалец Петр Болотников послан был по государеву указу в польские города... для призыву розных дел мастеров». Па той жа прычыне ў Аружэйную палату ў 1660 г. пісаў адпіску віцебскі ваявода Н. М. Бабарыкін. Наладжванню цесных кантактаў рускіх і беларускіх мастакоў у гэты час садзейнічаў і прыезд некаторых царскіх жывапісцаў у Беларусь, напрыклад Сцяпана Разанца «з таварышы».

У Аружэйнай палаце, якая у другой палавіне XVII ст. стала буйнейшым мастацкім цэнтрам Расіі, побач з лепшымі мастакамі «земли русской» працавала 138 жывапісцаў, разьбяроў, залатых спраў майстроў — выхадцаў з Беларусі, у тым ліку жывапісцы Станіслаў Лапуцкі, Сямён Лісіцкі, Іван Міроўскі, Васіль Пазнанскі, Кіпрыян Умбраноўскі, Лявонцій Кісляkоўскі і іншыя (не менш як 30 чалавек)[26].

У складаным узбагачэнні культур розных народаў развівалася рускае мастацтва другой палавіны XVII ст. Вялікая роля ў ім належыць беларускім майстрам, якія ў сярэдзіне — другой палавіне XVII ст. перанеслі нацыянальны варыянт барока ў Расію.

Натуральна, што не ўсе вучоныя, паэты, рамеснікі перасяляліся ў Расію, многія з іх засталіся жыць у беларускіх гарадах. У архіўных матэрыялах другой палавіны XVII ст. упамінаюцца імёны 29 жывапісцаў, у тым ліку: у Віцебску — Федзька, які адзін «іконы зноў піша і старыя папраўляе», у Магілёве — Афанасій Пігарэвіч, Ігнат Соц, у Гродна — маляр Казімір, Самуіл Врановіч, у Вільні — Андрэй, Сцяпан Гарнастайскі, у Нясвіжы — Ф. Вітаноўскі і іншыя.

Наяўнасць імёнаў беларускіх мастакоў, твораў, вядомых па шматлікіх архіўных матэрыялах і літаратурных крыніцах, якія дайшлі да нас, паказвае, што, нягледзячы на феадальна-прыгонніцкі і нацыянальна-рэлігійны ўціск, які ўзмацніўся, на разбурэнне, выклікане войнамі, інтэнсіўнае перасяленне рамеснікаў і выдатных дзеячаў, такіх, як Сімяон Полацкі (1629—1680), у Расію, мастацтва ў Беларусі працягвала развівацца.

Такім чынам, знойдзеная вялікая колькасць агульных рыс у помніках XVII ст. ярка дэманструе існаванне нацыянальнай школы жывапісу. Аднача-сова ў іх маюцца і некаторыя адрозненні, якія можна растлумачыць бытаваннем мясцовых лакальных культурных цэнтраў. Найбольш выразна выяўляюцца контуры магілёўскай майстэрні, менш ярка — брэсцкай, віцебскай, гомельскай, гродзенскай і мінскай. З'яўленне малярскіх цэхаў у Беларусі было звязана з асаблівасцямі яе гістарычнага развіцця.

Адміністрацыйная самастойнасць беларускіх гарадоў, узаконеная магдэбургскім правам, наяўнасць у іх праваслаўных царкоўных брацтваў, якія сыгралі велізарную ролю ў барацьбе супраць насаджэння уніі і каталіцызму і выступілі ў ролі асноўнага заказчыка абразоў,— усё гэта садзейнічала кансалідацыі пры іх сіл праваслаўнага беларускага народа, у тым ліку і іканапісцаў.

У творах мастакоў гэтага перыяду атрымалі далейшае развіццё тыя рэалістычныя пачаткі, якія былі закладзены ў творчасці майстроў «Параскевы», «Хрыста Уседзяржыцеля» XVI ст. і Пятра Яўсеевіча з Галынца.

Разгледжаныя помнікі XVII ст. паказваюць, што ў жывапісе, як і ў скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, архітэктуры і літаратуры Беларусі, прасочваюцца нацыянальныя рысы, асаблівасці мясцовага стылю, мовы. Працэс абміршчэння беларускага і рускага мастацтва ў другой палавіне XVII ст. ідзе адначасова.

У XVII ст. у Беларусі працуе 48 жывапісцаў, 137 скульптараў, 665 залатых спраў майстроў. Творы розных відаў мастацтва другой палавіны XVII ст. даказваюць, што асноўным стылістычным напрамкам гэтага перыяду было сталае барока.

Наступны раздзел альбома прысвечаны іканапісу Беларусі XVIII ст. У першай палавіне — сярэдзіне XVIII ст. працягваецца эканамічны і палітычны заняпад Рэчы Паспалітай. Гэта быў час анархіі шляхты, разгулу рэакцыі, нябачанага феадальна-прыгонніцкага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску беларускага народа. У канцы XVII ст. былі закрыты праваслаўныя брацтвы, у справаводстве забаронена беларуская мова. У сярэдзіне XVIII ст. ганенні на праваслаўных беларусаў дасягнулі свайго апагея: было забаронена гаварыць на сойме ў карысць дысідэнтаў, а выступаючы ў абарону іншаверца лічыўся ворагам айчыны.

У гэты складанейшы перыяд майстры іканапісу XVIII ст., дэманструючы вернасць традыцыям мясцовага, старажытнарускага жывапісу, не цураліся дасягненняў заходнееўрапейскага мастацтва.

У дэкаратыўным афармленні абразоў XVIII ст. адбыліся некаторыя змены. Як і ў папярэднім стагоддзі, побач з распаўсюджаным разным арнаментам у Брэсцкай, Магілёўскай, Мінскай абл. з 1700 па 1762 г. сустракаецца ляпны арнамент фону ў Гомельскай, Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай абл. Аграфлёны арнамент з 1740 по 1797 г. маецца ў помніках пераважна Брэсцкай і Віцебскай абл. У XVIII ст. вялікая колькасць абразоў была створана з распісным арнаментам фону (у Брэсцкай і Віцебскай абл.) і без арнаменту — у Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абл. У афармленні палёў твораў зніжаецца колькасць работ з драўлянымі накладкамі з «камянямі» і павялічваецца — з простымі рамамі.

У арнаменце позняга барока XVIII ст., прыкладна ў 1730—1775 гг., усё больш актыўна выкарыстоўваецца шырокі рэпертуар ракако. Барочная арнаментыка трымаецца да пачатку XIX ст. Гэта добра бачна ў рабоце Сілініча «Узнясенне» (1808) з Праабражэнскай царквы (1704—1740) с. Барань Віцебскай вобл. У той жа час у помніках другой палавіны XVIII ст. ужо назіраецца станаўленне класіцызму, часта ў сімбіёзе з барока — шарашоўскі іканастас.

Для характарыстыкі жывапісу канца XVII—XVIII ст. залучаны абразы, алтарныя карціны з гарадоў Косава, Пінска, Ружан, Нясвіжа, сёл Нічыпаравічы, Басценавічы, Юрцава, Мірацічы, Рухча, Аброва і іншых.

Помнікі, створаныя ў канцы XVII ст. і каля 1700 г.— «Нараджэнне Маці Боскай» з с. Ляхавічы Брэсцкай вобл. і с. Нічыпаравічы Магілёўскай вобл., «Апосталы» з с. Юрцава Віцебскай вобл.,— напісаны пад моцным уплывам жывапісу Беларусі першай палавіны — сярэдзіны XVII ст. Іканаграфічная схема абраза з Нічыпаравіч узыходзіць да твора Пятра Яўсеевіча. «Апосталы» па каларыстычнаму складу пераклікаюцца з «Ільёй» (1668) з Ільінскай царквы Крычава. Стылістычна да «Апосталаў» з Віцебшчыны далучаецца група абразоў з Брэстчыны: «Дэісус» і «Сабор архангела Міхаіла» з Міхайлаўскай царквы с. Рубель; «Пётр» і «Павел» з с. Баркі; «Нараджэнне Маці Боскай» з с. Рухча. У апошняй уведзены каталіцкі літургічны сасуд — пушка-цыборыум, які раней не сустракаўся. Аб набыцці яшчэ іншага каталіцкага літургічнага апарата — манстранцыі і аргана — паведамляецца ў архіўных дакументах 1778 г. Ляшчынскага манастыра пад Пінскам[27].

Уяўленне аб характэрных асаблівасцях мастацтва першай палавіны XVIII ст. даюць тры помнікі, якія паходзяць з с. Басценавічы Магілёўскай вобл.,— «Аўраамій і Меркурый Смаленскія», «Цалаванне Іаакіма і Ганны», «Пакланенне вешчуноў». У іх ідэнтычныя іконныя асновы, грунты, пігменты і прапорцыі дошак. Блізкія яны і па кампазіцыі, манеры пісьма, тэхніцы выканання арнаментаў, што наводзіць на думку аб стварэнні ўсіх трох помнікаў адным майстрам.

Датаваць работы басценавіцкага мастака дапамагло супастаўленне архітэктурнага ансамбля, адлюстраванага на адной з іх, з відам Смаленска 1710—1721 гг. на абразе ў Смаленскім Успенскім саборы «Прападобны Аўраамій і Святы Меркурый — Смаленскія цудатворцы».

У аднайменным абразе з с. Басценавічы адсутнічае Гарадзецкая вежа, узарваная ў 1722 г. па неасцярожнасці кананіра. Дняпроўская вежа адлюстравана да яе першай рэканструкцыі ў 1728 г. Такім чынам, архітэктурны від на басценавіцкім абразе можна аднесці да часу пасля 1722 і да 1728 г. Тым жа часам датаваны сам абраз і два стылістычна блізкія помнікі.

У творах басценавіцкага майстра традыцыі беларускага жывапісу XVI ст. пераплятаюцца з дасягненнямі мастацтва XVIII ст. Упрыгожыўшы фон ляпным арнаментам, які сустракаецца ў беларускім жывапісе XV—XVI стст., ён укладае новы змест у старыя кампазіцыйныя схемы, пачэрпнутыя са старажытнарускага і заходнееўрапейскага рэнесанснага мастацтва, і ставіць задачы, хутчэй уласцівыя свецкаму жывапісу, чым іканапісу. Перадача прасторы, архітэктуры, размяшчэнне фігур на плоскасці дошкі выкананы ім, як у алейным жывапісу. Арнаментыка фону мае барочны характар.

З Басценавіч паходзіць абраз «Грамніцы (Стрэчанне)» (1731), вядомы яшчэ па публікацыях 1926 г., які да Вялікай Айчыннай вайны захоўваўся ў Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. Абраз вельмі добра кладзецца ў нашы ўяўленні аб мастацтве Магілёўшчыны 1720—1730 гг. У ім прадоўжаны пошукі басценавіцкага майстра ў перадачы непасрэдных чалавечых пачуццяў і настрою. З вялікім майстэрствам напісаны не толькі «далічнае», архітэктура, але і характары, тыпы персанажаў. Асабліва выразная Ганна-прарочыца, якая павярнулася да Марыі. Рысы, што назіраюцца ў абразах з Басценавіч, характэрныя для многіх помнікаў беларускага жывапісу першай палавіны XVIII ст., напрыклад, групы абразоў з Косава Брэсцкай вобл. Кампазіцыя «Святога сямейства» (1729) створана пад уплывам гравюры з аднайменнай карціны Б. Ф. Мурыльо (1642 г., Мюнхенская галерэя), а «Хрыстос Уседзяржыцель», «Маці Боская Адзігітрыя Мінская» (1729) традыцыйныя для беларускага і старажытнарускага жывапісу.

Неіканапіснай манерай пісьма работы басценавіцкага майстра і мастака М. Сазша «Святое сямейства» (1729) з Косава пераклікаюцца «Цуд Георгія аб змеі» (1717, 1729, 1736) і «Маці Боская з дзіцем» (1718, 1731) з сёл Латыгаль, Ёдчыцы Мінскай вобл., Чарнаўчыцы Брэсцкай вобл. і з Магілёўшчыны. У апошнім захаваўся ўкладны надпіс, зроблены на польскай мове, як і ў абразе «Антоній Падуанскі» (1744) з с. Мірацічы Гродзенскай вобл. У ім майстар увёў у заходнееўрапейскую іканаграфічную схему відарыс Хрыста з гравюры Максіма Вашчанкі (1680) і такім чынам з'яднаў мясцовыя традыцыі з заходнееўрапейскімі.

Сярод твораў 1730-х гг. асаблівай увагі заслугоўвае «Успенне» з Бешанковічаў з разгорнутым варыянтам кампазіцыі ўзнясення «во плоти» Маці Боскай. Анёлы на воблаках музіцыруюць на скрыпках, аргане, што адлюстроўвае новаўвядзенне ў выкананні культу ва уніяцкіх, праваслаўных цэрквах, выяўленае раней у «Нараджэнні Маці Боскай» з Рухчы і «Ірмалогіі» Іаана Рапалеўскага «Віцебскага» (1700—1744)[28].

Ва «Успенні» з Бешанковічаў на пярэднім плане паказана ўсекнавенне рук Аўфонію. «Надзвычайна, што Аўфоній пададзены ў выглядзе езуіта, менавіта ў капелюшы і мантыі езуіта. Такім чынам, абраз гэты служыць як бы жывым сведчаннем тых праследаванняў, якім падвяргалася праваслаўная царква з боку езуітаў». Гэта апісанне другога аднасюжэтнага абраза, быццам бы зробленага з басценавіцкага помніка[29], які ў 1890 г. свяшчэннік драгічынскага прыхода Іларыён Будзіловіч перадаў у Пецярбургскую Імператарскую археаграфічную камісію.

Адначасова з рэцыдывамі Рэнесансу, якія назіраюцца ў работах басценавіцкага майстра— крыллях алтара з Косава, у мастацтве сярэдзіны XVIII ст. усё больш моцнымі становяцца элементы позняга барока — ракако, якія праяўляюцца ў ляпніне фону — «Хрыстос на прастоле. Вялікі архірэй» з Пінска, у дэкарыроўцы клеймаў «Мікола з жыціем» (Мінск), у скразной разьбе афармлення абразоў святочнага рада з Крыжаўзвіжанскай царквы (1754—1757), якая захоўвалася ў Міхайлаўскай царкве с. Аброва Брэсцкай вобл. Двума аброўскімі майстрамі ўведзена многа займальных дэталяў, бытавых падрабязнасцей у помніках: нацюрморт у «Нараджэнні Маці Боскай», вянок з палявых кветак на галаве Марыі ва «Увядзенні ў храм». Некаторыя кампазіцыі абразоў святочнага рада з Аброва выкананы пад уплывам заходнееўрапейскіх узораў, напрыклад, «Хрышчэнне», «Сашэсце ў пекла», «Сашэсце Святога духа на апосталаў», большасць жа ўзыходзіць да гравюр беларускіх і ўкраінскіх выданняў XVII—XVIII стст.

У сярэдзіне — другой палавіне XVIII ст. былі папулярнымі гравюры беларускіх і ўкраінскіх кніг (1674, 1677, 1724, 1748). Яны сталі кужбушкамі не толькі для абразоў з Міхайлаўскай царквы с. Аброва і з Пакроўскай царквы Маладзечна Мінскай вобл. «Мікола», «Маці Боская Адзігітрыя. Уваскрэсенне» і «Благавешчанне» з с. Вялікі Рожан Мінскай вобл. Часам беларускія іканапісцы XVIII ст., як і ў папярэднім стагоддзі, звярталіся да Бібліі Піскатара, як, напрыклад, майстар «Благавешчання» са Святатроіцкай царквы с. Зелава Брэсцкай вобл.

Па гравюры 1724 г. выканана «Тройца» з Вялікага Малышава Брэсцкай вобл. Іканапісцам гравюра была выкарыстана ў люстраным адлюстраванні, таму ў гэтым абразе, як і ў «Сашэсці ў пекла — Уваскрэсенні» з Дзісны, атрымалася, што персанажы левай рукой благаслаўляюць. Гэта гаворыць аб тым, што іканапісцы, нярэдка паўтараючы традыцыйныя схемы, не разумелі іх рэлігійнага зместу, што сведчыць аб зніжэнні адукаванасці ў жывапісцаў і царкоўнага кліра — заказчыка. Напэўна, не выпадкова ў прадмове да супрасльскага Лексікона (1722) напісана: «Иерей едва словенский разумеет язык, не ведает, что чтёт в божественной службе с погибелью своею и поруганных Пастве его пущи кровею господа Бога»[30].

Характэрныя рысы іканапісу Беларусі сярэдзіны — другой палавіны XVIII ст. прасочваюцца на групе помнікаў з сёл Латыгава, Вялікі Рожан, Зелава, іканастасах з Шарашова, Давыд-Гарадка, Альгомеля і на асобных абразах Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абл.

Калі ў дэкаратыўным убранні іканастаса сярэдзіны — другой палавіны XVIII ст. у Георгіеўскай царкве (1724) Давыд-Гарадка Брэсцкай вобл., які ўключаў 44 абразы і складаўся з мясцовага, святочнага, дэісуснага, прарочага чыноў, яшчэ моцныя барочныя павевы, то больш сціплы дэкор трохраднага (мясцовы, святочны і дэісусны чыны) іканастаса другой палавіны XVIII ст. ва Уваскрэсенскай царкве с. Альгомель Брэсцкай вобл. і групы абразоў 1758—1761 гг. (якая, напэўна, паходзіла з мясцовага рада іканастаса) з с. Вялікі Рожан Мінскай вобл.

Вылучаецца з вышэйназваных твораў датаваны падпісны абраз «Дэісус» Маркіянавіча (1758). Ярка выяўленая манера выканання гэтага майстра дазваляе прыпісаць яму ўсе творы, якія паходзяць з гэтай жа царквы,— «Маці Боская Адзігітрыя. Уваскрэсенне», «Тройца», «Благавешчанне», «Пакроў» (1761—1766), у якіх прасочваецца многа стылістычна блізкіх рысаў. Кампазіцыі Маркіянавіча ўзыходзяць да гравюр, змешчаных у беларускіх і ўкраінскіх кнігах (1677, 1693, 1698, 1724), і ўкраінскага жывапісу XVII ст. Растова-суздальскі звод «Пакрова» быў выкарыстаны не толькі Маркіянавічам, але і раней у аднайменным абразе (1751) з Пакроўскай царквы Маладзечна.

Асаблівасці беларускага жывапісу другой палавіны XVIII ст. выяўляюцца і ў іканастасе з Прачысценскай царквы гар. пас. Шарашова (з 36 абразоў). У афармленні яго ўжо больш строгасці, ураўнаважанасці, характэрнай для помнікаў новага стылістычнага напрамку — класіцызму, своеасаблівасць якога ў Беларусі праяўляецца ў зліцці з элементамі папярэдняга стылю — барока.

Іканастас складаўся з трох радоў — мясцовага, святочнага і дэісуснага. Цягі і рамы яго былі размаляваны пад белы мармур з блакітнымі пражылкамі. У мясцовым радзе знаходзіліся «Маці Боская Адзігітрыя» і «Хрыстос Уседзяржыцель». Сярэднікам святочнага рада і дэісуснага чыну служыў абраз «Хрыстос на прастоле. Маці Боская Знаменне». Напэўна, абразы сярэдніка, мясцовага рада і дэісуснага чыну былі напісаны адным майстрам. У карысць гэтага сведчаць адзіная манера пісьма, аграфлёны арнамент, арыентацыя на старажытнарускія кананічныя схемы.

Своеасаблівасць святочнага рада адзначана тым, што ён уключае ў сябе абразы цыкла Маці Боскай кароткай рэдакцыі, створаныя пад уплывам візантыйскага мастацтва XIV—XV стст., і ўласна святы, іканаграфічныя схемы якіх запазычаны з беларускіх і ўкраінскіх гравюр XVII ст. Выкананыя, напэўна, іншым майстрам, абразы святочнага рада насычаны мноствам бытавых дэталяў, убачаных у жыцці падрабязнасцей — вязаныя карункі пакрывала на ложку Маці Боскай ва «Успенні», Марыя ў «Распяцці», якая выцірае хустачкай слёзы.

З Прачысценскай царквы Шарашова паходзіць храмавы абраз «Выбраныя святыя: Васіль Вялікі, Рыгор Багаслоў і Іаан Златавуст». Майстар яго ўвёў у традыцыйную схему калоны і з натуры намаляваў адзенне уніяцкіх свяшчэннаслужыцеляў, іх рукі, даў ім дакладныя характарыстыкі. Яркая, сакавітая каларыстычная гама, простанародны тыпаж, канкрэтнасць у перадачы адзення, бытавых дэталяў набліжаюць шарашоўскі іканастас да твораў свецкага жывапісу і сведчаць аб развіцці беларускага нацыянальнага жывапісу другой палавіны XVIII ст. у бок рэалізму.

У адрозненне ад работ Маркіянавіча, абразоў шарашоўскага, альгомельскага, давыд-гарадоцкага іканастасаў і святочнага рада з Аброва помнікі са Святатроіцкай царквы с. Зелава створаны пераважна па заходнееўрапейскіх схемах. У другой палавіне XVIII ст. гэтыя ж схемы выкарыстоўваліся ў радзе абразоў, напрыклад «Маці Боская Адзігітрыя Рымская» (1766) у Крыжаўзвіжанскай царкве с. Аранжацы Брэсцкай вобл., «Каранаванне Маці Боскай» з с. Нова-Тухіна Віцебскай вобл. Іншы раз беларускія мастакі імкнуцца сплаўляць гэтыя схемы з традыцыямі мясцовага і старажытнарускага мастацтва, напрыклад, у абразе «Працвіўшае дрэва крыжа» ў Казанскай царкве Маркава манастыра ў Віцебску. Нярэдка жывапісцы паралельна пісалі абразы па візантыйска-рускіх кананічных схемах і на той жа сюжэт — па заходнееўрапейскіх. Таму побач з растова-суздальскім зводам «Пакрова», вядомым па помніках 1751, 1761 гг., з'яўляецца «Пакроў» заходнееўрапейскага тыпу ў работах латыгаўскага майстра і Яна (1797) з Успенскай царквы с. Бусяж Брэсцкай вобл. Адначасова з абразамі «Нараджэнне Хрыстова» сустракаюцца адлюстраванні «Пакланенне вешчуноў» з Пакроўскай царк-

вы с. Андронава Брэсцкай вобл., «Пакланенне пастухоў» з Праабражэнскай царквы с. Олтуш Брэсцкай вобл. Больш моцнаму пранікненню заходнееўрапейскіх павеваў у беларускі жывапіс XVIII ст. спрыяла тое, што яны ішлі і праз рускае мастацтва, якое ў той час развівалася сінхронна з заходнееўрапейскім.

Іканастасы, якія захаваліся ў Давыд-Гарадку, Шарашове, асобныя помнікі, што ўваходзілі некалі ў ансамблі, з вялікім намаганнем дазваляюць уявіць асаблівасці афармлення царкоўных інтэр'ераў у Беларусі XVI—XVIII стст.

У нейкай ступені запаўняюць гэтую лакуну справаздачы візітораў, зробленыя ў 1870-х гг. і надрукаваныя ў «Апісаннях цэркваў Мінскай епархіі». Яны даюць уяўленне аб 523 цэрквах Беларусі. У XIX ст. перабудоўваліся цэрквы: XIII ст.— 1; XV — 2; XVI — 13; XVII — 15; XVIII — 62; XIX — 341, у тым ліку і тыя культавыя будынкі, даты збудавання якіх не былі вядомы. Неперабудаванымі ў XIX ст. засталіся 89 цэркваў XVIII ст.[31]

Найвялікшая колькасць абразоў у XVI ст. вядома ў іканастасе Успенскага храма (1588) Ляшчынскага манастыра пад Пінскам — 45; у XVII ст.— у Нікольскай царкве (1669) у Магілёве — 49. Такім чынам, у XVI—XVII стст. у Беларусі былі распаўсюджаны высокія шмат'ярусныя іканастасы. У XVII ст. яны ўпрыгожваліся пышнай аб'ёмнай навылётнай пазалочанай разьбой, якая ў Масковіі атрымала назву «беларуская рэзь навылётная». Прыкладам таму могуць служыць іканастасы вышэйназванай Нікольскай царквы ў Магілёве (1669), Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве (1685) і Троіцкай царквы Маркава манастыра ў Віцебску (1690).

Афармленне іканастасаў у XVIII ст. стала больш сціплым. Са 109 цэркваў XVIII ст. толькі ў 12 былі пазалочаныя карнізы, капітэлі, рамы, разьба: Давыд-Гарадок (1724), Аброва (1754), Петрыкаў (1772), Ятра (1773), Лаўрышава (1778), Востраглядавічы (1779), Навагрудак (1780), Калпеніца (1781), Брагін (1790), Любінічы, Грушна (1792), Ліпава (1800).

Разнастайным было ўпрыгожанне рам і цяг іканастасаў. Пад фальшмармур, як шарашоўскі, быў размаляваны іканастас у храме Іосіфа ў Магілёве (1780), у белы колер — у 18 цэрквах, сіні — у 11, блакітны — у 10 цэрквах. У чырвоны, цёмна-чырвоны, светла-блакітны, цёмна-сіні, зялёны, цёмна- і светла-зялёны, шэры, матавы, попельны, проста цёмны, перлавы, «дзікі» колеры былі пафарбаваны рамы, цягі, шмат якіх іканастасаў у Беларусі. У такой рознакаляровасці роспісу іканастасаў, як і ў разьбе іх, бачны народныя ўяўленні і густы.

У XVIII ст. у Беларусі працягваюць стварацца шмат'ярусныя іканастасы. Вядомы адзін шасціярусны іканастас у Астроўскай Міхайлаўскай царкве Слуцка (1795) і адзін надіканастасны крыж з Гарадца Магілёўскай вобл. Таму зразумела, што, як і ў XVII ст., іканастасы XVIII ст. завяршаліся Распяццем з прадстаячымі.

У 7 цэрквах XVIII ст.— Давыд-Гарадку (1724), Брагіне (1743), Брэсце (1759), Петрыкаве (1772), Шчорсах (1776), Брагіне (1790), Востраглядавічах (1779) — пяціярусныя іканастасы завяршаюцца прабацькаўскім радам. У давыд-гарадоцкім іканастасе, перакампанаваным у пачатку XIX ст., застаўся напамінак гэтага чыну ў выглядзе аднаго абраза — «Саваоф».

Чатырох'ярусныя іканастасы былі ў Вялемічах (1724), Бабчыне (1740), Аброве (1754), Прусах (1772), Грушне (1792). Асобныя абразы з прарочага рада вядомы з Зелава, Альпені, Данілавічаў.

Найбольшае распаўсюджанне ў Беларусі ў XVIII ст. атрымалі трох-, двух- і аднаярусныя іканастасы. Трох'ярусныя іканастасы апрача шарашоўскага былі яшчэ ў 23 цэрквах і завяршаліся дэісусным чынам. Побач з традыцыйным «Дэісусам» (Альгомель, Ольпень, Антопаль, Зелава) у Беларусі выкарыстоўваюцца іншыя іканаграфічныя зводы — «Хрыстос на прастоле» (Шарашова), «Хрыстос на прастоле. Вялікі архірэй» (Аброва, Пінск), «Цар цароў» (Давыд-Гарадок; з Міншчыны, 1791). Іншы раз у дэісусным чыне іканастасаў XVII—XVIII стст. апускаюцца прадстаячыя да Хрыста Маці Боская, Іаан Прадцеча, анёлы і ўводзяцца толькі 12 апосталаў па аднаму ці папарна (Магілёў, Зелава, Юрцава, Пінск і іншыя). Незвычайным з'яўляецца з'яднанне анёлаў, апосталаў з патранальнымі выявамі (Латыгава).

Двух'ярусныя іканастасы сустракаюцца ў 22 цэрквах XVIII ст. Як і ў XVII ст., на другім ярусе высокіх і малых іканастасаў размяшчаўся святочны чын, які ішоў пад дэісусным, а не над ім, як у старажытнарускім мастацтве. У гэтым чыне не прытрымліваліся адлюстравання толькі двунадзесятых святаў. У аброўскім радзе выключаны «Тройца», «Увядзенне ў храм» і ўведзены «Уваскрэсенне», «Сашэсце Святога духа на апосталаў». У шарашоўскім іканастасе замест «Тройцы» ўключана «Сашэсце Святога духа на апосталаў», у Вялемічах прапушчаны «Грамніцы (Стрэчанне)», «Тройца», «Узвіжанне крыжа» і ўключаны «Благавесце Марыі» (апакрыфічнае), «Уваскрэсенне», «Сашэсце Святога духа на апосталаў».

У Беларусі назіраецца злучэнне святаў з патранальнымі выявамі на адным іконным шчыце (Латыгава). У адрозненне ад традыцыйнай паслядоўнасці размяшчэння абразоў, якая дазваляла прасачыць «зямное жыццё» Хрыста, у Беларусі сюжэты перакампанаваны па мінейнаму цыклу, г. з. часу адпраўлення святаў, як гэта мае месца ў каталіцкіх храмах. Пачатак гэтай з'яве пакладзены ў Вялемічах (другая палавіна XVIII ст.), завяршэнне пра-

сочваецца ў святочным радзе (канец XVIII — пачатак XIX ст.) у Давыд-Гарадку.

У 26 цэрквах XVIII ст. былі аднаярусныя іканастасы, у якіх колькасць абразоў гайдалася ад 4 — Божын (1777), Ячанка (1784) да 14 — Магільна (1800). У XVI—XVII стст. у аднаярусных іканастасах найменшая колькасць абразоў была чатыры-пяць — Прылукі, Адахаўшчына (1610), Салтанаўшчына (1695) і даходзіла да 17 — Новы Свержань (1590). Гэта значыць, на працягу XVI—XVIII стст. незвычайных змен у вырашэнні аднаярусных іканастасаў не адбывалася.

Дык вось, у 100 цэрквах XVIII ст., якія прыцягнулі нашу ўвагу, 6-ярусны іканастас быў толькі адзін, 5-ярусных — 8; 4-ярусных — 5; 3-ярусных — 23; 2-ярусных — 22; 1-ярусных — 26. Відавочнай у гэтым стагоддзі становіцца тэндэнцыя да «звароч-вання» радоў іканастасаў, адказу мясцовых майстроў ад маштабных форм у афармленні царкоўных інтэр'ераў. Адначасова з гэтым усё больш адчуваецца ўвядзенне новых элементаў ва ўбранні інтэр'ераў. За прастолам на горным месцы з'яўляюцца алтары («Пётр», «Павел» — крылы алтара з Косава — другая чвэрць XVIII ст.). Яны, як і ў касцёлах, пачынаюць майстравацца на паўночных, паўднёвых сценах храмаў, на фоне калон, што добра прасочваецца ва ўсіх уніяцкіх цэрквах: у Бабчыне (1740), Барбарове (1779), Вязку (1793), Смедане (1795); Сафійскім саборы ў Полацку (1750-я гг.), Георгіеўскай царкве ў Жыровічах і ў іншых.

Уяўленне аб характары афармлення такіх алтароў дае тытульны ліст «Ліцавога» Нотнага Ірмалога Іаана Рапалеўскага «віцебскага» (1740—1744). У некаторых цэрквах наогул адмовіліся ад узвядзення іканастасаў, аддаючы перавагу алтарам (Вольна, 1768). У цэрквах паўсюдна з'явіліся фератроны — двухбаковыя выносныя абразы, упрыгожаныя разьбой, скульптурай, аправамі (Шарашова, Смаркі, Малая Бераставіца і іншыя), якія былі неад'емнай часткай інтэр'ераў касцёлаў.

Такім чынам, на працягу XVIII ст. адбываюцца змены ў дэкаратыўным афармленні царкоўных інтэр'ераў, што было цяснейшым чынам звязана з нова-ўвядзеннем у выкананні культу.

Гэты працэс дакрануўся непасрэдна і да іканапісу. Візіторы XIX ст. падкрэслівалі, што побач з традыцыйнымі абразамі ў цэрквах з'яўляюцца помнікі, напісаныя алейнымі фарбамі на палатне,— Брэст (1759), Астрожанка (1770), Божын (1777). Гэта добра прасочваецца і ў «Маці Боскай Жыровіцкай» сярэдзіны XVIII ст. у Быцені, якая па мастацкаму ўзроўню выканання не ўступае такім алтарным карцінам таго ж часу, як «Тайная вячэра» (1753) К. Д. Гескі (пам. у 1769) у Нясвіжы, «Казімір» у Ружанах.

Візіторамі былі вылучаны абразы розных стыляў — візантыйскага (Прусы, 1772), італьянскага (Браслаўцы, 1799) — і пісем: мясцовага (Быхаў, 1757), грэчаскага (Петрыкаў, 1772), маскоўскага (Дудзічы, 1778), акадэмічнага (Лучыцы, 1785).

Імі ж быў падкрэслены ўзровень выканання помнікаў у ансамблях. Побач з творамі выдатнай работы даволі значнага, прыстойнага пісьма — Еўтушковічы (1753), Вічын (1759), Рудабелка (1770), Махро (1792), Рубель (1796) — імі нямала ўказана іканастасаў нізкай годнасці, немастацкага, непрыстойнага пісьма — Дунайчыцы (1707), Беразіно (1716), Верасніца, Мокрава (1782), Брадзец, Ліпаў (1800).

У цэрквах Магілёўшчыны з 1711 г. пачынаюць выкарыстоўвацца як абразы гравюры, напрыклад «Маці Боская Тупічэўская» з подпісам мастака І. Іаана Шалап, а на Віцебшчыне ў 1771 г. у скарыстанні былі «образа бумажные»[32]. Гэтыя факты сведчаць як аб беднасці цэркваў у Беларусі, так і аб пошуках новых мастацкіх форм.

У жывапісе сярэдзіны — другой палавіны XVIII ст., як і ў барочнай скульптуры, велізарная роля адводзілася пазалоце, пасерабрэнню. У абразах мясцовых чыноў шарашоўскага, давыд-гарадоцкага іканастасаў уведзены пазалочаны арнаментаваны фон, жывапіснае адзенне закрыта пазалочанымі, пасярэбранымі чаканнымі, гравіраванымі рызамі. Такім жа чынам былі дэкарыраваны абразы «Хрыстос Уседзяржыцель» (1766) у Пінску, «Маці Боская з дзіцем» (1795) у Стахаве, Гарадцы, Лунна, Масары, Гродна і інш.

Часам фон ікон, як і алтарных карцін, зацягвалі рознакаляровым аксамітам ці сукном, да якога прыстасоўвалі зоркі, манаграмы Хрыста, Маці Боскай, воты. Напрыклад, абразы «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская» (1774), аклад якой выканаў залатых спраў майстар Пётр Сліжак, «Хрыстос Уседзяржыцель» (1767) у с. Месткавічы Брэсцкай вобл. і інш. Даследчык пачатку XX ст. П. М. Красавіцкі лічыў, што такім чынам «задавальнялася імкненне да царкоўнага хараства пры параўнальнай беднасці насельніцтва Заходняй Русі»[33].

У XVIII ст. рызы, аправы выконваліся як з металу, так і з дрэва з яго дадатковай апрацоўкай, пазалотай, пасерабрэннем і дэкарыраваннем арнаментам — «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская» XVI ст. з Дубянца Брэсцкай вобл., «Пётр» і «Павел» з Магілёва і інш.

Даволі шырока ў гэтым стагоддзі аграфленнем упрыгожвалі не толькі фоны, але і адзенне, архітэктурныя пейзажы, нацюрморты — абразы «Маці Боская Адзігітрыя» (1750) з Чарніхова Брэсцкай вобл., «Хрыстос Уседзяржыцель», «Нараджэнне Маці Боскай» у Чарнянах Брэсцкай вобл. і інш.

Па сутнасці, у XVIII ст. жывапісцы ў абразах сталі маляваць рукі, твары, таму што «далічнае» аказвалася закрытае акладамі, рызамі, шатамі, дэкаратыўнымі ляўкаснымі фонамі. Гэта сведчыла, з

аднаго боку, аб росквіце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, з другога — аб элементах заняпаду іканапісу.

Яны бачны ў работах М. С. Сазша (1729), «Цуд Георгія аб змеі» (1736), у помніках іканастаса Латыгаўскай царквы пад Віцебскам (1740-я гг.) — «Каранаванне Маці Боскай», «Пакроў», «Нараджэнне Хрыстова», «Маці Боская Адзігітрыя Мінская»,— у двухбаковым абразе «Цуд Георгія аб змеі. Ануфрый» (1748) з Прачысценскай царквы с. Павіць Брэсцкай вобл., у трохстворчатым складзені «Наталля. Маці Боская Адзігітрыя Мінская. Архангел Рафаіл» (1760) з Усясвяцкай царквы гар. пас. Тураў Гомельскай вобл., у «Пакрове» Яна (1797). Пры падкупляючай наіўнасці ў перадачы тыпажу, бытавых дэталяў у іх насцярожвае адсутнасць майстэрства, характэрнага раней іканапісу Беларусі. Гэта працэс натуральны. Змест рэлігійнага мастацтва ўступае ў невырашальную супярэчнасць з асноўнымі ідэямі часу. Гэтыя тэндэнцыі мы ўжо мелі магчымасць назіраць у помніках XVII ст. У выніку ўмоў, якія гістарычна склаліся і выявіліся ў экспансіі каталіцызму і неабходнасці арыентацыі іканапісцаў на старажытнарускія ўзоры, іканапіс Беларусі праіснаваў яшчэ цэлае стагоддзе.

Па-за межамі ўвагі візітораў XIX ст., як і савецкіх даследчыкаў, аказаліся кантакты беларускіх і ўкраінскіх майстроў, якія не перапыняліся да канца XVIII ст. Шырокай папулярнасцю ў Беларусі карыстаўся мастацкі цэнтр у Кіеве. Туды яшчэ ў 1759 г. з брэсцкіх цэркваў было адпраўлена многа абразоў для аднаўлення «з захаваннем старога пісьма»[34]. Яго роля асабліва ўзмацнілася пасля адкрыцця жывапіснай школы пры Кіева-Пячэрскай лаўры ў 1763 г. У ёй вучыліся Іван Лем (Сягневіч) з Брэст-Літоўска, Іван Травага (Трывага) і Васіль Маркіялавіч са Слуцка. У 1797 г. у Магілёў для роспісу кафедральнага сабора быў запрошаны выхадзец з Украіны, відны майстар рускага жывапісу У. Л. Баравікоўскі (1757—1826), дзе выканаў на медзі «Партрэт Кацярыны II» і абраз «Архангел Гаўрыіл». А ў сваю чаргу ў 1799 г. з Магілёва ў Кіеў «быў звольнены для навучання іканапіснаму майстэрству» Яўстафій Маргун, вучань свяшчэнніка-іканапісца Васіля Сушчэўскага[35].

У архіўных і літаратурных матэрыялах XVIII ст. упамінаецца вялікая колькасць помнікаў і імён беларускіх жывапісцаў: на Брэстчыне — Іван Лем, Е. Есафат Кахановіч, Ян; у Вільні — Бенядзікт Паўлоўскі, Эстка, Мярэжка; на Віцебшчыне — Іаан Рапалеўскі «віцебскі», Пётр Руткоўскі, Фядул Дзмітрыеў; у Полацку — Гаўрыіл Грубер, на Гродзеншчыне — Шаталовіч; на Міншчыне — Маркіянавіч, Іван Травага (Трывага), Васіль Марціянавіч (Марціянавіч), Іосіф Ксаверый, Ксаверый Дамінік Гескі, Іосіф Пешка; на Магілёўшчыне — Міхаіл Багамаз, Мацвей Філановіч, Варфаламей і Якуб Коты, Рыгор Мікітавіч Мядзвецкі, Фёдар Макрэўскі, Яўстафій Маргун, Васіль Сушчэўскі, Антон Главацкі. Мастакі былі рознага веравызнання, выхадцамі з розных краін: Італіі, Францыі, Германіі, Іспаніі, Польшчы, Літвы, Украіны, Беларусі. Яны выконвалі заказы царквы, магнатаў, шляхты і простага народа, нярэдка мігрыравалі па ўсёй тэрыторыі Беларусі (езуіты і г. д.).

Выяўленне імёнаў мастакоў, даследаванне помнікаў XVIII ст. дазваляюць вызначыць некаторыя мастацкія цэнтры. Найбольш выразна пераемнасць традыцый, пакаленняў мастакоў бачна ў магілёўскім цэху. Менш праяўляецца характар малярных цэхаў астатніх абласцей Беларусі.

Прасочваючы эвалюцыю іканапісу Беларусі XV—XVIII стст., можна заўважыць, што жывапіс XV — першай палавіны XVII ст. валодае большай арыгінальнасцю, творчай самабытнасцю і выразнасцю. У гэты перыяд адбываецца працэс актыўнага фарміравання і развіцця нацыянальнай мастацкай школы. У другой палавіне XVII—XVIII ст. іканапісцы нярэдка паўтараюць дасягненні сваіх папярэднікаў, а ў канцы XVIII ст. іканапіс, страчваючы палітычнае значэнне, усё больш губляе высокі прафесіяналізм. З'яўляюцца асобныя работы таленавітых майстроў — Сілініч, «Узнясенне» (1808) з с. Барань Віцебскай вобл. Але гэта толькі адзінкавыя помнікі. Нашы назіранні і вывучэнне іканапісу Беларусі дазваляюць зняць тэзіс М. М. Шчакаціхіна аб «адносна познім росквіце беларускага жывапісу ў XVII—XVIII стст.»[36]

У іканапісе, алтарным, партрэтным жывапісе, як і ў іншых відах мастацтва, добра прасочваюцца асноўныя перыяды развіцця беларускай культуры: Рэнесанс — XV—XVI стст.; ранняе барока — канец XVI — першая палавіна XVII ст.; сталае барока — другая палавіна XVII ст. і позняе барока — XVIII ст. З другой палавіны XVIII ст. ужо назіраюцца элементы класіцызму. Станаўленне барока ў Беларусі ідзе на базе асноўных еўрапейскіх стыляў у непарыўным адзінстве з візантыйска-рускімі і мясцовымі традыцыямі IX—XV стст. Прычым неабходна заўважыць, што мастацтва Беларусі развіваецца не ізалявана, а ва ўзаемасувязі і ўзаемаўплыве з культурамі Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Францыі, Расіі і многіх іншых краін.

Менавіта таму іканапісу Беларусі належыць немалаважная роля ў шырокай сістэме міжславянскіх культурных кантактаў у XV—XVIII стст., у перадачы навацый з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Таму вывучэнне іканапісу мае вялікае навуковае значэнне. У той жа час творчае асэнсаванне мастакамі гэтых традыцый можа аказаць дабратворны ўплыў на развіццё сучаснага нацыянальнага мастацтва.

Особое место в культуре народов славянских стран принадлежит иконописи Белоруссии. В ней традиции византийского и древнерусского искусства, получившие свое усвоение в культуре древних городов Белоруссии (IX—XIV вв.), соединены со стилистическими особенностями западноевропейского искусства — Ренессанса (XIV—XVI вв.), барокко (конец XVI—XVIII вв.), классицизма (вторая половина XVIII в.).

Причина этого явления коренится в своеобразии исторического развития Белоруссии. Расположенная на стыке латинского Запада и православного Востока, она входила в состав Великого княжества Литовского (XIV—XVI вв.) и Речи Посполитой (XVI—XVIII вв.). В этих условиях происходило формирование белорусской народности, языка, культуры (XIV—XVI вв.). Немалая роль в этом процессе принадлежала иконописи.

Становление белорусской иконописной школы относится к XV—XVI вв. Именно в этот период местные изографы, освоив византийско-русскую технологию письма и традиции, обрели свой индивидуальный почерк, нашли свои типы, характеры, свое понимание колорита, свои иконографические изводы. К этому времени относится появление местных типов икон: «Богоматерь Умиление Жировицкая», «Богоматерь Одигитрия Минская», «Богоматерь Одигитрия Супрасльская», «Богоматерь Новосвержинская» и многие другие.

Раскрытые реставраторами памятники XV—XVI вв.— «Богоматерь Одигитрия» со Слутчины, «Богоматерь Одигитрия Смоленская» из Дубенца — традиционны по иконографии, но необычны для работ славянского круга декоративным решением нимбов, что имеет аналогии в итало-критской живописи. Одновременно с этим направлением в иконописи все более мощным становится новое течение. В нем местные мастера отказываются от византийско-русской техники письма и осваивают профессиональные приемы западноевропейской алтарной и светской живописи. Они светотеневой моделировкой формы начинают лепить объем, передавать глубину, перспективу. Это хорошо видно в таких шедеврах искусства Белоруссии XVI в., как «Параскева», «Христос Вседержитель». Фон этих икон, как и итальянских, испанских, немецких, французских, польских, чешских алтарных картин и полиптихов XIV—XVI вв., заполняется резным орнаментом крупного рисунка, имитирующим итальянские ткани.

В белорусских памятниках произошло слияние православной иконографии с новыми техническими и стилистическими приемами живописи европейского Ренессанса. Наиболее ярко эти тенденции, выраженные в компромиссном соединении нового и старого (средневекового) мышления, нашли отражение в деятельности выдающегося белорусского первопечатника, просветителя, философа Франциска Скорины — уроженца града Полоцка (около 1490 — не позднее 1551).

В то же время в памятниках конца XVI в. уже ощутимы элементы позднего Ренессанса — маньеризма, в недрах которого формируется новый стиль — барокко, который стал одним из основных направлений в культуре Белоруссии следующих двух столетий.

В иконописи XVII в.— работах малоритского мастера (1648—1650), Петра Евсеевича из Голынца (1649) и др.— наблюдаем характерный для барокко иллюзионизм, патетику, передачу жизненных наблюдений и народный мажорный колорит. Насыщение реалиями канонических схем превращало иконы в жанровые сцены на библейский сюжет, что разительно отличает живопись Белоруссии от более традиционного искусства Древней Руси.

Сбережение православного канона, за чем неустанно следили клир и церковное братство, было вызвано и политическими соображениями, выразившимися в борьбе против насильственного насаждения унии (1596) и католицизма. Иконопись XVII—XVIII вв., став одной из форм борьбы за свою национальную культуру, приобрела политический характер.

Именно эта роль способствовала сохранению организма иконы на протяжении двух столетий. Тогда работало не менее 220 живописцев, создавших памятники и оформлявших интерьеры храмов. По архивным материалам и в сохранившихся ансамблях (Могилев, Давид-Городок, Шерешево) можно проследить эволюцию иконостасов и выявить их своеобразие, выразившееся в многоярусности, особом решении деисусного чина, большом внимании к декоративному оформлению в стилях барокко и классицизма.

Иконопись Белоруссии XV—XVIII вв., отразившая чаяния и вкусы народа, его любовь к традиционности и усвоению новых стилистических норм, мажорному цвету, декоративности и к узорочью, некоторой наивности и в то же время трезвости восприятия окружающей действительности,— яркая страница культуры славянских народов.

Belorussian icon-painting ranks high in Slav culture. The traditions of the Bysantine and Ancient Russian art, which were assimilated by the culture of Belorussia's old towns (the 9th—14th cc.), have been united with the stylistic peculiarities of the West European art — the Renaissance (the 14th—16th cc.), baroque (late 16th—18th cc.), classicism (latter half of the 18th c.).

The roots of this phenomena lie in the originality of historical development of Belorussia. Being situated at the juncture of the Latin West and the Orthodox East, Belorussia was a part of the Great Duchy of Lithuania (the 14th—16th cc.) and Rzechpospolita (the 16th—18th cc.). In such conditions took place the formation of the Belorussian nation, language, culture (the 14th—16th cc.) And the icon-painting played a sterling part in this process.

The formation of the Belorussian icon-painting traces back to the 15th—16th centuries. At the very time-span, local painters having accumulated the Byzantine traditions and painting technology, acquired their individual manner, found types, characters, their own vision of colouring, their own iconographic versions. From that time dates the emergence of local-type icons.

The restored monuments of the 15th—16th centuries: The Virgin Hodigitria, Slutsk Region; the Virgin Hodigitria of Smolensk, the town of Dubenets, are traditional in iconography but unusual for the works of the Slavonic circle from the point of view of decorative solution of nimbuses, the analogy of which is traced in the Italo-Crete painting. On a par with the mentioned trend, there emerged a new one, more powerful, which is characterized by the local masters rejecting the Byzantine-Russian technique of painting and assimilating the professional methods of West European altar- and secular painting. With the help of the light-and-shadow treatment of the form, they begin to model the volume, to render the depth, the perspective. These novelties are well illustrated by such 16th century Belorussian masterpieces as St. Paraskeva, Christ Pantocrator. The background of these icons, as well as Italian, Spanish, German, French, Polish, Czech altar painting and polyptychs of the 14th—16th cc., is filled with a fretted ornamentation done in large patterns imitating Italian textiles.

The Belorussian monuments have merged the Orthodox iconography with noval technical and stylistic methods of the European Renaissance painting. These tendences, expressed in a compromise bond of noval and medieval modes of thinking, found their bright reflection in the works produced by the prominent Belorussian printing pioneer, enlightener, philosopher Francisk Scorina who was born in Polotsk (c. 1490 — not later 1551).

At the same time, the 16th c. monuments have already traces of the late Renaissance — Mannerism. These tendencies, expressed in a compromise bond baroque, which becomes one of major trends in Belorussia's culture during the following two centuries.

In the 17th- century icon-painting, particularly, in the works done by an anonimous artist of Malorita (1648—1650), by Pyotr Yevseyevich of Golynets (1649), etc., prevail characteristics typical to baroque: life observations, illusionism, pathetics, popular major colouring.

Enriching the canonic schemes with realia made the icons be genre scenes based on the Biblical sujets,— the facet which strikingly distinguishes Belorussia's painting from the more traditional art of Ancient Rus'.

Preserving the Orthodox canon resulted also out of political considerations, that found their expression in the struggle against a forced spreading of Union (1596) and Catholicism. The 17th-18th century icon-painting became one of the forms of struggle for the national culture, language, culture, and acquired a political character. Thankfully the archieve materials and remained ensembles (in the towns of Mogilev, David-Gorodok, Shereshevo), one can trace the evolution of iconostases and reveal their originality which manifested itself in multi-tiers of icons, a peculiar solution of the deesis order, a greater attention to the ornamentation in the styles of baroque and classicism.

The icon-painting of 15th-18th century Belorussia presents a bright page of Slav peoples' culture.

La peinture d'icônes de Biélorussie occupe une place de choix dans la culture des pays slaves. On y voit côtoyer les traditions byzantines et russes anciennes, qui se retrouvent dans la culture des vieilles villes biélorusses (IX$^{e}$—XIV$^{e}$ s.), et les particularités stylistiques de l'art ouest-européen — Renaissance (XIV$^{e}$—XVI$^{e}$ s.), baroque (fin du XVI$^{e}$—XVIII$^{e}$ s.), classicisme (deuxième moitié du XVIII$^{e}$ s.).

Ce phénomène est dû au développement historique original de la Biélorussie. Située à la charnière de l'Ouest latin et de l'Est orthodoxe, elle faisait partie de la Grande Principauté de Lituanie aux XIV$^{e}$—XVI$^{e}$ siècles et de la Pologne aux XVI$^{e}$—XVIII$^{e}$ siècles. En ces périodes se formèrent l'ethnie, la langue, la culture biélorusses. Un grand rôle y revient à la peinture d'icônes.

Le devenir de celle-ci embrasse les XV$^{e}$ et XVI$^{e}$ siècles. C'est dans cette époque que les peintres biélorusses, après avoir imité la technique de l'écriture et les traditions byzantines se sont acquis la facture, la vision des caractères et de la couleur, les canons iconographiques individuels. En ce temps apparaissent les types d'icônes du pays: *La Vierge «Tu es ma joie» de Jirovitchi, La Vierge Hodiguitria de Minsk, La Vierge Hodiguitria de Souprasl, La Vierge de Novosverjègne* et beaucoup d'autres.

Les icônes des XV$^{e}$—XVI$^{e}$ siècles *La Viérge Hodiguitria de la région de Sloutsk, La Vierge Hodiguitria de Smolensk* provenant de Doubénets, découvertes par les restaurateurs, sont de l'écriture iconographique classique. Toutefois, la manière dont sont peints les nimbes est peu commune pour les artistes slaves et rappelle plutôt la peinture italienne et crétoise. En même temps, une nouvelle tendance commence à envahir l'iconographie. Les peintres abandonnent l'écriture byzantino-russe et assimilent des procédés professionnels de la peinture religieuse et laïque. Par la combinaison des lumières et des ombres, ils rendent le volume, la profondeur, la perspective. Les chefs-d'oeuvre de l'art biélorusse du XVI$^{e}$ siècle *Sainte Parascève* et *Le Christ Pantocrator* en sont un exemple frappant.

Les icônes biélorusses présentent la fusion de l'iconographie orthodoxe avec la technique picturale de la Renaissance européenne. Ces tendances réunissant la mentalité nouvelle et antérieure (moyenâgeuse) se laissent voir surtout dans les oeuvres de Fransisk Skorina, éminent fondateur de l'imprimerie biélorusse, civilisateur, philosophe, natif de la ville de Polotsk (environ 1490—1551 au plus tard).

En même temps dans les icônes de la fin du XVI$^{e}$ siècle se manifestent les éléments de la Renaissance tardive, du maniérisme, au sein duquel se forme un style nouveau, le baroque, devenu une des orientations fondamentales dans la culture de la Biélorussie pendant deux siècles à venir.

Dans les oeuvres du XVII$^{e}$ siècle dues à un artiste de Malorita (1648—1650), à Piotr Evséevitch de Golynets (1649) et à d'autres peintres, on remarque l'illusionisme, le pathétisme typiques pour le baroque, la représentation des observations prises sur le vif et le coloris folklorique. Les scènes de la vie quotidienne introduites dans les icônes transformaient celles-ci en tableaux de genre au sujet biblique, ce qui diffère grandement la peinture de Biélorussie de l'art classique de la Russie ancienne.

Le clergé et les confréries religieuses veillaient inlassablement à la conservation du canon orthodoxe. Ceci était dicté par des raisons politiques qui se manifestaient dans la lutte contre l'implantation forcée de l'église uniate et du catholicisme. La peinture d'icônes des XVII$^{e}$ et XVIII$^{e}$ siècles, devenue un des moyens de combat pour l'ethnie, la langue et la culture biélorusses, revêtit un aspect politique. Grâce à ce rôle joué par la peinture religieuse, l'icône biélorusse se conserva durant deux siècles. A cette époque on comptait au moins 220 peintres qui créaient les images saintes, décoraient les intérieurs des temples. D'après les documents découverts dans les archives, et les églises corservées à Moghilev, David-Gorodok et Chéréchévo, on peut retracer l'évolution des iconostases qui trouvent leur originalité dans la disposition des images par plusieurs rangées, dans la représentation particulière de la Déisis, dans la décoration au style baroque et classique.

La peinture d'icônes de Biélorussie des XV$^{e}$—XVIII$^{e}$ siècles, qui reflète les aspirations et les goûts du peuple, son attachement à l'art classique et à l'utilisation des nouvelles formes stylistiques, aux couleurs vives, aux éléments décoratifs, à une certaine naïveté, est une page brillante dans la culture des peuples slaves.

Unter slawischen Kulturen gehört die Ikonenmalerei Belorußlands an eine besondere Stelle. In ihr verbinden sich Traditionen der byzantinischen und altrussischen Kunst, von Kulturen alter Städte Belorußlands übernommen (9. bis 14. Jh.), mit stilistichen Besonderheiten westeuropäischer Kunst: der Renaissance (14.—16. Jh.), des Barocks (Ende 16.—18. Jh.) und des Klassizismus (2. Hälfte 18. Jh.).

Diese Erscheinung hat in eigenartiger historischer Entwicklung Belorußlands ihre Ursache. Zwischen dem lateinischen Westen und dem orthodoxen Osten gelegen, gehörte es dem Großfürstentum Litauen (14.— 16. Jh.) und der Rzeczpospolita (16.—18. Jh.) an. Unter diesen Bedingungen bildete sich im 14. bis 16. Jh. die belorussische Völkerschaft mit ihrer Sprache und Kultur heraus. Dabei spielte die Ikonenmalerei eine beachtliche Rolle.

Das Werden der belorussischen Schule der Ikonenmalerei fällt ins 15. und 16. Jh. Eben in dieser Zeit finden einheimische Ikonenmaler, die sich byzantinisch-russische Malweise und Traditionen angeeignet hatten, ihre eigene Maltechnik, Ikonentypen und Gestalten, kommen sie zu eigener Auffassung der Farbgebung und beherrschen eigene Linienführung. Aus dieser Zeit stammen einheimische Ikonentypen: „Gottesmutter 'Rührung' von Shirowizy", „Gottesmutter Hodegetria von Minsk", „Gottesmutter Hodegetria von Suprasl", „Gottesmutter von Nowoswerschen" und viele andere.

Durch Restauratoren freigelegte Denkmale aus dem 15. und 16. Jh.: „Gottesmutter Hodegetria" aus Sluzk und „Gottesmutter Hodegetria von Smolensk" aus Dubenez, sind in ihrer Ikonographie traditionell, jedoch für Werke slawischer Herkunft ungewöhnlich, was die dekorative Gestaltung der Nimbusse anbelangt. Gleichzeitig mit dieser Richtung wird in der Ikonenmalerei eine neue Strömung immer stärker. Da verzichten einheimische Meister auf byzantinisch-russische Maltechniken und machen sich berufsmäßige Verfahren westeuropäischer Altar- und Profanmalerei zu eigen. Mit der Helldunkel-Gestaltung der Form schaffen sie den Raum, geben Tiefe und Perspektive wieder. Dies läßt sich vor allem an solchen Kunstwerken Belorußlands aus dem 16. Jh. wie „Heilige Paraskewa" und „Christus Pantokrator" deutlich feststellen.

In belorussischen Kunstwerken kam es zu einer Verschmelzung orthodoxer Ikonenmalerei mit neuen technischen und stilistischen Malverfahren der europäischen Renaissance. Diese Tendenz fand in der Tätigkeit des hervorragenden Aufklärers, Philosophen und ersten belorussischen Druckers Franzysk Skorina aus Polozk (um 1490— vor 1551) einen Widerhall.

Gleichzeitig sind in Kunstwerken aus dem späten 16. Jh. bereits Elemente der Spätrenaissance, des Manierismus, feststellbar, in dessen Tiefe sich ein neuer Stil, das Barock, herausbildet. Dieser Stil wird zu einer der Hauptrichtungen in Belorußlands Kultur nachfolgender zwei Jahrhunderte.

In der Ikonenmalerei des 17. Jh., in Werken des Meisters aus Malorita (1648—1650), des Pjotr Jewsejewitsch aus Holynez (1649) und anderer lassen sich fürs Barock charakteristischer Illusionismus, Pathetik, Lebensbeobachtungen und volkstümliches heiteres Kolorit entdecken. Mit der Einführung einiger Realien in kanonische Schemas erscheinen Ikonen als Genrebilder zu biblischen Themen.

Das Behalten des orthodoxen Kanons, für das der Klerus stets sorgte, wurde unter anderem durch politische Erwägungen hervorgerufen, die im Kampf gegen die gewaltsame Einführung der Brester Union (1596) und des Katholizismus zum Ausdruck kamen. Die Ikonenmalerei des 17. und 18. Jh. als ein Mittel im Kampf für eigene Kultur und Sprache gewann politischen Charakter. Eben diese ihre Rolle ließ den Organismus der Ikone für weitere zwei Jahrhunderte bewahren. In der Zeit waren es mindestens 220 Maler, die Ikonen schufen und Innenräume der Kirchen gestalteten. An Archivmaterialien und erhaltenen Ensembles (Mogiljow, Dawid-Horodok, Scherleschewo) kann man die Evolution der Ikonostasen zurückverfolgen und deren Eigenart feststellen, die in vielen Rängen, einer besonderen Gestaltung der Deesis-Reihe sowie vorzüglicher barocker und klassizistischer Ausgestaltung ihren Ausdruck hat.

Die Ikonenmalerei Belorußlands des 15. bis 18. Jh., die Hoffnungen und Vrstellungen des Volkes, dessen Vorliebe für Herkömmliches und neue stilistische Traditionen, für lebhafte Farben und Dekoratives, für gewisse Naivität und zugleich nüchterne Wahrnehmung der Umwelt zum Ausdruck bringt, ist eine hervorragende Seite in der Kulturgeschichte der Slawen.

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ. Канец XV — пачатак XVI ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 114,5×83,5×2,5.

Абраз выяўлен экспедыцыяй у 1921 г. у Слуцкім р-не Мінскай вобл.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1976 гг.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1979. С. 207; 1983. Музей 4; 1986. С. 38—39, № 1; 1988. С. 409; 1989. С. 5, № 1; Иконопись, искусство; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 17.
Адзігітрыя (*з грэч.*— Пуцяводная) у візантыйскай іканаграфіі — адзін з вядучых тыпаў паказу Маці Боскай з дзіцем, якое сядзіць на яе левай руцэ з жэстам благаславення. Назва паходзіць ад Канстанцінопальскага манастыра Адзегон. Гэты тып сустракаецца ў старажытнарускім мастацтве дамангольскага перыяду. Прычым на Русі і ў Беларусі ён меў шматлікія варыянты, якія атрымалі назву на месцах іх стварэння. У Беларусі вядомы Маці Боская Адзігітрыя Баркалабаўская (1659); Бялыніцкая (1694); Віленская (XVII ст.); Гарбавецкая (1700); Каложская (XVII ст.); Крупецкая (1612—1620); Ляснянская (1683); Падляская (XVII ст.); Руднянская (1687); Супрасльская (1500); Таўдзелінская (XVIII ст.).
Апрача таго, у Беларусі былі распаўсюджаны варыянты Маці Боскай Адзігітрыі, створаныя ў Расіі і на Украіне: Смаленская (XVIII ст.) — Дзісна; Казанская (XVII ст.) — Маркаў манастыр у Віцебску, с. Збляны Гродзенскай вобл., Вілейка, Клецк, с. Сноў Мінскай вобл.; Іерусалімская (XVI ст.) — Пінск; Пячэрская — с. Данілавічы Гомельскай вобл. (ДБЖ-223) і ў Заходняй Еўропе: Чанстахоўская (1773) — Асіповічы, паступленне невядома (ДБЖ-160); 1777— с. Парахонск Брэсцкай вобл.; Лютэранская — с. Хойнікі Брэсцкай вобл., Гродна.
Выканан раней «Маці Боскай» (частка абраза «Маці Боская Адзігітрыя») 1543 г., з с. Быстракур'я Халмагорскага р-на Архангельскай вобл.
Арнаментальныя аналогіі — помнікі так званай італа-крыцкай школы жывапісу XV — XVI стст., рускія творы XVI ст., ляпны арнамент абраза «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская» XVI ст.
Тэхніка выканання ляпнога арнаменту была распаўсюджана ў іспанскім і італьянскім мастацтве XIV—XVI стст. Яе падрабязна апісаў Чаніна Чаніні [1372(?) — 1437(?)]. Але тэхніка гэта ўзнікла ў заходнееўрапейскім мастацтве раней XIV ст., паколькі была занесена з Захаду на Кіпр ужо ў XIII—XIV стст.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ. Конец XV— начало XVI в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE VIRGIN HODIGITRIA. Late 15th — early 16th cc.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VIERGE HODIGUITRIA. Fin du XV$^{e}$ — début du XVI$^{e}$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA. Ende 15.— Anfang 16. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ СМАЛЕНСКАЯ. XVI ст.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 120×85×3.

Абраз выяўлен 3-й і 32-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 і 1977 гг. у Прачысценскай царкве (XVIII ст.) — с. Дубянец Столінскага р-на Брэсцкай вобл. Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР А. С. Шпунтам у 1978—1979 гг.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Публікацыі:
ОЦМЕ. Мн., 1879. Т. 6. С. 54; Збор. 1972. Т. 1. С. 554 (датаваны М. С. Кацарам XV ст.); Вецер Э. І. 1972; С. 551; 1975. С. 603; 1981. С. 176; 1982. С. 43; 1987. С. 193 (датаваны XV—XVI стст.); Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1979. С. 210—211; 1983. Музей 4; 1986. С. 40—42, 184, № 2; 1988. С. 262; Ф. Скарына. С. 409; 1989. С. 5, № 2; Иконопись, искусство; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 18—20; Збор помнікаў, 1984. С. 18; ЭЛіМБел. 1985. Т. 2. С. 447. Іл. пасля с. 624; 1987. Т. 5. С. 155.

Адлюстравана ў карычнева-чырвоным мафорыі з чорнымі, белымі, сінімі складкамі, аздобленым па краях пасярэбраным арнаментам,і ў сінім чапцы, павернута да дзіцяці ў пасярэбраным хітоне, аранжавым гімаціі, якое сядзіць на яе левай руцэ. Галава дзіцяці дадзена анфас. Правай рукой яно благаслаўляе, у левай трымае белы скрутак. На блакітным фоне ў светла-блакітных воблаках — архангелы: Міхаіл у блакітным хітоне, аранжавым гімаціі, з карычнева-чырвонымі крыламі і Гаўрыіл у аранжавым хітоне, сінім гімаціі, з аранжавымі крыламі. Палі, німбы, клеймы для надпісаў пасярэбраныя. Німбы аздоблены раслінным ляпным арнаментам і абведзены аранжавай лініяй. Апуха чырвоная.

Падрабязныя звесткі аб іканаграфіі: Снессарева С. С. 456; Антонова В. И., Мнева Н. Е. Т. 1. С. 90.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ СМОЛЕНСКАЯ. XVI в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE VIRGIN HODIGITRIA OF SMOLENSK. 16th c.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian School.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VIERGE HODIGUITRIA DE SMOLENSK. XVIe s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA VON SMOLENSK. 16. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ ІЕРУСАЛІМСКАЯ. XVI ст.

Варварынская царква (1642—1647). Пінск.

Дошка, яечная тэмпера. 188×139×2,5 (?). (Пад пацямнелым пакостам.)

Абраз выяўлен 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г.

Публікацыі:
Миловидов А. И. Извлечения из Минских епарх. ведомостей. Мн., 1889. № 17; Збор. 1972. Т. 1. С. 458—459; Вецер Э. І. 1975. С. 603; 1983; 1987. С. 192—193; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 21; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 104; 1988. Ф. Скарына. С. 409; Иконопись, искусство; ЭЛіМБел, 1985. Т. 2. С. 565, іл. пасля с. 634; 1987. Т. 5. С. 155; Лабынцев Ю. А. С. 128.

На пазалочаным фоне амаль пакаленна прадстаўлена Маці Боская ў сінім хітоне з бела-чырвонай каймой, аздобленай пазалочаным і жамчужным арнаментам па гарлавіне і рукавах, у цёмна-чырвоным мафорыі на ружовай падкладцы і ў сінім чапцы. На яе левай руцэ сядзіць дзіця ў вохрыста-сінім хітоне, цёмна-чырвоным з асістам плашчы. Правай рукой яно благаслаўляе, у левай трымае скрутак.

Уверсе, па вуглах, з-за сініх драпіровак выглядаюць анёлы ў белых, чырвоных вопратках з прыладамі пакут. Німбы ў Маці Боскай і дзіцяці, як і арнаментаваныя звілістыя парасткі, аграфлёныя.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ ИЕРУСАЛИМСКАЯ. XVI в.
Варваринская церковь (1642—1647). Пинск.

THE VIRGIN HODIGITRIA OF JERUSALEM. 16th c.
The Church of St. Barbara in Pinsk (1642—1647).

LA VIERGE HODIGUITRIA DE JÉRUSALEM. XVI[e] s.
Eglise Sainte-Barbare (1642—1647). Pinsk.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA VON JERUSALEM. 16. Jh.
Barbara-Kirche (1642—1647), Pinsk.

ПАРАСКЕВА. Сярэдзіна — другая палавіна XVI ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 117×81×2,5.

Абраз выяўлен экспедыцыяй у 1921 г. у Слуцкім р-не Мінскай вобл.
Раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні М. А. Баранавым, М. А. Багаслоўскім, В. В. Філатавым, А. М. Рабінінай у 1954—1957 гг.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Публікацыі:
Краткая художественная энциклопедия: Искусство стран и народов мира. М., 1962. Т. 1. С. 167; Герасимович П. Возрожденный музей // Творчество. М., 1963, № 10. С. 13; Дзяржаўны мастацкі музей БССР: Кароткі даведнік /Склад. І. М. Паньшына, А. К. Рэсіна. Мн., 1969. С. 6; 1976. С. 6; Кацер М. С. 1969. С. 33—35; БСЭ. 3-е изд. М., 1970. Т. 4. С. 153; БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 430; 1972. Т. 5, іл. перад с. 17; 1975. Т. 12. С. 603; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 269; Кацер М. С., 1974. Т. 3. С. 168—171; Малая история искусства: Искусство средних веков. М., 1975. С. 12. Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1979. С. 207; 1981; 1983. Музей 4; 1986. С. 43—44, 183, № 4; 1988. Ф. Скарына. С. 410; 1989. С. 5, № 3; Иконопись, искусство; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 26; Лихачева В. Д. Рецензия на книгу «Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст.» // Декорат. искусство СССР. М., 1982, № 1. С. 46; Вецер Э. І. 1983; 1987; Хадыка Ю. В., 1984. С. 36; Алексеев Л. В. Три альбома-каталога по искусству Белоруссии XII—XVIII вв. // Сов. археология. М., 1986. № 3. С. 272—280; Фомченко О. Художник — народ // Веч. Минск. 1986. 9 окт. Усе даследчыкі абраз адносяць да XVI ст. Выключэнне складае датаванне М. С. Кацара, які лічыць, што помнік створаны ў XIV — XV стст.
Адлюстравана анфас у чырвоным на зялёнай падкладцы мафорыі, блакітным хітоне з вохрыстым арнаментаваным аздабленнем па гарлавіне і рукавах. У правай руцэ 7-канцовы карычневы крыж, у левай — белы скрутак S-падобнай формы. Німб, фон, клеймы для подпісаў пазалочаны. Фон аздоблены разным раслінным арнаментам. Палі шэра-зялёныя.

Параскева па-грэчаску абазначае пяты дзень тыдня, г. зн. пятніца. Тое, што на Русі па недаразуменню Параскева (пятніца) ператварылася ў імя ўласнае — Параскеву-Пятніцу,— адзін з нярэдкіх агіяграфічных кур'ёзаў (заўвага К. В. Карніловіч). Існуюць чатыры іканаграфічныя зводы Параскевы: 28 кастрычніка — Вялікапакутніца, 14 кастрычніка — Прападобная (Белградская, Сербская); 26 ліпеня — Прападобнапакутніца «еже от Старого Рима»; 20 сакавіка — яшчэ адна Пакутніца, якую ў арыгінале лічылі сястрой Фатыніі самаранкі. «...Уяўленне аб чатырох Параскевах нярэдка зліваецца ў свяшчэннае шанаванне сімвалічнага вобраза Параскевы, у жыційных абразах даюцца эпізоды жыцця некалькіх Параскеў. Тое ж адбылося і з беларускім помнікам. У ім зліта іканаграфічная схема Прападобнапакутніцы і Петкі, а ў надпісе ўказана — Вялікапакутніца. Іканаграфічная схема створана пад уплывам гравюры абраза «Петка» ў кнізе «Минея избранная» (Венеция, 1538. С. 45, адв.) і адрозніваецца ад рускіх помнікаў XV—XVI стст. Прыём паказу фігуры на фоне арнаменту бярэ пачатак з заходнееўрапейскага мастацтва XIV — XVI стст. Буйны рэльефны арнамент запазычаны з італьянскага ткацтва і нямецкай набіванкі XV — XVI стст., як і ў абразе «Хрыстос Уседзяржыцель» з с. Быцень Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

ПАРАСКЕВА. Середина — вторая половина XVI в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

ST. PARASKEVA. Middle — latter half of the 16th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

SAINTE PARASCÈVE. Milieu — deuxième moitié du XVI[e] s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

HEILIGE PARASKEWA. Mitte —2. Hälfte 16. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. XVI ст.
Фрагмент.
Фрагмент.
Беларуская школа
Успенская царква (1654) у с. Быцень Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.
Дошка, яечная тэмпера. 150×110×3.
Абраз выяўлен 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г.
Раскрыт рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1989 г.

Выстаўкі:
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1972. С. 294; 1976, аўтореф.; 1986. С. 17, 44, 184.
Хрыстос у чырвоным з вохрыстым клавам хітоне, блакітным з асістам гімацыі паказан франтальна, амаль пакаленна. Правай рукой ён благаслаўляе, левай падтрымлівае разгорнутае Евангелле з тэкстамі ў 9 радкоў.
Пазалочаны фон, разны, з буйным раслінным арнаментам. Німб пазалочаны з дэкаратыўным перакрыжаваннем трыма карычневымі коламі, у якія ўкампанаваны манаграмы Хрыста. Поле ўверсе і ўнізе шырокае з сіняй паласой, пасярэбранае, з чырвоным аздабленнем. Злева яно чорнае, справа — рэканструявана рэстаўратарам.

ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. XVI в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Успенская церковь (1654). С. Бытень Брестской обл.

CHRIST PANTOCRATOR. 16th c.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Church of Dormition (1654). Byten vil., Brest Region.

LE CHRIST PANTOCRATOR. XVI[e] s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Eglise de la Dormition (1654). Village de Byten de la région de Brest.

CHRISTUS PANTOKRATOR. 16. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Himmelfahrtskirche (1654), Byten, Gebiet Brest.

ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ. XVI ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 112×56,5×2.
Выяўлены 40-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1981 г. у царкве (XVIII ст.) с. Ялава Пружанскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыты рэстаўратарам Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1988 г.

Выстаўкі:
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Невядомы мастак.
СВЯТОЕ СЯМЕЙСТВА З ФРАНЦЫСКАМ. XVI ст. Рама. Канец XVI — першая палавіна XVII ст.
Францысканскі касцёл Успення Марыі (XVI — XVIII стст.). Пінск.
Метал, алей, серабро(?), чаканка, ліццё, залачэнне, гравіроўка, каштоўныя камяні. 34×31×3. Клеймаў няма.
Алтарная карціна выяўлена 12-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1969 г.
Раскрыта рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1982 г.

Публікацыі:
Якімовіч Ю., Лапцэвіч Л. Збор. 1972. Т. 1. С. 456; Высоцкая Н. Ф. 1983, іл. 118—120; 1984, іл. 18 (ідзе як «Святое сямейства з Антоніем»); 1989. С. 18.

Заўвага:
Алтарная карціна «Святое сямейства», магчыма, работа італьянскіх майстроў XVI ст. Яна размешчана ў бакавым алтары Маці Боскай Ружанцовай. У выніку рэстаўрацыі яго ў 1982—1984 гг. рэстаўратарамі А. С. Шпунтам і П. Р. Журбеем выяўлена, што ён неаднойчы перабудоўваўся. Першапачаткова, верагодна, меў назву — алтар «Святога сямейства з Францыскам». Цяпер у алтары за фератронам «Маці Боская Ружанцова. Ісус» ёсць ніша памерам 43×47, дзе раней і знаходзілася алтарная карціна «Святое сямейства», якая дала назву бакавому алтару.

Невядомы мастак.
ПАКЛАНЕННІ ВЕШЧУНОЎ. XVI — XVII стст.
Музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 175×101,5×2,5.
Алтарная карціна выяўлена 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г. і экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1978 г. у касцёле (XVIII—XIX стст.) с. Дрысвяты Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.
Раскрыта часткова рэстаўратарам Спецыяльных навуковарэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР П. Р. Журбеем у 1978—1989 гг.

Выстаўкі:
Экспазіцыя музея. 1979—1990 гг.

Публікацыі:
Музей. 1983. С. 95, 98—100; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 89, іл. пасля с. 64; Вецер Э. І. 1987. С. 203; Высоцкая Н. Ф. 1988; Ф. Скарына. 1989; Искусство; Быцева І. М., Хадыка Ю. В. 1989. С. 30—34.

Даведка:
Надпіс на адвароце: z kosciola na Wysnie 1514 R
Па ззянню Віфлеемскай зоркі вешчуны даведаліся аб нараджэнні ў дзевы Марыі Ісуса Хрыста ў пячоры для жывёлы. З далёкіх краін яны прыйшлі пакланіцца дзіцяці і прынеслі яму золата як цару, ладан — як богу, смірну — як чалавеку смяротнаму. У гэтай сцэне звычайна малююць трох вешчуноў — Мельхіёра, Гаспара, Валтасара. Яны прадстаўлены апранутымі ў адзенне ўсходняга і заходнееўрапейскага тыпу з дарамі ў выглядзе куфэрка, чашы. На фоне пячоры, крокваў хлява, дрэва намаляваны Маці Боская з дзіцем, галовы якіх вылучаны німбамі, а таксама Іосіф і пастух. Ніжэй ясляў і галавы асла — запіс XVII ст., на якім — укленчаны данатар і герб.

ЦАРСКИЕ ВРАТА. XVI в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.
Неизвестный художник.
СВЯТОЕ СЕМЕЙСТВО С ФРАНЦИСКОМ. XVI в. Рама. Конец XVI— первая половина XVII в.
Францисканский костел Успения Марии (XVI—XVIII вв.). Пинск.
Неизвестный художник.
ПОКЛОНЕНИЕ ВОЛХВОВ. XVI—XVII вв.
Музей древнебелорусской культуры Академии наук БССР.

THE HOLY DOORS. 16th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.
Anonimous.
THE HOLY FAMILY WITH ST. FRANCIS. 16th c. Frame. Late 16th — first half of the 17th cc.
The Franciscan Roman-Catholic Church of the Dormition of St. Mary (the 16th—18th cc.) Pinsk.
Anonimous.
THE ADORATION OF THE MAGI. 16th—17th cc.
The Museum of Ancient Belorussian Culture of the BSSR Academy of Sciences.

LA GRANDE PORTE. XVI^e s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.
Artiste anonyme.
LA SAINTE FAMILLE ET SAINT FRANÇOIS. XVI^e s. Cadre. Fin du XVI^e — première moitié du XVII^e s.
Eglise franciscaine de la Dormition de Marie (XVI^e — XVIII^e s.). Pinsk.
Artiste anonyme.
L'ADORATION DES MAGES. XVI^e—XVII^e s.
Musée de la culture biélorusse ancienne de l'Académie des sciences de Biélorussie.

KÖNIGSTÜR. 16. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.
Künstler unbekannt.
HEILIGE FAMILIE MIT FRANZISKUS. Rahmen. Ende 16.— 1. Hälfte 17. Jh.
Mariä-Himmelfahrts-Kirche der Franziskaner (16.—18. Jh.). Pinsk.
Künstler unbekannt.
ANBETUNG DER KÖNIGE. 16.—17. Jh.
Museum Altbelorussischer Kultur bei der Akademie der Wissenschaften Belorußlands.

# XVII
# СТАГОДДЗЕ

## XVII ВЕК
## 17 TH CENTURY
## XVII SIÈCLE
## 17. JAHRHUNDERTS





МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ НЕЎВЯДАЛЬНЫ ЦВЕТ. Першая палавіна XVII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 128,5×101×2,5—5.

Абраз выяўлен да Вялікай Айчыннай вайны ва Успенскай царкве (1890) с. Басценавічы Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.
Раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні В. В. Філатавым, М. А. Баранавым, І. П. Горыным у 1954—1956 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 430; Дзяржаўны мастацкі музей БССР / Склад. П. Герасімовіч, А. Рэсіна. Мн., 1976, іл. 1; 1979, іл. 1; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1986. С. 58—60, № 12; 1988; 1989; Иконопись; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 27; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 337; 1984. Т. 2. С. 447, іл. пасля с. 624. Піскун Ю. А. 1986.

Адлюстраван у чырвоным мафорыі з буйным раслінным пазалочаным арнаментам на блакітнай падкладцы, зеленавата-блакітным хітоне з вохрыстым арнаментам па гарлавіне, з дзіцем на левай руцэ ў белым хітоне, падпяразаным чырвоным поясам, і ў вохрыстым гімаціі. У левай руцэ яно трымае чырвоную кветку. Маці Боская ў гэтай рэдакцыі пішацца як царыца неба і зямлі, з каронай на галаве. Дзіця таксама з каронай. Фон з пазалочаным раслінным аграфлёным арнаментам. Палі блакітныя. Валікі, «камяні».

Арнаментальныя аналогіі — прыём дэкарыравання палёў (абрамленне) мог быць запазычаны з гравюры «Маці Боская Адзігітрыя» (Акафисты и каноны. Вильно, 1628. С. 2, 6; Рай мысленный. Иверский монастырь. 1658, адв. тытула). Ён прысутнічае таксама ў помніках украінскай і нямецкай школ XVI— першай палавіны XVII ст.

ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. 1640.
МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ. ФРАГМЕНТ. 1640.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 127×87,5×2; 125×87,5×2.

Абразы выяўлены 22-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1972 г. у Троіцкай царкве (1738) Жыткавіч. Раскрыты часткова брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974—1975 гг. і ў Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1988 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII — XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 29; Высоцкая Н. Ф. 1981; 1983. Музей 4; 1986. С. 46—48, 183, № 5; № 6; 1989; Иконопись; Пуцко В. Г. 1984.

Хрыстос Уседзяржыцель (*з грэч.*— Пантакратар) адлюстраваны анфас у аранжава-чырвоным хітоне з цёмна-чырвоным клавам і аздабленнем па гарлавіне, сінім на зялёнай падкладцы гімаціі. Правай рукой ён благаслаўляе, левай знізу падтрымлівае раскрытае Евангелле з тэкстам у чатыры радкі, з аранжава-чырвоным абрэзам. Фон жоўты. Палі блакітныя з белым раслінным малюнкам. Німб, подпісы пасярэбраныя. Абрамленне страчана. Маці Боская адлюстравана ў цёмна-чырвоным мафорыі на зялёнай падкладцы, упрыгожаным па краях, гарлавіне і рукавах вохрыстым шлякам і жамчужнікам, з дзіцем у ружовай кашулі, якое сядзіць на яе левай руцэ. Правай рукой яно благаслаўляе, левай знізу падтрымлівае закрытае Евангелле ў цёмна-карычневым пераплёце. Німбы пазалочаны. Фон вохрысты. Палі блакітныя з белым раслінным арнаментам. Арнамент палёў па малюнку і каларыстычнай гаме блізкі да арнаменту палёў абраза «Маці Боская Адзігітрыя» (XVII ст.), які знаходзіцца ў Пакроўскай царкве (1901) гор. Іванава Брэсцкай вобл.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ НЕУВЯДАЕМЫЙ ЦВЕТ. Первая половина XVII в.
ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. 1640.
БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ. Фрагмент. 1640.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

VIRGIN HODIGITRIA THE UNFADING FLOWER. First half of the 17th c.
CHRIST PANTOCRATOR. 1640.
THE VIRGIN HODIGITRIA. Detail. 1640.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VERGE HODIGUITRIA LA FLEUR INFLÉTRISSABLE. Premiere moitié du XVII$^{e}$ s.
LE CHRIST PANTOCRATOR. 1640.
LA VIERGE HODIGUITRIA. Détail. 1640.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA 'UNVERGÄNGLICHE BLUME'. 1. Hälfte 17. Jh.
CHRISTUS PANTOKRATOR. 1640.
GOTTESMUTTER HODEGETRIA. Ausschnitt. 1640.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. Першая палавіна XVII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 92×62×2.

Абраз вывезен да Вялікай Айчыннай вайны з гар. пас. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.
Раскрыт часткова брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1976 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 75—76. № 22.
Хрыстос пададзены ў цёмна-чырвоным хітоне з вохрыстым аздабленнем па гарлавіне. Правай рукой благаслаўляе, левай падтрымлівае знізу раскрытае Евангелле. Фон пазалочаны, арнаментаваны. Іканаграфічная схема з некаторымі зменамі бярэ пачатак з гравюры «Хрыстос Уседзяржыцель», змешчанай у кнізе «Беседы Макария Египетского» (Вильно, 1627, адв. тытула). Іканапісцамі былі дапушчаны памылкі ў скрыжаванні німба, якія адсутнічалі ў гравюры. Стылістычныя аналогіі — арнамент клава і манера пісьма — Хрыстос Уседзяржыцель (1640). Малюнак арнаменту запазычаны з вышэйназванай гравюры, а матыў падоўжаных лістоў ёсць у Ілы (1668).

ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. Первая половина XVII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

CHRIST PANTOCRATOR. First half of the 17th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LE CHRIST PANTOCRATOR. Première moitié du XVII$^{e}$ s.
Ecole Biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

CHRISTUS PANTOKRATOR. 1. Hälfte 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Пётр Яўсеевіч з Галынца.
НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ. 1649.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 110×84×2,5.

Абраз выяўлен у 1918 г. ва Успенскай царкве (1670) Магілёва. Раскрыт у Дзяржаўнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні М. А. Баранавым, В. В. Філатавым, А. М. Рабінінай у 1954—1956 гг.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка. 1918.
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. 1926.
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Каталог Минской областной выставки древностей и изящных изделий. Мн., 1918. № 95, С. 12; Шчэкаціхін М. М., 1926, № 1. С. 14; 1928. Т. 2. С. 161, 164, 165; Літ. і мастацтва. 1948, № 48; БСЭ. 2-е изд. М., 1950. Т. 4. С. 516; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии. М., 1960. С. 6; Всеобщая история искусств. Кн. 1. М., 1960. Т. 2. С. 198; Краткая художественная энциклопедия: Искусство стран и народов. М., 1962. Т. 1. С. 167; Кацер М. С. 1969. С. 65; Дзяржаўны мастацкі музей БССР: Кароткі даведнік / Склад. І. М. Паньшына, А. К. Рэсіна. Мн., 1969. С. 6—7; БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 430; 1972. Т. 5, іл. перад с. 17; 1975. Т. 12. С. 603. Дорошевич Э., Конон В. Очерки истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 89; Искусство народов СССР: Искусство XIV — XVII вв. М., 1974. Т. 3. С. 170—172; Художники народов СССР: Биобиблиографический словарь. М., 1976. Т. 3. С. 522; Высоцкая Н. Ф. 1974, 1976, автореф.; 1981, 1983. Музей 4; 1986. С. 50—53, № 8; 1988. С. 155—162; 1989. С. 5, № 8; 1989, аўтограф, искусство; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 17. Вецер Э. І. 1988. С. 46—47; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 337, іл. 64.

Злева пад светла-карычневым балдахінам (полагам) з зялёнай на карычневай падкладцы драпіроўкай, на двухступеньчатай пасцелі пад чырвонай коўдрай, аблакаціўшыся на белыя з тканымі прошвамі падушкі, сядзіць Ганна ў сінім адзенні, у белай з чырвонымі затканымі палосамі намітцы. Побач стаяць служанкі ў светла-вохрыстым, цёмна-чырвоным, сінім, светла-зялёным адзенні з дарамі ў руках. Справа каля накрытага зялёным з цёмна-чырвоным шлякам абрусам стала сядзіць у сінім хітоне, цёмна-чырвоным гімаціі Іаакім з кіем у руцэ. На стале — керамічная чаша, ваза з кветкамі. На заднім плане ў ружовым з авальным завяршэннем акне за пазалочанай рэльефнай рашоткай намаляваны тры шэрыя дамы. На пярэднім плане — сцэна купання Маці Боскай дзвюма служанкамі ў вохрыстым, цёмна-чырвоным, сінім адзенні, у намітках. На чырвоным поясе ў адной служанкі — жоўты кашалёк. На падлозе — керамічны збан, драўляная кадзь (цэбар) з вадой, дзіцячы ложачак на калёсіках. Вохрыста-фіялетавая падлога расчэрчана чырвонымі лініямі на квадраты. Фігуры прыземістыя.
Унізе справа надпіс бяліламі ў два радкі, надпісы над німбамі Ганны і Іаакіма.

Петр Евсеевич из Голынца.
РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ. 1649.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Pyotr Yevseyevich of Golynets.
THE NATIVITY OF THE VIRGIN. 1649.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Piotr Evsêevitch de Golynets.
LA NATIVITÉ DE LA VIERGE. 1649.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Pjotr Jewsejewitsch aus Holynez.
GEBURT DER GOTTESMUTTER. 1649.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маларыцкі майстар.
ПРААБРАЖЭННЕ. 1648.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 121 × 85,5 × 2,5—4,5.

Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г. у Мікалаеўскай царкве (1907) Маларыты.
Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР А. С. Шпунтам у 1978 г.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII — XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 237; 1983, 1987. С. 46—47, 53; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 30—32; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1981; 1983. Музей 4; 1986. С. 48—50, 184, № 7; 1989. С. 5, № 8; Иконопись; Быцева І. М. 1984. С. 43—50; Быцева І. М., Хадыка Ю. В. 1989. С. 30—34.

У цэнтры кампазіцыі на гары ў пазалочаным ззянні — мандорле — у белым адзенні стаіць Хрыстос, па баках на гарах — пракрокі: Ілья ў зялёным хітоне, белым на вохрыстай падкладцы гімацыі і Майсей у блакітным хітоне, светла-карычневым на зялёнай падкладцы гімацыі. Знізу — ураджаныя цудам вучні Хрыста: Іакаў, Іаан, Пётр у пунсовым, зялёным, светла-карычневым, цёмна-чырвоным адзенні. Да асноўнай кампазіцыі ўведзены сцэны ўзыходжання і сыходжання Хрыста ў цёмна-чырвоным хітоне, сінім плашчы з вучнямі ў чырвоным, сінім, карычнева-чырвоным, вохрыстым, зялёным адзенні. Фон пазалочаны з раслінным арнаментам. Палі чорныя з белым раслінным арнаментам. Валікі, «камяні».

У Праабражэнні ілюстравана евангельская легенда. Вытокі іканаграфіі бяруць пачатак са старажытнахрысціянскага мастацтва. Свята ўведзена ў царкоўны каляндар у IV ст. У народзе называецца «Спас яблычны».

Іканаграфічная схема запазычана з аднайменнай гравюры, змешчанай у кнізе «Трефологион» (Кутейн, 1647. С. 344). У яе дабаўлены сцэны ўзыходжання і сыходжання Хрыста з вучнямі.

Малоритский мастер.
ПРЕОБРАЖЕНИЕ. 1648.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Malorita.
THE TRANSFIGURATION. 1648.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Malorita.
LA TRANSFIGURATION. 1648.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Malorita.
VERKLÄRUNG. 1648.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маларыцкі майстар.
ПАКРОЎ. 1649.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 123,5×80×2—5.

Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г. у Мікалаеўскай царкве (1907) Маларыты.
Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР А. С. Шпунтам у 1978 г.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 237; 1981; 1983; 1987. С. 46—47, 53. Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 18—20; Высоцкая Н. Ф. 1981; 1983. Музей 4; 1986. С. 53—58, 184, № 9; 1988. С. 262; 1989. С. 5, № 7; Иконопись; ЭЛіМБел, 1984. Т. 1. С. 14, 337; Быцева І. М. 1984. С. 43—50; 1989; Піскун Ю. А. 1989. С. 35.

Кампазіцыя ўяўляе растова-суздальскі тып Пакрова. На пазалочаным з раслінным арнаментам фоне на блакітных воблаках адлюстравана Маці Боская ў сінім хітоне, цёмна-чырвоным мафорыі з белым покрывам у руках, канцы якога прытрымліваюць два крылатыя анёлы ў чырвоным, зялёным адзенні. Па баках ад Маці Боскай на воблаках — святыя, апосталы. Знізу злева, на архітэктурным фоне, сярод апосталаў, святых, пакутнікаў, манахаў,— Епіфаній і Андрэй Юродзівы, у цэнтры на светлым амбоне — Раман Сладкапевец у светла-ружовым адзенні. Падлога расчэрчана. Палі чорныя з белым раслінным арнаментам. Валікі, «камяні».
Іканапісныя помнікі «Пакрова» вядомы на Русі з XIII ст. У XIV ст. сустракаюцца два іканаграфічныя зводы — наўгародскі і растова-суздальскі. У наўгародскім паказаны знізу зачыненыя царскія вароты, каля якіх стаяць Андрэй Юродзівы, Епіфаній, апосталы, пакутнікі, зверху — Маці Боская з узнятымі рукамі. Анёлы над яе галавою трымаюць покрыва.
Арнаментальныя аналогіі. «Тройца» і «Маці Боская Адзігітрыя» (XVII ст.) з Украіны (ДБЖ-62, 63).

Малоритский мастер.
ПОКРОВ. 1649.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Malorita.
THE INTERCESSION. 1649.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Malorita.
L'INTERCESSION. 1649.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Malorita.
MARIÄ SCHUTZ. 1649.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маларыцкі майстар.
УСПЕННЕ. 1650.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 119×94×3—5.

Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г. у Свята-Праабражэнскай царкве (1862) с. Олтуш Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт рэстаўратарам Інстытута «Расрэстаўрацыя» А. М. Красавіным пад кіраўніцтвам С. В. Філатава ў 1979 г.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII — XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 237; 1983; 1987. С. 46—47, 53; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 39—41; Высоцкая Н. Ф. 1981; 1983. Музей 4; 1986. С. 55—57, 184, № 10; 1989. С. 5, № 9; Иконопись; Быцева І. М. 1984. С. 43—50; 1989; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 337.
Схема з'яўляецца разгорнутым варыянтам кампазіцыі Успення. Унізе ў цэнтры паказана пасцель з чырвоным покрывам, упрыгожаным буйным распісным пазалочаным арнаментам і белым верхам. На ёй ляжыць паміраючая Маці Боская ў цёмна-чырвоным мафорыі і блакітным хітоне. Па баках ложа — апосталы ў match розначаляровым адзенні. За пасцеллю ў пазалочанай мандорле — Хрыстос у сінім хітоне, цёмна-чырвоным гіматыі, які прымае душу Маці Боскай у выглядзе спавітай фігуркі. Зверху сцэна ўзнясення Маці Боскай «во плоти» і перадача ёю пояса Фаме, які спазніўся к Успенню. На воблаках анёлы нясуць з усіх канцоў сусвету апосталаў. Перад пасцеллю Маці Боскай — сцэна адсячэння анёлам рук Аўфонію, які спрабаваў апаганіць цела Маці Боскай, перакуліць яе пасцель. Карычневы позем расчэрчаны. Палі сінія з белым раслінным арнаментам. Валікі, «камяні».
Іканаграфія склалася ў візантыйскім мастацтве пад уплывам фальклорных уяўленняў, якія адлюстраваліся ў царкоўных песнапеннях і апокрыфах. У Візантыі, на Русі вядомы кароткі і разгорнуты варыянты кампазіцыі. У XV — XVIII стст. апакрыфічныя падрабязнасці займаюць усё большае месца ў адлюстраванні, напрыклад, пояса Маці Боскай, Фамы.

Малоритский мастер.
УСПЕНИЕ. 1650.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Malorita.
THE DORMITION. 1650.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Malorita.
LA DORMITION. 1650.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Malorita.
MARIÄ ENTSCHLAFEN. 1650.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маларыцкі майстар.
НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ. 1648—1650.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 120,5×100×2,3.
Абраз выяўлен 12-й і 33-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у могільнікавай капліцы (XVIII ст.?) с. Ляхаўцы Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. у 1969, 1978 гг.
Раскрыт рэстаўратарам Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1988 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс XV — XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Церашчатава В. 1972 (нераскрыты помнік, датаваны канцом XVI — пачаткам XVII ст.); Вецер Э. І. 1974. С. 604, 605; 1983; 1987. С. 187—198 (да рэстаўрацыі абраз аднесены да XVI ст.); Хадыка Ю. В. 1984. С. 30—36 (аднесены да канца XVI — пачатку XVII ст.); Збор. 1984. С. 18; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 14, 334; Быцева І. М., Хадыка Ю. В., 1989. С. 30—34 (лічаць, што па характару арнаменту ён блізкі да групы абразоў, датаваных 1630—1655 гг., і быў створаны пасля 1655 г.); Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 55, 85.
У візантыйскім і старажытнарускім мастацтве кампазіцыя склалася на аснове апакрыфічнай літаратуры так званага «Первоевангелия Иакова» (V) і «Псевдоевангелия Матфея». У помніках XI ст. сюжэт прадстаўлены фігурай напаўляжачай на пасцелі Ганны, трыма служанкамі і сцэнай купання дзіцяці. Да XIV ст. уводзіцца фігура Іаакіма. У XV — XVI стст. і пазней іншы раз дадаецца сцэна «Ласкання» (дзіцяці Іаакімам і Ганнай) і малюнак птушак каля вадаёма. У зводным іканапісным арыгінале іканаграфія нараджэння Маці Боскай апісваецца так: «Анна на одре лежит, перед нею девицы стоят, держат дары, а иныи солнечник и свещи, девица святую Анну держит под плеча, Иоаким зрит из верхния палаты, баба святую Богородицу омывает в купели до пояса, девица в купель воду льет из сосуда. Посторонь палата празелень, а внизу той палаты сидят Иоаким и Анна на престоле и держат Пресвятую Богородицу, а меж палат столбы каменные и тех палат законы червлены и празелены, около ограда вохрена, бела» (Сводный иконописный подлинник XVIII в.: По списку Г. Филимонова. М., 1877. С. 148; Антонова В. И., Мнева Н. Е. Т. 1. С. 86; КЖС. 1855. Сентябрь День 8. С. 75; Смирнова Э. С. Живопись Великого Новгорода. М., 1976. С. 204).
Увядзенне ў кампазіцыю Іаакіма, які стаіць, сядзіць, а іншы раз трымае Марыю, сустракаецца ў жывапісе Містры і Афона (XIV—XVI стст.).

Малоритский мастер.
РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ. 1648—1650.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Malorita.
THE NATIVITY OF THE VIRGIN. 1648—1650.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Malorita.
LA NATIVITÉ DE LA VIERGE. 1648—1650.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Malorita.
GEBURT DER GOTTESMUTTER. 1648—1650.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маларыцкі майстар.
ЦАЛАВАННЕ ІААКІМА І ГАННЫ. БЛАГАВЕСЦЕ ГАННЕ. 1648—1650.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 68×100×4.
Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г. у Свята-Праабражэнскай царкве (1862) с. Олтуш Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт рэстаўратарам Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1988 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1988. Т. 2. С. 48, 51 (абраз названы «Цалаванне Ганны і Іаакіма», аднесены да першай палавіны XVII ст.).
Дадзеная схема, якая сустракаецца ў старажытнарускім і беларускім мастацтве XVI — XVIII стст., з'яўляецца адным з варыянтаў кампазіцыі, распрацаванай у заходнееўрапейскім, візантыйскім і засвоенай у старажытнарускім мастацтве «Сустрэчы ля залатых варот». Яна склалася на аснове тэкстаў Псеўдаевангелля Матфея (III, 5) і Евангелля ад Нараджэння (V, 1), дзе расказваецца, што на 30-ты дзень пасля Благавесця Іаакім сустрэў і пацалаваў ля залатых варот Іерусаліма Ганну.
Схема Благавесця Ганне склалася на базе Псеўдаевангелля Матфея (II, 2) і Евангелля ад Нараджэння (IV, 1). Ганна моліцца ў садзе на фоне пейзажу з гарой. Анёл прынёс ёй шчаслівую вестку, што ў яе народзіцца дачка Марыя.

Малоритский мастер.
ЦЕЛОВАНИЕ ИОАКИМА И АННЫ. БЛАГОВЕСТИЕ АННЕ. 1648—1650.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Malorita.
THE KISSING OF JOACHIM AND ANNA. THE ANNUNCIATION TO ANNA. 1648—1650.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Malorita.
LE BAISER DE JOACHIM ET ANNE. L'ANNONCIATION À ANNE. 1648—1650.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Malorita.
HEILIGER JOACHIM UND HEILIGE ANNA. VERKÜNDIGUNG AN ANNA. 1648—1650.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

УЗНЯСЕННЕ. Сярэдзіна XVII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 140×106×2 — 6,5.
Выяўлен экспедыцыяй у 1921 г. у Стэфанаўскай царкве (XVII ст.) Слуцка.
Абраз раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні Ф. А. Мадоравым, В. В. Філатавым, І. П. Горыным у 1954—1956 гг.

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Мінск, 1926.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1926. № 12. С. 16 (адносіў да XVII ст.); Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 60—61, № 13. Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 42.
На Хрыста ў цёмна-чырвоным хітоне, карычневым гімаціі, які ўзносіцца ў славе, што падтрымліваецца анёламі ў чырвоным, сінім, блакітным адзенні з карычневымі і блакітнымі крыламі, паказваюць два анёлы ў белых гіматіях з карычневымі крыламі, якія стаяць на гары Елеонскай, апосталам у чырвоным, вохрыстым, блакітным адзенні. Злева — выдзеленая німбам Маці Боская ў блакітным хітоне, цёмна-чырвоным мафорыі. Позем светла-зялёны з карычневымі кветкамі. Фон, німбы, мандорла аграфлёны. Палі чорныя з пасярэбраным раслінным арнаментам. Валікі, «камяні».

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ (КРУПЕЦКАЯ?). Другая палавіна XVII ст.
Беларуская школа.
Кафедральны (раней бернардзінскі) сабор (1642). Мінск.
Дошка, яечная тэмпера. 113×71,5×2.
Абраз раскрыт рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1982 г.

У абразе фон, німбы, кароны, клеймы адзення Маці Боскай і дзіцяці выканаты аграфленнем па ляўкасу з таніроўкай, пазалотай. Колерам намаляваны лікі, рукі, аголеныя ступні ног дзіцяці, анёлаў, зялёныя падпяразаныя споды, чырвоныя хітоны(?), шэрыя з прапрацаванымі пэрткамі крылы, белая лілея, чырвоныя манаграмы Маці Боскай і дзіцяці, зялёная падкладка мафорыя Маці Боскай і каляровыя дэкаратыўныя камяні ў каронах.
У дэкоры актыўна выкарыстаны, аблюбаваны ў перыяд пышнага барока акант, вінаградныя гронкі, садавіна (Высоцкая Н. Ф. 1984, іл. 34).

МАЦІ БОСКАЯ ЗАМІЛАВАННЕ. 1656.
Беларуская школа(?).
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 109×89×2,5.
Абраз выяўлен 21-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1972 г. у Святатроіцкай царкве (1875) с. Месткавічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. Паходзіць з Жыткавіцкай або Семяховіцкай царквы.
Раскрыт рэстаўратарам Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1989 г.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1983. Музей 4; 1986. С. 184.
Абраз «Маці Боская Замілаванне» з'яўляецца пераводам тыпу Элеусы (Eleusa — Міласцівая), які прыйшоў у іканаграфію грэка-праваслаўнай абшчыны ў Італіі (XIII ст.). Гэты звод, вядомы ў візантыйскіх роспісах (напрыклад, Кахрые-Джамі, XIV ст.), быў цесна звязаны з Маці Боскай Страснай.
Маці Боская прадстаўлена ў блакітным сподзе і цёмна-чырвоным мафорыі. Дзіця, апранутае ў белы хітон і вохрысты гімацій, абхапіла рукой Маці Боскую і прыхілілася да яе шчакі. Маці Боская пяшчотна абдымае яго дзвюма рукамі. (Калі ж рука дзіцяці ляжыць на руцэ Маці Боскай, гэты тып дадаткова называецца яшчэ Спаручніца.)
Ножкі дзіцяці аголены, г. зн. сандалі зваліліся з ног. Тут яшчэ няма спалоху дзіцяці, якое ўбачыла анёлаў з прыладамі пакут, што мае месца ў кампазіцыі «Маці Боская Страсная».
У названым абразе ёсць водгук яшчэ аднаго варыянта радаснага замілавання, што атрымаў назву — Салодкае цалаванне — Глікафілуса.

ВОЗНЕСЕНИЕ. Середина XVII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.
БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ (КРУПЕЦКАЯ?). Вторая половина XVII в.
Белорусская школа.
Кафедральный (ранее бернардинский) собор (1642). Минск.
БОГОМАТЕРЬ УМИЛЕНИЕ. 1656.
Белорусская школа(?).
Государственный художественный музей БССР.

THE ASCENSION. Mid-17th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.
THE VIRGIN HODIGITRIA (OF KRUPETSY?). Latter half of the 17th c.
The Belorussian school.
The Cathedral (a former Bernardine church). 1642. Minsk.
THE VIRGIN OF COMPASSION. 1656.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

L'ASCENSION. Milieu du XVII^e s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.
LA VIERGE HODIGUITRIA (KROUPETSKAÏA?). Deuxième moitié du XVII^e s.
Ecole biélorusse.
Cathédrale (ancienne église bernardine). 1642. Minsk.
LA VIERGE «Tu es ma joie». 1656.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

HIMMELFAHRT CHRISTI. Mitte 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.
COTTESMUTTER HODEGETRIA (VON KRUPEZY?). 2. Hälfte 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kathedrale (früher Bernhardinerkirche), (1642). Minsk.
GOTTESMUTTER ‚RÜHRUNG'. 1656.
Belorussische Schule (?).
Kunstmuseum Belorußlands.

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ БАРКАЛАБАЎСКАЯ. 1659.
Беларуская школа.
Святатроіцкая царква (1890—1899). Быхаў.
Абраз паходзіць з Баркалабаўскага жаночага манастыра (1623—1648) пад Магілёвам.
Дошка, яечная тэмпера. 125×88,5×3.
Выяўлен 27-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1974 г.

Публікацыі:
Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Спб., 1855. С. 205; Слава Богоматери. М., 1907. С. 523; Поселянин Е. (Погожев Е. Н.). Богоматерь: Полное иллюстрированное описание ея земной жизни и посвященных ея имени чудотворных икон. Спб., 1910. С. 462—463; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 46; Быцева І. М., Хадыка Ю. В. 1985 (аўтары, даследуючы арнаментыку фону, мяркуюць, што яна магла быць створана ў канцы XVI — пачатку XVII ст. на тэрыторыі паміж Слуцкам і Слонімам); Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 184; Вецер Э. І. 1988. С. 51. (Абраз адносіцца да 1-й палавіны XVII ст.).

ПАРАСКЕВА З ЖЫЦІЕМ. 1659.
Беларуская школа.
Троіцкая царква (XVIII ст.). С. Бездзеж Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл.
Дошка, яечная тэмпера. 143×105×1,5—5. Пацямнелы пакост, палі замаляваны.
Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 237, 1975; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 44—66, 184; 1988; Быцева І. М. 1984. С. 43—50; Пуцко В. Г. 1984; Хадыка Ю. В. 1988. С. 140—141.

Даведка:
Вакол сярэдніка з адлюстраваннем Параскевы ў рост у белым хітоне, карычневым гімаціі і чырвоным плашчы з 6-канцовым крыжам у правай руцэ размешчаны жыційныя клеймы наступным чынам: «Святую воведошу ў цямніцу», «Параскева перад царом», «Параскева мучыша жыламі говяжымі», «Святая Іегемону плюну ў твар, калі яе прывялі на судзілішча», «Параскеву застрашаюць прутамі», «Святая пакрушы ідалы», «Адсячэнне галавы святой Параскевы».

УВАСКРЭСЕННЕ — САШЭСЦЕ Ў ПЕКЛА. Другая палавіна XVII — пачатак XVIII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 131,5×84,5×2,5.
Абраз выяўлен экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970 г. і 32-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1977 г. у Троіцкай царкве (XVIII ст.) с. Бездзеж Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР П. Р. Журбеем у 1978 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII — XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 235—236 (абраз аднесен да XVII ст.); Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 52; Высоцкая Н. Ф., 1986. С. 65—67, № 16; 1988. С. 317; ЭЛіМБел. 1985. Т. 2, іл. перад с. 634.

Заўвага:
Палі, надпісы і сярэднік выкананы ў другой палавіне XVII ст. На абразе зроблены частковыя прапіскі ў пачатку XVIII ст.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ БАРКОЛАБОВСКАЯ. 1659.
Белорусская школа.
Святотроицкая церковь (1890—1899). Быхов.

ПАРАСКЕВА С ЖИТИЕМ. 1659.
Белорусская школа.
Троицкая церковь (XVIII в.). С. Бездеж Брестской обл.

ВОСКРЕСЕНИЕ — СОШЕСТВИЕ ВО АД. Вторая половина XVII — начало XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE VIRGIN HODIGITRIA OF BARKOLABOVO. 1659.
The Belorussian school.
The Church of St. Trinity (1890—1899). Bykhov.

ST. PARASKEVA WITH SCENES FROM HER LIFE. 1659.
The Belorussian school.
The Church of St. Trinity (18th c.), Bezdezh vil., Brest Region.

THE RESURRECTION — ANASTASIS (DESCENT INTO HELL).
Latter half of the 17th — early 18 th cc.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VIERGE HODIGUITRIA BARKOLABOVSKAÏA. 1659.
Ecole biélorusse.
Eglise de la Sainte-Trinité (1890—1899). Bykhov.

SAINTE PARASCÈVE DANS L'ENCADREMENT HAGIOGRAGHIQUE. 1659.
Ecole biélorusse.
Eglise de la Trinité ($XVIII^e$ s.). Village de Bezdej de la région de Brest.

LA RÉSURRECTION — LA DESCENTE AUX ENFERS.
Deuxième moitié du $XVII^e$ — début du $XVIII^e$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA VON BARKOLABOWO. 1659.
Belorussische Schule.
Heilige-Dreifaltigkeits-Kirche (1890—1899). Bychow.

HEILIGE PARASKEWA MIT LEBENSGESCHICHTE. 1659.
Belorussische Schule.
Dreifaltigkeitskirche (18. Jh.). Besdesch, Gebiet Brest.

AUFERSTEHUNG — NIEDERFAHRT ZUR HÖLLE. 2. Hälfte 17.— Anfang 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

УВАСКРЭСЕННЕ — САШЭСЦЕ Ў ПЕКЛА. Сярэдзіна — другая палавіна XVII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 127×93×2,5—5.

Абраз выяўлен 32-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1977 г. у царкве Нараджэнне Маці Боскай (1860—1865) с. Лахва Столінскага р-на Брэсцкай вобл. Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР П. Р. Журбеем у 1978 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV — XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII — XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 47. Вецер Э. І. 1981; Быцева І. М., Хадыка Ю. В. 1985 (аўтары, даследуючы арнаментыку фону, мяркуюць, што абраз мог быць створан у 1630—1660 гг.). ЭЛіМБел. 1985. Т. 2. С. 565; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 61—63, № 14; 1989. С. 5. № 6; Вецер Э. І. 1988. С. 47—48; Хадыка Ю. В. 1988. С. 141.

У блакітнай мандорле Хрыстос у цёмна-чырвоным хітоне, вохрыстым гімаціі стаіць на карычневых разбураных створках варот пекла з замкамі, ланцугамі, якія разлятаюцца, і падымае з пекла Адама ў зялёным адзенні і Еву ў аранжавым на блакітнай падкладцы мафорыі. Па баках — старазапаветныя праведнікі, жонкі ў сінім, аранжавым, карычневым, вохрыстым, блакітным адзенні. Фон чорны, справа — пазалочаны, арнаментаваны. Палі чорныя, з белым раслінным арнаментам. Валікі, «камяні». Асабліва цікавай з'яўляецца размешчаная злева мужчынская фігура ў чырвонай дэліі, падбітай футрам, з вялікім футравым каўняром і ў жупане, зашпіленым дробнымі гузікамі. Такое мужчынскае адзенне насілі ў Рэчы Паспалітай з сярэдзіны XVI—XVIII ст. Асабліва яно было папулярным у другой палавіне XVI — XVII ст. У ім намаляваны многія партрэтуемыя таго часу — «Партрэт С. Любамірскага», «Партрэт Міхаіла Барысавіча», «Партрэт К. Весялоўскага» (1636), «Партрэт Януша Радзівіла». У іканапісе Беларусі паказ персанажаў, адзетых у дэлію і жупан, сустракаецца з сярэдзіны XVII ст. Напрыклад, у кляйме «Святую ўсякноша» абраза «Параскева з жыціем» (1659), які знаходзіцца ў Троіцкай царкве (XVIII ст.) с. Бездзеж Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. Іканаграфія склалася на аснове евангельскіх тэкстаў «Псалтыри», «Послания апостола Петра» і апакрыфічнай літаратуры — «Евангелия Никодима», «Слова Евсевия» ў візантыйскім мастацтве і ўсталявалася ў старажытнарускім у XI ст.

ВОСКРЕСЕНИЕ — СОШЕСТВИЕ ВО АД. Середина — вторая половина XVII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE RESURRECTION — ANASTASIS (DESCENT INTO HELL). Middle and latter half of the 17th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA RÉSURRECTION — LA DESCENTE AUX ENFERS. Milieu — deuxième moitié du XVII$^{e}$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

AUFERSTEHUNG — NIEDERFAHRT ZUR HÖLLE. Mitte —2. Hälfte 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ІЛЬЯ. 1668.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 123×87×2,5.

Абраз выяўлен да Вялікай Айчыннай вайны ў Ільінскай царкве (1709) Крычава.
Рэстаўрыраван брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Краткая художественная энциклопедия: Искусство стран и народов мира. М., 1962. Т. 1. С. 167; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1986. С. 57—58, № 11; 1988. С. 263; Левин Е. Осталась только на фотографиях. М., 1978. С. 167 (лічыцца загінуўшай); Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 7, іл. 28; Пуцко В. Г. 1984.

Адлюстраваны амаль пакаленна ў светла-вохрыстым хітоне, падпяразаным карычнева-чырвоным поясам, і блакітным на аранжавай падкладцы гімацыі. У правай руцэ — меч, на якім дата (1668.— *Н. В.*), у левай — белы скрутак. Фон пазалочаны з раслінным арнаментам. Палі блакітныя з белым раслінным арнаментам. Былі валікі, «камяні».
Іканаграфічная схема, распрацаваная ў візантыйскім мастацтве, была засвоена ў многіх цэрквах Малдавіі і Расіі (Яраслаўль). Атрыбутам гэтага святога з'яўляецца меч.
Іканаграфічная аналогія — гравюра «Ілья» ў «Трефологионе». Кутейн, 1647. С. 334.

ИЛЬЯ. 1668.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

ST. ELIJAH. 1668.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

SAINT ELIE. 1668.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

HEILIGER ELIA. 1668.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

САШЭСЦЕ Ў ПЕКЛА. 1678.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 121×90×2,9—6,5.
Абраз выяўлен 26-й і 33-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1974 і 1978 гг. у Праабражэнскай царкве (1783) Чачэрска.
Раскрыт у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР Н. Ф. Высоцкай пад кіраўніцтвам У. С. Харанекі і А. С. Шпунта ў 1978 г.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1983. Музей 4; 1984, іл. 54; 1986. С. 63—65, 184, № 15; 1989. С. 5, № 4; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 49—51; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 64, 337; Вецер Э. І. 1985. С. 39—44; 1988. С. 46—47; Быцева І. М., Хадыка Ю. В. 1985. С. 44—49; Хадыка Ю. В. 1988. С. 144.
У пазалочанай мандорле адлюстраваны Хрыстос у цёмна-чырвоным хітоне, вохрыстым гімаціі. У левай руцэ — харугва, правай падымае з пекла Адама ў зялёным адзенні, за якім відаць Ева ў чырвоным мафорыі. Каля перакрыжаваных шэрых створак варот пекла з ланцугамі, замкамі, якія разлятаюцца, паказаны праведнікі, прарочыцы ў чырвоным, вохрыстым, карычневым адзенні.
Вельмі цікавай з'яўляецца паказаная злева мужчынская фігура ў чырвонай дэліі, падбітай футрам, з вялікім футравым каўняром і ў сінім жупане, падпяразаным поясам. На заднім плане пададзены вохрыста-ружовыя горы, цёмныя даліны, пазалочаны фон. Палі блакітныя з белым раслінным арнаментам. Валікі, «камяні».
Блізкай іканаграфічнай схемай з'яўляецца гравюра «Сашэсце ў пекла» ў кнізе «Пречестные акафисты всеседмичные» (Киево-Печерская лавра, 1677. С. 63). Арнаментальныя аналогіі малюнка фону: «Маці Боская з дзіцем» у царкве Нараджэння Маці Боскай (1860, 1865) с. Лахвы Брэсцкай вобл., «Мікола» ў царкве Тройцы (XVIII ст.) с. Вольна Брэсцкай вобл., «Хрыстос Уседзяржыцель» са Святатроіцкай царквы (1804) с. Туркі Магілёўскай вобл. (ДБЖ-225), «Маці Боская Адзігітрыя» з царквы Казьмы і Даміяна (XVIII ст.) с. Гарадка Магілёўскай вобл. (ДБЖ-285), «Успенне», пад якім знаходзіцца кампазіцыя «Запэўніванне Фамы», з Сімяонаўскай царквы (1912) с. Баркі (Баслаўцы) Мінскай вобл. (ДБЖ-314), «Цалаванне Іаакіма і Ганны. Благавесце Ганне» са Святапраабражэнскай царквы (1862) с. Олтуш Брэсцкай вобл. (ДБЖ-276), «Тройца» са Свята-Міхайлаўскай царквы (1816) с. Такары Брэсцкай вобл.
Арнаментальны матыў малюнка фону атрымоўвае развіццё ў «Благавешчанні» ў Праабражэнскім касцёле (1825) с. Н. Мышы Брэсцкай вобл., «Міколе» са Святым Міхайлаўскай царквы (1816) с. Такары Брэсцкай вобл.
Блізкі раслінны малюнак на сініх палях прысутнічае ў помніках чэшскага іканапісу 1638, 1654 гг.

СОШЕСТВИЕ ВО АД. 1678.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE ANASTASIS (DESCENT INTO HELL). 1678.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA DESCENTE AUX ENFERS. 1678.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

NIEDERFAHRT ZUR HÖLLE. 1678.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

УСПЕННЕ. Апошняя чвэрць XVII ст.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 130×98,5×2—4,5.

Абраз выяўлены да Вялікай Айчыннай вайны ў Мікалаеўскім храме (1838) Крычава.
Раскрыт часткова брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг. і цалкам — у Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1989 г.

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Мінск, 1926.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М., 1926, № 11. С. 15; Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 69—70, № 18; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 53—55; ЭЛіМБел. 1987. Т. 5. С. 155—157.

Паказан разгорнуты варыянт кампазіцыі Успення. На пасцелі з белым пакрывалам, упрыгожаным чырвонымі і сінімі кветкамі, ляжыць Маці Боская ў сінім хітоне, цёмна-чырвоным мафорыі. Падушка і яе туфлі — чырвоныя. За пасцеллю ў бела-блакітнай славе — Хрыстос у чырвоным хітоне, вохрыстым гімацыі з душой Маці Боскай у выглядзе спавітага дзіцяці. Па баках ад Хрыста стаяць крылатыя анёлы ў чырвоных далматыках, белых сподах і з высокімі свечкамі ў руках. Над мандорлай — чырвоны шасцікрылы серафім. Каля пасцелі на фоне архітэктурных пабудоў — апосталы ў чырвоным, сінім, вохрыстым, белым адзенні і народ. Перад пасцеллю — сцэна адсячэння рук Аўфонію. Фон пазалочаны. Палі пасярэбраныя з раслінным арнаментам зялёнага і чырвонага колераў. Валікі, «камяні».
Іканаграфічнымі аналогіямі з'яўляюцца аднасюжэтныя беларускія і ўкраінскія гравюры і фрэскі першай палавіны — сярэдзіны XVII ст. і аднайменны твор XVII ст. ва Успенскай царкве (XIX ст.) с. Panікава Брэсцкай вобл.

УСПЕНИЕ. Последняя четверть XVII в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE DORMITION. Last quarter of the 17th c.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA DORMITION. Dernier quart du XVII[e] s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

MARIÄ ENTSCHLAFEN. Letztes Viertel 17. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ПАВЕЛ. Апошняя чвэрць XVII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка з паўкруглым завяршэннем, яечная тэмпера. 118×42×
×2,5.
Абраз выяўлен у 1918 г. у Магілёўскай вобл.
Раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні В. В. Філатавым, А. І. Пятрэнка ў 1954—1956 гг.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка. 1918 (на этыкетцы А. Іпелем аднесен да XVII ст.).
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 72—73, № 20; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 37.
Адлюстраваны ў сінім хітоне, чырвоным гімаціі з раскрытай кнігай у правай руцэ і мячом у левай, як прынята ў заходнееўрапейскім мастацтве. Кніга — сімвал напісаных ім 14 пасланняў, якія ўвайшлі ў Новы запавет, меч — сведчанне таго, што ён быў абезгалоўлены у час Нерона. Фон пазалочаны, з аграфлёным арнаментам. Позем зялёны.

ТРОЙЦА. Апошняя чвэрць XVII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 128×95×2,5—5.
Абраз выяўлен да Вялікай Айчыннай вайны ў Мікалаеўскім храме (1838) Крычава.
Раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні М. А. Баранавым у 1954 г.

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Мінск, 1926.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1926, № 13. С. 16.
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 70—71, № 19; Тройца; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 56; Хадыка Ю. В. 1988. С. 156.
Кампазіцыя бярэ пачатак з Тройцы Рублёва, але дагматычнае тлумачэнне тэмы змяняецца характэрнай для XVII ст. цікавасцю да падрабязнага біблейскага расказу, якому нададзены рысы мясцовага быту. За круглым прастолам з белым абрусам і нацюрмортам сядзяць тры анёлы ў чырвоным, блакітным і зялёным адзенні з шэрымі крыламі і чырвонымі кіямі ў руках. Справа схематычна вырашан зялёны мамурыйскі дуб, злева — чырвонае Сонца і шэра-ружовыя палаты, з якіх выходзяць Сара ў сінім і аранжава-чырвоным адзенні з хустай на галаве і Аўраам у зялёным адзенні. Ён нясе пачастункі на белым абрусе. Фон пазалочаны. Палі блакітныя. Валікі, «камяні».

ТРОЙЦА. Апошняя чвэрць XVII ст.
Беларуская школа.
Музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 97,5×66×3.
Абраз выяўлен 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у Пакроўскай царкве (1901) гор. Іванава ў 1958 г. Паходзіць з царквы с. Дастоева Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. Рэстаўрыраван у Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры БССР А. С. Шпунтам у 1979 г.

Выстаўкі:
Экспазіцыя музея. 1979—1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. Збор. 1972. С. 273—275 (адносіць да XVI ст.); 1988 (адносіць да першай палавіны XVII ст.); Музей. 1983. С. 102, 130 (аднесена да пачатку XVII ст.); ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 15, 89; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 71.

ПАВЕЛ. Последняя четверть XVII в.
ТРОИЦА. Последняя четверть XVII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.
ТРОИЦА. Последняя четверть XVII в.
Белорусская школа.
Музей древнебелорусской культуры Академии наук БССР.

ST. PAUL. Last quarter of the 17th c.
THE OLD TESTAMENT TRINITY. Last quarter of the 17th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.
THE OLD TESTAMENT TRINITY. Last quarter of the 17th c.
The Belorussian school.
The Museum of Ancient Belorussian Culture of the BSSR Academy of Sciences.

SAINT PAUL. Dernier quart du XVII[e] s.
LA TRINITÉ. Dernier quart du XVII[e] s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.
LA TRINITÉ. Dernier quart du XVII[e] s.
Ecole biélorusse.
Musée de la culture biélorusse ancienne de l'Académie des sciences de Biélorussie.

HEILIGER PAULUS. Letztes Viertel 17. Jh.
DREIFALTIGKEIT. Letztes Viertel 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.
DREIFALTIGKEIT. Letztes Viertel 17. Jh.
Belorussische Schule.
Museum Altbelorussischer Kultur bei der Akademie der Wissenschaften Belorußlands.

ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ З АДЛЮСТРАВАННЕМ БЛАГАВЕШЧАННЯ, ЕВАНГЕЛІСТАЎ. Канец XVII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка з паўкруглым завяршэннем, яечная тэмпера. 161×63,5×2,5.
Выяўлены 22-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1972 г. у Пакроўскай царкве (1830) с. Пінкавічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыты часткова брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974 г. і цалкам — у інстытуце «Расрэстаўрацыя» Ю. В. Міронавым, А. І. Навумавым, Н. Л. Пятровай пад кіраўніцтвам С. В. Філатава ў 1983 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 76—78, № 23; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 59; Вецер Э. І. 1981. С. 177.
У 6 клеймах з раслінным вохрыстым арнаментам на блакітным фоне з акантам прадстаўлены Марыя і архангел Гаўрыіл і чатыры евангелісты.
Царскія вароты — двухстворкавыя дзверы ў цэнтры ніжняга яруса іканастаса, якія вядуць непасрэдна ў алтар. Як правіла, на царскіх варотах малявалі зверху сцэну Благавешчання, ніжэй — евангелістаў або Іаана Златавуста і Васіля Вялікага, радзей — Еўхарысцію і як выключэнне — святы. Вароты называюцца царскімі, таму што, паводле падання, праз іх у святых дарунках праходзіў «Цар Славы і Господ пануючых — Ісус Хрыстос».
Па баках царскіх варот размешчаны паўночныя і паўднёвыя вароты. У Беларусі іншы раз на царскіх варотах малявалі святы (Тайная вячэра), выбраных святых.
Адлюстраванні евангелістаў створаны па гравюрах кнігі «Новый завет» (Кутейн, 1652. С. 535, адв.). «Октоих» (Кутейн, 1646, тытул).
Арнаментальныя аналогіі — матыў раслінных парасткаў у «Царскіх варотах» каля 1690 г. з Юр'еўскай царквы гор. Віцебска (ДБС-110). Блізкі арнаментальны матыў сустракаецца ў рускім фрэскавым жывапісе сярэдзіны XVII ст.

ЦАРСКИЕ ВРАТА С ИЗОБРАЖЕНИЕМ БЛАГОВЕЩЕНИЯ, ЕВАНГЕЛИСТОВ.
Конец XVII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE HOLY DOORS WITH THE IMAGE OF THE ANNUNCIATION AND EVANGELISTS. End of the 17th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA GRANDE PORTE REPRÉSENTANT L'ANNONCIATION ET LES EVANGÉLISTES. Fin du XVII$^{e}$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

KÖNIGSTÜR MIT VERKÜNDIGUNGS- UND EVANGELISTENDARSTELLUNG.
Ende 17. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

УЗНЯСЕННЕ МАРЫІ (АСУНТА). Апошняя чвэрць XVII ст.
Беларуская школа(?).
Музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 126 × 86 × 2,5.

Алтарная карціна выяўлена экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР у 1970-я гг. у Троіцкім касцёле (1900—1902) с. Гярвяты Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.
Раскрыта рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрань Міністэрства культуры БССР П. Р. Журбеем у 1979 г.

Выстаўкі:
Экспазіцыя музея. 1979—1990.

Публікацыі:
Музей. 1983. С. 101 (ідзе як Пакланенне Маці Боскай. Першая палавіна XVII ст.). С. 129; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1, іл. пасля с. 96.
З XV стагоддзя ўзнясенне Маці Боскай паказваецца «во плоти». А ў XV—XVIII стст. з'яўляюцца апакрыфічныя падрабязнасці накшталт пояса Маці Боскай ці ўручэння яго Фаме, што бачна і ў прыведзенай алтарнай карціне. У заходнееўрапейскім зводзе сустракаецца відарыс месяца — своеасаблівага сімвала бязгрэшнасці і чысціні Маці Боскай.
Кампазіцыя падзелена на два ярусы. Уверсе, на шэра-ружова-блакітным фоне, сярод крылатых галовак, сядзіць Марыя ў ружовым сподзе, блакітным на светла-ружовай падкладцы мафорыі, які падтрымліваюць два анёлы з шэрымі крыламі ў вохрыстым і чырвоным адзенні. Вакол галавы Маці Боскай — пазалочаны німб, каля ног — месяц. Яе правая рука прыўзнята. Левай яна падтрымлівае чорны пояс, канцы якога — у манаха ў чорным сподзе і белым капюшоне.
Ніжэй — укленчаныя каранаваныя жонкі, манашкі свяшчэннаслужыцелі ў папскіх тыярах, інфулах, вопратках кардыналаў і простыя людзі з непакрытымі галовамі. У цэнтры — манастырскі ансамбль (удакладніць які пакуль не ўдалося; магчыма, гэта Троіцкі касцёл у Гярвятах, асвечаны ў 1525 г.) і крылаты анёл у чырвоным адзенні, які ратуе з пекла золатагаловую дзеву.
Алтарная карціна ўверсе на вуглах абрэзана: у яе была іншая канфігурацыя.

Даведка.
Найбольш блізкай іканаграфічнай аналогіяй з'яўляецца аднайменны алтарны вобраз В. Тыцыяна (1518. Венецыя. Царква Санта Марыя Гларыёза дэі Фрары (Всеобщая история искусств. М., 1962. С. 256, іл. 209).

ВОЗНЕСЕНИЕ МАРИИ (АССУНТА). Последняя четверть XVII в.
Белорусская школа (?).
Музей древнебелорусской культуры Академии наук БССР.

THE ASCENSION OF ST. MARY (ASSUNTA). Last quarter of the 17th c.
The Belorussian school (?).
The Museum of Ancient Belorussian Culture of the BSSR Academy of Sciences.

L'ASSOMPTION DE MARIE (ASSUNTA). Dernier quart du XVII$^{e}$ s.
Ecole biélorusse (?).
Musée de la culture biélorusse ancienne de l'Académie des sciences de Biélorussie.

HIMMELFAHRT MARIÄ (ASSUNTA). Letztes Viertel 17. Jh.
Belorussische Schule (?).
Museum Altbelorussischer Kultur bei der Akademie der Wissenschaften Belorußlands.

САШЭСЦЕ Ў ПЕКЛА. Апошняя чвэрць XVII — пачатак XVIII ст.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 143×95×3.

Абраз выяўлен 27-й і 68-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1974, 1983 гг. у царкве Маці Боскай Адзігітрыі (1904). Дзісны Міёрскага р-на Віцебскай вобл.
Раскрыт рэстаўратарамі Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем і А. С. Шпунтам у 1984—1985 гг.

Выстаўкі:
Выстаўка твораў мастакоў РСФСР, Украінскай і Беларускай ССР, прысвечаная 1500-годдзю Кіева. Кіеў, 1982.
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Старажытнае, новае, вечнае. Кіеў, 1988.
Народ, культура, перабудова. Мінск, 1989.
Дзяржаўнаму мастацкаму музею 50 год. Мінск, 1989.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 74; 1989. С. 6, № 16; Выставка произведений художников РСФСР, Украинской и Белорусской ССР, посвященная 1500-летию Киева: Каталог. 1982. С. 53; Быцева І. М. 1984. С. 43—50; Хадыка Ю. В. 1989. С. 146, 161.

У кампазіцыі адсутнічае мандорла вакол Хрыста. Незвычайным з'яўляецца ўвядзенне на заднім плане ў пейзажы фігуры ўваскрэслага Хрыста заходнееўрапейскага тыпу і з'яўленне Хрыста Марыі Магдаліне. Уверсе кампазіцыі ў блакітных і шэрых аблоках — Новазапаветная тройца. На пярэднім плане на створках варот пекла стаіць Хрыстос у чырвоным хітоне, вохрыстым гіматыі, які правай рукой прытрымлівае харугву, а левай благаслаўляе (гэта сведчыць аб люстраным(?) выкарыстанні гравюры). Побач з ім прадстаўлены цары, пракокі, простыя людзі ў зялёных, чырвоных, сініх, карычневых вопратках.
Уверсе ўведзены аграфлёны пазалочаны арнамент.

Абраз выклікае вялікую цікавасць у тэхналагічным плане. У ім павалакай, па сутнасці, з'яўляецца палатно, на якім поўнасцю выканана адлюстраванне. Таму пры рэстаўрацыі яго аддзялілі ад палатна, дошкі падчышчаны і нанава злучаны ў шчыт, на якім зноў замацавана павалака.

СОШЕСТВИЕ ВО АД. Последняя четверть XVII — начало XVIII в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE ANASTASIS (DESCENT INTO HELL). Last quarter of the 17th — early 18th cc.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA DESCENTE AUX ENFERS. Dernier quart du XVII[e] — début du XVIII[e] s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

NIEDERFAHRT ZUR HÖLLE. Letztes Viertel 17.— Anfang 18. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

**НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ.** Канец XVII — пачатак XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 88×61×2,5.
Абраз выяўлен 32-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1977 г. у царкве Нараджэння Маці Боскай (XVIII ст.) с. Ляхаўцы Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. Раскрыт рэстаўратарам Вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем у 1988 г.

Выстаўкі:
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Народ, культура, перабудова. Мінск, 1989.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 249; ЭЛіМБел, 1984. Т. 1. С. 89 (аднесен да XVI—XVIII стст.).
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 51; 1988. Сарагоса.
У кампазіцыі адсутнічае фігура Іаакіма. Над ложкам з чырвонай коўдрай і бялільнымі жамчужнымі і карункавымі краямі — зялёны балдахін з чырвоным верхам і папулярным у заходнееўрапейскім мастацтве XVII—XVIII стст. ламбрэкенам. Цікава пададзены сцэна купання дзіцяці служанкамі, пейзаж, нацюрморт. Флемаваныя дарожнікі, якія атрымалі шырокае распаўсюджанне ў беларускім мастацтве з 1640-х гадоў (напрыклад, у дэкоры алтароў Будслава Мінскай вобл.), абрамляюць абраз (Высоцкая Н. Ф. 1983, іл. 73—75).

РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ. Конец XVII — начало XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE NATIVITY OF THE VIRGIN. Late 17th — early 18th cc.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA NATIVITÉ DE LA VIERGE. Fin du XVII[e] — début du XVIII[e] s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GEBURT DER GOTTESMUTTER. Ende 17.— Anfang 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

МАЦІ БОСКАЯ ЖЫВАНОСНАЯ КРЫНІЦА. Канец XVII—пачатак XVIII ст.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 79,5×80×3.
Абраз выяўлен у 1918 г. у царкве Макар'еўскага манастыра (XVIII ст.) с. Чонкі Гомельскага р-на Гомельскай вобл.
Раскрыт у Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні В. В. Філатавым, А. М. Мішуковай у 1954—1957 гг.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка, 1918.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Каталог Минской областной выставки древностей и изящных изделий. Мн., 1918, № 96. С. 12 (А. Іпель адносіў помнік да XVII ст.); Краткая художественная энциклопедия: Искусство стран и народов мира. М., 1962. Т. 1. С. 167—168. БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 430 (А. В. Аладава — да канца XVII — пачатку XVIII ст.); Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф., 1986. С. 81—82, № 26; 1989; Иконопись; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 61—63; Пуцко В. Р. Трапятлівы нерв уніфікацыі // Мастацтва Беларусі. 1987, № 7. С. 73. Параўноўвае з аднайменным сербскім помнікам — Медакович Д. Путеви србского бароко. Београд. 1971. С. 157—177.

Кампазіцыя дзеліцца на два ярусы. Знізу вакол шматграннага басейна (у заходнееўрапейскай іканаграфіі названы крыніцай жыцця) адлюстраваны людзі розных слаёў у чырвоным, зялёным, сінім, жоўтым, белым, чорным адзенні, прагнучыя вылечыцца, ачысціцца. Зверху ў храме на троне сядзіць Маці Боская ў зялёным хітоне, жоўтым мафорыі, з дзіцем у зялёным хітоне, ружовым гімаціі, якая благаслаўляе дзвюма рукамі. За тронам стаяць архангелы Міхаіл і Гаўрыіл з шэрымі і ружовымі крыламі ў чырвоным, зялёным адзенні, з зярцаламі і кіямі ў руках. Злева на фоне пейзажа з ракой — імператар Леў І у чырвонай мантыі наказвае хвораму ў жоўтым адзенні на лекавую крыніцу каля Канстанцінопаля, дзе ў V ст. ім быў пабудаваны храм. У гонар гэтага ў Візантыі адбывалася свята абнаўлення Маці Боскай, названай «жываноснай крыніцай». Палі цёмна-зялёныя. Аб зводзе гл. (Слава Богоматери. М. 1907. С. 345; Снесарева С. С. 751—757 і інш.). Кампазіцыя «Маці Боская жываносная крыніца» старажытней XVII ст. на Русі невядома. Найбольш блізкай іканаграфічнай аналогіяй з'яўляецца аднайменны абраз канца XVII — пачатку XVIII ст. школы Аружэйнай палаты ў зборы ДТГ № 23089; элементы кампазіцыі сярэдніка абраза С. Ушакова, С. Ражнова. Маці Боская жываносная крыніца. 1670 г., уклад Б. М. Хітраво ў Новадзявочы манастыр (Русские мастера живописи и гравюры XVI—XVII вв.: Каталог выставки. Гос. ордена Ленина Исторический музей /Сост. Н. Ф. Трутнева, М. М. Шведова. М., 1989, № 15; Брюсова В. Г. Русская живопись XVII в. М. 1984, ил. 32. С. 51).

БОГОМАТЕРЬ ЖИВОНОСНЫЙ ИСТОЧНИК. Конец XVII—начало XVIII в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа
Государственный художественный музей БССР.

VIRGIN THE LIFE-GIVING SPRING. Late 17th — early 18th cc.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VIERGE LA SOURCE DE LA VIE. Fin du XVII[e] — début du XVIII[e] s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER 'LEBENBRINGENDE QUELLE'. Ende 17.—Anfang 18. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ. Каля 1700.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 134×97,5×1,8—4,3.

Абраз выяўлен у 1918 г. у Петрапаўлаўскай царкве (1839) с. Нічыпаравічы Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1976 гг.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка, 1918.
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. 1926.
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Каталог Минской областной выставки древностей и изящных изделий. Мн., 1918, № 100. С. 13 (датаван А. Іпелем каля 1700 г.); Шчэкаціхін М. М. 1926, № 2. С. 14. Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1983; Музей 4; 1986. С. 84—85, № 27; 1988. С.262; Сарагоса, 1989. С. 16, № 14; Аўтограф. Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 64; Пуцко В. Г. 1984.
Злева над светла-карычневым полагам і зялёнай драпіроўкай на трохступеньчатай пасцелі пад карычнева-чырвонай коўдрай, абапёршыся на падушкі з прошвамі, сядзіць Ганна ў аранжава-карычневым плацці, з белай хустай на галаве. Па баках пасцелі стаяць з дарункамі дзве служанкі ў светла-карычневым, блакітным адзенні з вохрыстым і блакітным абрусамі на галовах. Справа на фоне двух акон з паўкруглым завяршэннем, аздобленых рашоткамі з ляпнога арнаменту і з зялёным пейзажам, які віднеецца за імі, сядзіць Іаакім у блакітным хітоне, светла-карычневым на чырвонай падкладцы гімаціі з кіем у правай руцэ, левая ляжыць на стале, накрытым цёмна-чырвоным і белым абрусамі. На стале — вішні, вінаград, лімон, шкляны і керамічны посуд. На светла-карычневай, расчэрчанай падлозе спераду злева — драўляны ложачак, накрыты белым пакрывалам, справа паказана сцэна купання Маці Боскай. Дзяўчына ў светла-блакітным на чырвонай падкладцы плацці, у вохрыстай намітцы з пасудзіны ў купель ілье ваду, павітуха — у карычнева-чырвоным плацці, блакітнай намітцы спрабуе рукой ваду ў купелі і збіраецца абмываць Маці Боскую. Рама зялёная.

АПОСТАЛЫ (ПЁТР І ВАРФАЛАМЕЙ). Да 1700.
ПАВЕЛ І ІААН. Да 1700.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 121×89,5×2,5; 120×88×2,5.
Абразы выяўлены ў 1918 г. ва Успенскай царкве (1767) с. Юрцава Аршанскага р-на Віцебскай вобл.
Раскрыты ў Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні І. М. Громавай, Г. С. Бахцель пад кіраўніцтвам А. М. Рабінінай у 1954—1956 гг., у Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1988 г.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка, 1918.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Каталог Минской областной выставки древностей и изящных изделий. Мн., 1918, № 103. С. 13 (аднесен А. Іпелем — каля 1700 г., ім жа вызначаны намаляваныя); Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 85—88, № 8, 29; 1988. С. 263; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 28, іл. 65; Вецер Э. І. 1989. С. 24—26 (лічыцца, што абразы створаны ў канцы XVI — першай палавіне XVII ст.).

РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ. Около 1700.
АПОСТОЛЫ (ПЕТР И ВАРФОЛОМЕЙ). До 1700.
ПАВЕЛ И ИОАНН. До 1700.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE NATIVITY OF THE VIRGIN Circa 1770.
APOSTLES (SS. PETER AND BARTHOLOMEW). Before 1700.
SS. PAUL AND JOHN. Before 1700.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA NATIVITÉ DE LA VIERGE. Environ 1700.
APÔTRES (PIERRE ET BARTHÉLEMY). Avant 1700.
SAINT PAUL ET SAINT JEAN. Avant 1700.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GEBURT DER GOTTESMUTTER. Um 1700.
DIE APOSTEL (PETRUS UND BARTHOLOMÄUS). Vor 1700.
HEILIGER PAULUS UND JOHANNES. Vor 1700.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Столінскі майстар.
ПАВЕЛ.
ПЁТР. Да 1700.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 61×22×2,5; 60,5×22,5×2,5.

Абразы выяўлены 21-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1972 г. у могільнікавай капліцы (XVIII ст.) с. Баркі Пінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыты ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР Н. Ф. Высоцкай пад кіраўніцтвам У. С. Харанекі ў 1978—1986 гг.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 73, 86, 91.

Столінскі майстар.
НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ. Да 1700.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 139×94×2,5 — 6.
Абраз выяўлен 32-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1977 г. ва уніяцкай царкве Нараджэння Маці Боскай (1730) с. Рухча Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт рэстаўратарам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР П. Р. Журбеем у 1978 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 66; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 90—91, № 32; 1988. С. 263; Вецер Э. І. 1989 (датуе канцом XVI — першай палавінай XVII ст.); Лабынцев Ю. А. 1989. С. 92.

Столінскі майстар.
САБОР АРХАНГЕЛА МІХАІЛА. Да 1700.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 110×76,5×2—5.

Абраз выяўлен 12-й і 28-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1969 і 1974 гг. у Міхайлаўскай царкве (1796) с. Рубель Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974—1977 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Лапцэвіч Л. 1972 (адносіць да канца XVII — пачатку XVIII ст.).
Высоцкая Н. Ф., 1976, аўтарэф.; 1986. С. 89—91, № 31; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А., 1980. С. 8, іл. 67; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 337; Вецер Э. І. 1985 (адносіць да XVIII ст.); 1989 (датуе канцом XVI — першай палавінай XVII ст.); Хадыка Ю. В. 1988; Лабынцев Ю. А. 1989. С. 74.
У цэнтры, у круглай блакітнай славе, ахоўваемы серафімамі з аранжава-чырвонымі і сінімі крыламі і архангеламі ў сінім, вохрыстым, аранжава-чырвоным адзенні,— Хрыстос Эмануіл (з грэч.— з намі бог — адно з імён Хрыста ў Біблії, паказ Хрыста отракам) у белым хітоне, аранжава-чырвоным гімаціі. Славу падтрымліваюць архангелы Міхаіл і Гаўрыіл у сініх хітонах, светлых далматыках, аранжава-чырвоных плашчах з сінімі і аранжава-чырвонымі крыламі. Уверсе фон пасярэбраны, арнаментаваны, разны. Рама прафіліраваная, накладная. Іканаграфія сабора архангелаў была ўстаноўлена ў IX ст. у сувязі з аднаўленнем праваслаўя пасля іканаборства. Абраз Спаса Эмануіла, які падтрымліваецца двума архангеламі, з'яўляецца знакам аднаўлення шанавання абразоў, якія ганьбаваліся іканаборцамі.

Столинский мастер.
ПАВЕЛ.
ПЕТР. До 1700.
РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ. До 1700.
СОБОР АРХАНГЕЛА МИХАИЛА. До 1700.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Stolin.
ST. PAUL.
ST. PETER. Before 1700.
THE NATIVITY OF THE VIRGIN. Before 1700.
ASSEMBLY OF THE ARCHANGEL MICHAEL. Before 1700.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Stoline.
SAINT PAUL.
SAINT PIERRE. Avant 1700.
LA NATIVITÉ DE LA VIERGE. Avant 1700.
L'ASSEMBLEE DE SAINT MICHEL ARCHANGE. Avant 1700.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Stolin.
HEILIGER PAULUS.
HEILIGER PETRUS. Vor 1700.
GEBURT DER GOTTESMUTTER. Vor 1700.
ERZENGEL-MICHAELS-ASSEMBLEE. Vor 1700.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Майстар С. М. Сазш (?).
СВЯТОЕ СЯМЕЙСТВА. 1729.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 113,5×86,5×2,5.

Абраз выяўлен 3-й і 21-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 і 1972 гг. у Георгіеўскай могільнікавай царкве (XVIII ст.) Косава.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 99, № 36; 1988. С. 263, 276. Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, 9, іл. 71.

У верхняй частцы ляпнога абрамлення 8-падобнай формы ў воблаках выдзелен трохвугольным німбам Саваоф у сінім хітоне, чырвоным гімаціі. Ніжэй у вохрыстых прамянях — голуб. Знізу адлюстраваны ідучыя Маці Боская ў чырвоным хітоне, блакітным плашчы, Іосіф у жоўта-карычневым хітоне, зялёным гімаціі і отрак Ісус у белым падпяразаным хітоне, вохрыста-чырвоным гімаціі з крыжам. Німбы вохрыстыя. Фон блакітны. Іканаграфічная схема складаецца ў заходнееўрапейскім мастацтве XVI—XVII стст.

У кароткай рэдакцыі Святога сямейства адлюстроўваюцца Марыя, Іосіф і дзіця, часам уводзяць Ганну і Іаакіма. Далейшае пашырэнне дзеючых асоб прыводзіць да паказу ўсяго сямейства: Іаакіма, Ганны з двума мужамі, дачок Ганны з іх мужамі і дзецьмі, яшчэ Іаана Хрысціцеля са сваімі бацькамі і бабкай.

Мастер С. М. Сазш (?).
СВЯТОЕ СЕМЕЙСТВО. 1729.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Artist S. M. Sazsh (?).
THE HOLY FAMILY. 1729.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste S. M. Sazsh (?).
LA SAINTE FAMILLE. 1729.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister S. M. Sassch (?).
HEILIGE FAMILIE. 1729.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Басценавіцкі майстар. 1723—1728.
АЎРААМІЙ І МЕРКУРЫЙ СМАЛЕНСКІЯ.
Беларуская школа.
У аправе — абраз «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская». Пачатак XVI ст. Маскоўская школа.
ЦАЛАВАННЕ ІААКІМА І ГАННЫ.
ПАКЛАНЕННЕ ВЕШЧУНОЎ.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка са зрэзанымі верхнімі вугламі, яечная тэмпера. 164×93×2,5—5,3, устаўны абраз. 31,5×27×2 ; 163,5×94×2,8; 164×93,5×3.

Абразы выяўлены ў 1920 г. ва Успенскай царкве (1890) с. Басценавічы Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.
Раскрыты ў Дзяржаўнай цэнтральнай мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні І. М. Громавай, В. О. Кірыкавым, В. В. Філатавым, Ф. А. Мадоравым, Л. І. Пятрэнкам, М. М. Памяранцавым у 1954—1956 гг. Сталярная работа выканана А. П. Ягоравым.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей у БССР. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Дзяржаўны мастацкі музей БССР: Кароткі даведнік / Склад. І. М. Паньшына, А. К. Рэсіна. Мн., 1969. С. 6; Высоцкая Н. Ф. 1975; 1976, аўтарэф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 95—97, № 34; 1988. С. 266; 1989. С. 5, № 11; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 70; Хадыка Ю. В. 1988. С. 149; ЭЛіМБел, 1984. Т. 1. С. 14, 337.

Меркурый у латах, зялёнай кашулі, чырвоным гімацыі, блакітных портках і Аўраамій у карычневым сподзе, ружовай кашулі, футры, з ружанцам у руцэ стаяць на беразе Дняпра і паказваюць на Смаленск, які размешчаны на супрацьлеглым беразе. У плане яго добра чытаецца белы з чырвонымі дахамі крэмль і размешчаныя ў ім сярод зеляніны каменныя, драўляныя цэрквы, пабудовы. Неба шэра-блакітнае з воблакамі. Фон пазалочаны з раслінным ляпным арнаментам. У рэльефным абрамленні ўкампанаваны абраз «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская».

Ля шэрых з чорным раслінным арнаментам з аканфа калон, якія сімвалізуюць залатыя вароты Іерусаліма, адлюстраваны павернутымі да цэнтра Іаакім у зялёным хітоне, карычневым гімацыі, у сандалях і Ганна ў сінім хітоне, карычнева-чырвоным плашчы з белай хустай на галаве, у чырвоных туфлях. З грудзей Іаакіма і Ганны вырастаюць два зялёныя сцяблы, увенчаныя белай ліліяй, на якой у залатым пучку прамянёў стаіць Марыя ў сінім хітоне, цёмна-чырвоным плашчы. У карычнева-чырвоным прарыве воблакаў — Саваоф, вылучаны трохвугольным німбам, і ў выглядзе голуба — Святы дух. Пазалочаны фон з раслінным ляпным арнаментам, зялёным пейзажам раздзелены калонамі. Карычнева-зялёны позем расчэрчаны чырвонымі лініямі.

Справа на фоне драўляных кроквaў хлява, галавы вала і зялёнай драпіроўкі на карычневым поземе стаяць Іаакім у ружова-карычневым адзенні і Марыя ў чырвоным хітоне, сінім плашчы, з белай хустай на галаве. Яна на руках трымае голае дзіця. Злева з падарункамі вешчуны ў зялёным, карычневым, сінім, чырвоным адзенні прыйшлі пакланіцца дзіцяці. За імі віднеюцца зялёныя горы, лясы, рэчка, мост і горад заходнееўрапейскага тыпу, апазнаць які пакуль не ўдалося. Над светла-шэрымі воблакамі — пазалочаны ляпны арнамент з раслінным малюнкам.
Іканаграфічная даведка. Ілюстраваны тэкст Евангелля, які апавядае аб тым, што Ірад заклікаў вешчуноў і паслаў іх старанна разведаць аб дзіцяці Ісусе. Увайшоўшыя ў Віфлеем вешчуны знайшлі яго з Марыяй, прыпалі, пакланіліся яму і прынеслі дары: Мельхіёр золата — як цару; Гаспар ладан — як богу і Валтасар смірну — як чалавеку смяротнаму.
Іканаграфічная схема бярэ пачатак з аднасюжэтных карцін нідэрландскіх (Рэгір ван дэр Вейдэн), італьянскіх (Даменіка Венецыяна) і польскіх (Станіслаў Дзюрынк) мастакоў.

Бастеновичский мастер. 1723—1728.
АВРААМИЙ И МЕРКУРИЙ СМОЛЕНСКИЕ.
Белорусская школа.
В обрамлении — икона «Богоматерь Одигитрия Смоленская».
Начало XVI в.
Московская школа.
ЦЕЛОВАНИЕ ИОАКИМА И АННЫ.
ПОКЛОНЕНИЕ ВОЛХВОВ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Bastenovichi. 1723—1728.
SS. ABRACHAM AND MERCURY OF SMOLENSK.
The Belorussian school.
The mounting features the Virgin Hodigitria of Smolensk.
Early 16th c. The Moscovi school.
THE KISSING OF JOACHIM AND ANNA.
THE ADORATION OF THE MAGI.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Bastenovitchi. 1723—1728.
ABRAHAM ET MERCURE DE SMOLENSK.
Ecole biélorusse.
Dans l'encadrement — l'icône La Vierge Hodiguitria de Smolensk.
Début du XVI^e s. Ecole de Moscou.
LE BAISER DE JOACHIM ET ANNE.
L'ADORATION DES MAGES.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister aus Bastenowitschi. 1723—1728.
HEILIGER ABRAHAM UND MERKUR VON SMOLENSK.
Belorussische Schule.
Einfassung: Ikone „Gottesmutter Hodegetria von Smolensk".
Anfang 16. Jh.
Schule von Moskau.
HEILIGER JOACHIM UND HEILIGE ANNA.
ANBETUNG DER KÖNIGE.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ГРАМНІЦЫ (СТРЭЧАННЕ). 1731.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.

Кафедральны (раней бернардзінскі) сабор (1642). Мінск. Дошка, яечная тэмпера. 149,5×94×3.

Абраз выяўлен у 1920-я гг. ва Успенскай царкве (1890) с. Басценавічы Мсціслаўскага р-на Брэсцкай вобл. Да Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў Беларускім дзяржаўным музеі (№ 8475).

Раскрыт рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1982 г. (рэстаўратарам рэканструявана падножжа).

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Менск, 1926.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1926. С. 16, № 15 (БДМ, № 5613. Унізе надпіс: «В лето 1731 апрелія 16 (па-славянску). Вызначаецца кампазіцыйнай свабодай і рэчаіснасцю, асабліва ў тварах. Цікавы арнаментальны матыў на вопратцы Сімяона»; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 127.

Ілюстрыруецца евангельская легенда (Лука 1; 22—39) аб тым, што на 40-вы дзень пасля нараджэння Хрыста Іосіф і Маці Боская пайшлі ў Іерусалімскі храм пасвяціць немаўля богу і прынеслі ахвяру: дзвюх галубак. У храме іх сустрэў 360-гадовы стары Сімяон Богапрыімец. Тут была і Ганна Прарочыца, дачка Фануліева ад калена Асірава, якая 84 гады жыла пры храме.

У кампазіцыі «Грамніцы (Стрэчанне)» звычайна паказваецца: злева Маці Боская, якая падносіць Сімяону немаўля, за ёй — Іосіф. Ён трымае ў руках двух галубоў; злева — Сімяон Богапрыімец і Ганна Прарочыца. У некаторых кампазіцыях немаўля трымае не Маці Боская, а Сімяон. На Русі ў дамангольскі перыяд у «Грамніцах (Стрэчанні)» паказваўся яшчэ і прастол з ківорыем. Пазней, у XIV ст., з'яўляецца малюнак сцяны і будынкаў, звычайна базілікальнага тыпу. Да канца XVI і ў XVII ст. сцэна стрэчання ўскладняецца шматлікімі падрабязнасцямі, запазычанымі з Чэцці-Мінеі ад 2 лютага, песнапення і іншай царкоўнай літаратуры, а таксама паказам бытавых дэталяў.

Ля прастола з балдахінам, упрыгожаным карычневым карнізам з ламбрыкенам і зялёнай драпіроўкай,— Сімяон Богапрыімец у светла-вохрыстым з карункамі па нізу сподзе, верхняй вопратцы з дарагіх тканін. Ён трымае на блакітным плаце аголенае немаўля. Правей, за прастолам,— Ганна, звернутая да Маці Боскай, якая стаіць справа ў сінім хітоне, чырвоным мафорыі, і Іосіф у сінім хітоне, вохрыстым гімаціі. За Сімяонам — прыслужнік у блакітным хітоне, ружовай кароткай вопратцы з каўнярам. У правай руцэ яго — доўгая запаленая свечка. Сімяон, Маці Боская, Іосіф, Ганна, Хрыстос выдзелены пазалочанымі німбамі. Ззаду ў іх — каменная сцяна з пілястрай, завершанай карынфскай капітэллю, і два акны, дзеля рашотак якіх выкарыстаны буйны пазалочаны раслінны арнамент.

СРЕТЕНИЕ. 1731.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Кафедральный (ранее бернардинский) собор. 1642. Минск.

THE CANDLEMAS DAY 1731.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Cathedral (a former Bernardine church). 1642. Minsk.

LA CHANDELEUR. 1731.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Cathédrale (ancienne église bernardine). 1642. Minsk.

REINIGUNG. 1731.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kathedrale (früher Bernhardinerkirche). 1642. Minsk.

УСПЕННЕ. 1730-я гг.
Беларуская школа.
Дзяржаўны музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 134×84×2,5 (паўкруглае завяршэнне).
Абраз выяўлен экспедыцыяй Дзяржаўнага музея БССР у 1971 г. у Ільінскай царкве (XIX ст.) гар. пас. Бешанковічы Віцебскай вобл.
Раскрыт у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР У. С. Харанекам у 1972 г.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980, іл. 72; Дзяржаўны музей БССР / Аўт. тэксту і склад. І. П. Загрышаў, С. А. Мілючэнкаў. Мн., 1986, іл. 86; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 56; 1988. С. 266.
Схема з'яўляецца разгорнутым варыянтам кампазіцыі Успення. Унізе на пасцелі з белым пакрывалам ляжыць паміраючая Маці Боская ў блакітным хітоне і чырвоным мафорыі. Па баках пасцелі — апосталы ў зялёных, светла-блакітных, сініх, чырвоных хітонах і гіматыях. За пасцеллю ў пазалочанай рэльефнай мандорле — Хрыстос у чырвоным хітоне, сінім гіматыі, які трымае душу Маці Боскай у выглядзе стаячай у белым адзенні з прыўзнятымі ў малітвеным жэсце рукамі фігуры. Вышэй воблакаў, ружовых забудоў, шасцікрылага серафіма, рэльефнага разнога фону — узнясенне Маці Боскай у белым адзенні. На воблаках — крылатыя анёлы ў рознакаляровых вопратках.
Уперадзе — сцэна адсячэння анёлам рук Аўфонію. Унізе, у цэнтры, на расчэрчанай падлозе,— бяліламі надпіс у шэсць радкоў.

ЦУД ГЕОРГІЯ АБ ЗМЕІ (ЮРЫЙ-ЗМЕЯБОРАЦ). 1736.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 127×81×2.
Абраз выяўлен да Вялікай Айчыннай вайны ў Магілёўскай вобл.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 102—104, № 39; 1988. С. 262, 276; Сарагоса; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 9, іл. 79; Ліхачова В. Рэцэнзія на кнігу «Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст. // Декорат. искусство СССР. М., 1982, № 1. С. 46 (звязвае з балгарскім жывапісам XVIII ст.).

ЦУД ГЕОРГІЯ АБ ЗМЕІ (ЮРЫЙ-ЗМЕЯБОРАЦ). Сярэдзіна XVIII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 101,5×54×3,5.
Абраз выяўлен 3-й і 32-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея ў 1958 і 1977 гг. у Георгіеўскай царкве (XIX ст.) с. Лядзец Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт ў Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1988 г.

Выстаўкі:
Старажытнае мастацтва Беларусі. XVI—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Народ, культура, перабудова. Мінск, 1989.

Публікацыі:
Збор помнікаў. 1972. С. 683.
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 103; 1988. Сарагоса.

УСПЕНИЕ. 1730-е гг.
Белорусская школа.
Государственный музей БССР.
ЧУДО ГЕОРГИЯ О ЗМИЕ (ЮРИЙ ЗМЕЕБОРЕЦ). 1736.
ЧУДО ГЕОРГИЯ О ЗМИЕ (ЮРИЙ ЗМЕЕБОРЕЦ). Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE DORMITION. The 1730s.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.
ST. GEORGE AND DRAGON. 1736.
ST. GEORGE AND DRAGON. Mid-18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA DORMITION. Les années 1730.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat de Biélorussie.
SAINT GEORGES ET LE DRAGON. 1736.
SAINT GEORGES ET LE DRAGON. Milieu du XVIII$^{e}$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

ENTSCHLAFEN. 1730er Jahre.
Belorussische Schule.
Staatsmuseum Belorußlands.
DAS DRACHENWUNDER DES HEILIGEN GEORG. (Hl. Juri der Drachentöter). 1736.
DAS DRACHENWUNDER DES HEILIGEN GEORG. (Hl. Juri der Drachentöter). Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

**ТРОЙЦА.** Другая чвэрць XVIII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 115×79×1,7.
Абраз выяўлен 3-й і 22-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 і 1972 гг. ва Уваскрэсенскай царкве (1817) с. Альгомель Столінскага р-на Брэсцкай вобл. Паходзіць з Іаана-Багаслоўскай царквы (1792) с. Вялікае Малышава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974—1975 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 534 (аднесен да XVII ст.). Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 3, іл. 75; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 105—107, № 42; Тройца; 1988. С. 267.
Іканаграфічная схема бярэ пачатак з работы А. Рублёва. На круглым стале, пакрытым белым абрусам з блакітным раслінным арнаментам,— тры карычневыя паціры, хлябы, нажы, талеркі. За ім на вохрыстых сядалішчах сядзяць тры анёлы ў аранжава-ружовым, сінім, чырвоным адзенні. У іх блакітныя з чырвонымі, зялёнымі, сінімі папарткамі крылы. Левымі рукамі яны благаслаўляюць, правымі трымаюць чорныя кіі. Злева — зялёны мамурыйскі дуб, справа, на фоне палат,— Аўраам і Сара ў сінім, блакітным і чырвоным адзенні. Шэры фон упрыгожаны пасярэбраным арнаментам таго ж малюнка, што і абрус прастола. Чырвона-карычневы позем расчэрчан карычневымі лініямі на квадраты. Рама згублена.
Іканаграфічная схема створана яўна пад уплывам гравюры. Аб гэтым сведчаць надпіс на кляйме і благаслаўляючыя левай рукой анёлы. Абраз выканан пасля аднасюжэтных гравюр — віленскай (1628), кіеўскай (1674). Адлюстраванне будынка, калоны з капітэллю, Аўраама і Сары, якія выходзяць з дому, размяшчэнне вакол прастола анёлаў, мамурыйскага дуба ў кіеўскай гравюры (1724) і ў абразе з с. В. Малышава люстрана супадаюць, што і дазваляе лічыць абраз створаным незадоўга пасля 1724 г., г. зн. у другой чвэрці XVIII ст. Гэта кампазіцыйная схема, запазычаная ў А. Рублёва, за некаторымі дапаўненнямі была папулярнай на Украіне і ў Вільна, што прасочваецца ў гравюрах XVIII ст.
Параўнанне «Тройцы» з с. В. Малышава з аднайменнымі абразамі канца XVII ст. ва Уваскрэсенскай царкве (1857) у гар. пас. Антопалі Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. і 1640 г. з Жытомірскага абласнога краязнаўчага музея таксама сведчыць аб стварэнні абраза з с. В. Малышава ў больш позні час. Адначасовым і стылістычна блізкім помнікам з'яўляецца «Тайная вячэра», які знаходзіцца ў іканастасе Георгіеўскай царквы (1724) Давыд-Гарадка. У абодвух помніках аналагічны і малюнак арнаменту.

**ТРОИЦА.** Вторая четверть XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

**THE OLD TESTAMENT TRINITY.** Second quarter of the 18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

**LA TRINITÉ.** Deuxième quart du XVIII^e s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

**DREIFALTIGKEIT.** 2. Viertel 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ІКАНАСТАС. Другая чвэрць XVIII — пачатак XIX ст.
ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА. Другая чвэрць XVIII ст.
ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ. Сярэдзіна XVIII ст.
МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ. 1752.
ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. 1767.

Беларуская школа.
Георгіеўская царква. 1724. Давыд-Гарадок.
Дошкі, яечная тэмпера. 640×835×10.
Іканастас выяўлены 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г.

Публікацыі:
Вецер Э. І. 1972. С. 551—552; 1977; 1978; Кацер М. С. Искусство Белоруссии // История искусств народов СССР. Искусство конца XVII—XVIII в. М., 1976. Т. 4. С. 431; Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф.; 1984; 1986; 1988. С. 267; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст. Мн., 1978. С. 119; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 76—78; Быцева І. М. 1984. С. 34—50; ЭЛіМБел. 1987. Т. 5. С. 504; Лабынцев Ю. А. 1989. С. 70—71; Максімава Э. С. 1989. С. 70—79.

Даведка:
Іканастас неаднаразова перабудоўваўся і апошні раз — у канцы XVIII — пачатку XIX ст. Ён складаецца з прабацькаўскага рада (адзін абраз «Саваоф» — канец XVIII ст.), прарочага рада, цэнтрам якога з'яўляецца «Цар цароў прадста царыца» 1751 г., дэісуснага чыну, «Тайнай вячэры» (другая чвэрць XVII ст.), святочнага рада, створанага ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. У мясцовым чыне размешчаны «Маці Боская Адзігітрыя» ў пасярэбранай аправе 1752 г., выкананай залатых спраў майстрамі Мікітам і Пархомам, і «Хрыстос Уседзяржыцель» у пасярэбранай аправе 1767 г., паўночныя і паўднёвыя вароты. Былі ў іканастасе царскія вароты (цяпер у Дзяржаўным музеі БССР). У ніжняй частцы іканастаса ў чатырох філёнках — адлюстраванне «Хрыста пастара», «Пейзажа з гарой» і «Архістратыга Міхаіла».

Заўвага:
У Давыд-Гарадку ў 1663—1760 гг. працавалі мастакі — Піліп (1663—1681), Пётр (1681), Яцко Кавалевіч (1691—1696), Карней (1702—1763), Яцко (1724—1760), Камей і Ярко (1734—1735); залатары Пракоп Грэчка (1633), Пархом (1653 і 1724—1760), Андрэй (1653—1702), Сайка (1665—1724), Ярко (1681—1724), Сямён і Мікіта (1724—1760), Хвяско, Андрэйка, Грышка (1724) — ЦДГА БССР у Мінску, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 1913, арк. 1, 2, 10, 53, 56, 58, 71, 302, 303, 306; адз. зах. 1912, арк. 5; адз. зах. 1914, арк. 4, 4 адв., 8 адв., 10; адз. зах. 1701, арк. 5—7, 9—12; адз. зах. 1705, арк. 6 адв., 12 адв., 13, 14, 32 адв.; адз. зах. 1708, арк. 8, 10, 18; адз. зах. 1711, арк. 8—11, 14—16, 18; КМФ. Воп. 1, 673, арк. 6, 675, 697, 699, 703, 676, 703 адв., 678, 743, 743 адв., 749 адв. (Высоцкая Н. Ф. 1986, с. 190, 196; Максімава Э. С. 1989, с. 72).
У Давыд-Гарадку ў 1734 г. працавалі тры разьбяры, сталяры — Буяк Лявон, Ян, Сямён (ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 1705, арк. 11 адв., 15, 16 адв., 18, 19).
Знізу і збоку на рызе — Маці Боская Адзігітрыя, выгравіраваны наступны надпіс з 6 радкоў:
РОКУ А НВ (1752.—Н. В.) МЦ ЛІ ДНА ІА (11.—Н. В.) СЕМЕН МІГАЛЕР І ВОІТЪНІКІН ВАСИЛЪ ЛЪ ПАРЪ КЛІМЪ ГРЕЧКА МИКИТА СЛТНІКЪ ПАРЬХОМЪ ОЛОТНИКЪ ІЕРЕИ САВІНЬ СІНЬКЕВІЧЬ П Д Г ІЕРЕІ едор А Х М П Д Г.

Дзве кароны, выяўленыя 3-й экспедыцыяй музея, цяпер страчаны. Знізу на рызе Хрыста выгравіраван надпіс у чатыры радкі:
РОК 1767 СИЮ ШТУ СООРУЖИЛЬ РАБЬ БЖІА ДЕМЬАН ТКАЧИКЪ И СТЕПАНЬ ГРЕЧКА ЗА МОЛИТВАМИ ПРЕСТИІА БОГРОДИЧИ.
На адвароце кароны выгравіраваны наступны надпіс у два радкі:
СИЮ КОРОНУ СООРУЖИВЬ РАБЪ БОЖІИ ДЕМИАНЬ ТКАЧУКЬ (1758—?), захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР (інв. № 17138).

ИКОНОСТАС. Вторая четверть XVIII — начало XIX в.
ТАЙНАЯ ВЕЧЕРЯ. Вторая четверть XVIII в.
ЦАРСКИЕ ВРАТА. Середина XVIII в.
БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ. 1752.
ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. 1767.
Белорусская школа.
Георгиевская церковь. 1724. Давид-Городок.

ICONOSTASIS. Second quarter of the 18th — early 19th cc.
THE LAST SUPPER. Second quarter of the 18th c.
THE HOLY DOORS. Mid-18th c.
THE VIRGIN HODIGITRIA. 1752.
CHRIST PANTOCRATOR. 1767.
The Belorussian school.
The Church of St. George. 1724. David-Gorodok.

ICONOSTASE. Deuxième quart du XVIII[e] — début du XIX[e] s.
LA CÈNE. Deuxième quart du XVIII[e] s.
LA GRANDE PORTE. Milieu du XVIII[e] s.
LA VIERGE HODIGUITRIA. 1752.
LE CHRIST PANTOCRATOR. 1767.
Ecole biélorusse.
Eglise Saint-Georges. 1724. David-Gorodok.

IKONOSTASE. 2. Viertel 18.— Anfang 19. Jh.
DAS ABENDMAHL. 2. Viertel 18. Jh.
KÖNIGSTÜR. Mitte 18. Jh.
GOTTESMUTTER HODEGETRIA. 1752.
CHRISTUS PANTOKRATOR. 1767.
Belorussische Schule.
Georgskirche. 1724. Dawid-Horodok.

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ. 1740.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 110×70,5×2,5.

Абраз выяўлен 20-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 г. у Міхайлаўскай царкве (1892) с. Аброва Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. Паходзіць з Крыжаўзвіжанскай царквы (1754—1757) с. Аброва Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.
Рэстаўрыраван у Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. В. Тарасікам у 1989 г.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1972. С. 289; 1976, аўтарэф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 165—166, 174; Вецер Э. І. 1985. С. 39—44.
Адлюстравана ў сінім на аранжавай падкладцы мафорыі, цёмна-аранжавым хітоне. Па краях мафорыя, гарлавіне, рукавах хітона — аранжавая кайма з жамчужнікам. Белы, ледзь бачны, чапец. На левай руцэ ў Маці Боскай сядзіць дзіця ў аранжавай кашулі, аздобленай арнаментам з шасціпялёсткавых кветак. Дзіця падтрымлівае ляжачае на каленях у чорным пераплёце з чырвоным абрэзам Евангелле. Правай рукой Маці Боская і дзіця благаслаўляюць. Німбы — аграфлёны раслінны арнамент.

ПЁТР.
ПАВЕЛ.
Крылы алтара. Другая чвэрць XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошкі з фігурным абрэзам, яечная тэмпера. 115,5×32,5×2,8; 116×29×2,5.

Абразы выяўлены 3-й і 21-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 і 1972 гг. у Георгіеўскай могільнікавай царкве (XVIII ст.) Косава.
Раскрыты брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974—1975 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988; Магілёў, 1989.
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 104—105, № 40—41, 1988. С. 270. Сарагоса; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 9, іл. 74.

ХРЫСТОС НА ПРАСТОЛЕ. ВЯЛІКІ АРХІРЭЙ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 138×87×2,5.

Абраз выяўлен 9-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1967 г. у Мікалаеўскай могільнікавай царкве (1823) Пінска.
Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 120—121, № 58; 1988. С. 270. Сарагоса; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 89.

БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ. 1740.
ПЕТР.
ПАВЕЛ.
Крылья алтаря. Вторая четверть XVIII в.
ХРИСТОС НА ПРЕСТОЛЕ. ВЕЛИКИЙ АРХИЕРЕЙ. Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

THE VIRGIN HODIGITRIA. 1740.
ST. PETER.
ST. PAUL.
The Altar wings. Second quarter of the 18th c.
CHRIST ENTHRONED. THE GREAT BISHOP. Mid- 18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA VIERGE HODIGUITRIA. 1740.
SAINT PIERRE.
SAINT PAUL.
Les ailes de l'autel. Deuxième quart du XVIII$^e$ s.
LE CHRIST SUR LE TRÔNE. LE GRAND-PRÊTRE. Milieu du XVIII$^e$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

GOTTESMUTTER HODEGETRIA. 1740.
HEILIGER PETRUS.
HEILIGER PAULUS.
Altarflügel. 2. Viertel 18. Jh.
THRONENDER CHRISTUS. GROSSER ERZBISCHOF. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Невядомы мастак.
МАЦІ БОСКАЯ РУЖАНЦОВА. ІСУС. ФЕРАТРОН. 1730-я гг.
Францысканскі касцёл Успення Марыі XVI—XVIII стст. Пінск.
Дошка, яечная тэмпера. 160×110×7.
Абраз выяўлен 12-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1969 г.
Раскрыт рэстаўратарамі А. С. Шпунтам і П. Р. Журбеем у 1982—1984 гг.
Публікацыі:
Якімовіч Ю., Лапцэвіч Л. Збор. 1972. Т. 1. С. 456; 1984. С. 288; БелСЭ, 1973. Т. 9, іл. пасля с. 76; 1975. Т. 12, іл. перад с. 593; Памяць зямлі беларускай / Аўт. уступ. тэксту У. С. Караткевіч, склад. М. В. Сіњкевіч. Мн., 1979, іл. 185; Высоцкая Н. Ф. 1983, іл. 118; 1986. С. 184; 1989. С. 18; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 64; 1987. Т. 5. С. 33; Максімава Э. 1984. С. 70—75; Лабынцаў Ю. А. 1989. С. 121.

Невядомы мастак.
КАЗІМІР. Сярэдзіна XVIII ст.
Касцёл Тройцы (1617). Ружаны.
Палатно, алей. 220×111. (Алтарны абраз знаходзіцца пад пацямнелым пакостам.)
Алтарная карціна выяўлена 12-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1969 г.
Публікацыі:
Ерусалімчык М., Карнач П., Яніцкая М. Троіцкі касцёл // Збор. 1972. Т. 1. С. 517; 1984. С. 333.

Ескі Ксаверый Дамінік (?—1764).
ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА. 1753.
Палатно, алей. 720×450.
Галоўны алтар. Касцёл Божага цела, езуіцкі. Нясвіж (1582—1593).
Пабудаваны Янам Марыяй Бернардоні (каля 1541—1605).
Алтарная карціна раскрыта брыгадай рэстаўратараў Усесаюзнага Інстытута рэстаўрацыі ў складзе С. С. Галушкіна, І. П. Сураворга, Г. М. Ярховай, М. М. Фурдзіка, У. Д. Ягорава, Ю. І. Афрына, І. М. Горнунга, С. В. Ямшчыкова ў 1980 г.
Публікацыі:
Кацер М. С. 1974. Т. 3. С. 167; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980, іл. 8—9; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 90; 1986. Т. 3. С. 288; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 186; Taurogiński B. Dane archiwalne o artystach na dworze książat Radziwiłłów XVII—XIX w.— Prace i materjały sprawozdawcze Sekcji Historii Stuki towarzystwa przyjaciol nauk w Wilnie. Wilno. 1938 / 1939. T. 3. S. 21; Poplatek J. Paszenda J. Słownik jezuitów artistów. Kraków. 1972. S. 245; Paszenda J. Koscil Bożego ciała (Pojezuicki) w Nieswiezu // Kwartalnik architektury i urbanistiki. W. 1976. T. XXI. Zeszyt 3. S. 195—216; Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działajęcych. Wrocław. Kraków. Gdańsk. 1979. T. 3. S. 63.
На фоне дадзенага і перспектыўна скарочанага алтара з чатырма зялёнымі, размалёванымі пад штучны мармур калонамі з карынфскімі капітэлямі, дзвюма пілястрамі спускаюцца па баках чырвоныя драпіроўкі. На пярэднім плане за круглым сталом з келіхам, вялікім талежам з 11 хлябамі і малымі талежамі сядзяць у чырвоных, сініх, вохрыстых, зялёных хітонах і гімацыях 12 апосталаў і Хрыстос, галава якога выдзелена вохрыстым ззяннем. Ён дадзены ў ружовым хітоне, сінім гімацыі і благаслаўляе правай рукой, левай трымае адзін хлеб. Злева ўнізе прадстаўлены Іуда Іскарыёд у вохрыстым хітоне, чырвоным гімацыі, з зялёнай торбай у правай руцэ. Уверсе, у воблаках,— крылатыя галоўкі анёлаў, два ляцячыя анёлы ў ззянні, Святы дух у выглядзе голуба, Саваоф.
Заўвага:
У касцёле Божага цела (езуіцкім) у 1740—1750-я гг. працавалі:
Шыманоўскі Міхал (Szymanowski Michał — stolarz),
Лежбах Ян' (Leschbac Jan — stolarz),
Санові (Sanowi, Iwinicz, Jan)
Гюндэльфінгэр Ян (Gundefinger Jan, malarz).
Аўтарам праекта галоўнага алтара быў Падэці Марыцыо (Padetti Maurizio).
Słownik. T. 3. S. 245; ЦДГА БССР. Ф. 694, воп. 2, адз. зах. 9781. А. 45.

Неизвестный художник.
БОГОМАТЕРЬ РУЖАНЦОВА. ИИСУС.
ФЕРЕТРОН. 1730-е гг.
Францисканский костел Успения Марии (XVI—XVIII вв.). Пинск.
Неизвестный художник.
КАЗИМИР. Середина XVIII в.
Костел Троицы (1617). Ружаны.
Гески Ксаверий Доминик (? — 1764).
ТАЙНАЯ ВЕЧЕРЯ. 1753.
Главный алтарь. Костел Божьего тела, иезуитский (1582—1593). Несвиж. Построен Яном Марией Бернардони (около 1541—1605).

Anonimous.
THE VIRGIN WITH THE ROSARY. CHRIST.
FERETORY. The 1730s.
The Franciscan Roman-Catholic Church of Dormition of the Virgin. (16th — 18th cc) Pinsk.
Anonimous.
ST. KAZIMIRUS. Mid-18th c.
The Roman-Catholic Church of St. Trinity (1617). Ruzhany.
Heski Xavery Dominic (died in 1764).
THE LAST SUPPER. 1753.
The Main Altar. The Roman-Catholic Church of the Holy Body, jesuit (1582—1593). Nesvizh. Built by Jan Maria Bernardoni (circa 1541—1605).

Artiste anonyme.
LA VIERGE AU ROSAIRE. JÉSUS.
FIERTRE. Les années 1730.
Eglise franciscaine de la Dormition de Marie (XVI$^{e}$ — XVIII$^{e}$ s). Pinsk.
Artiste anonyme.
SAINT CASIMIR. Milieu du XVIII$^{e}$ s.
Eglise de la Trinité (1617). Roujany.
Heski Xawery Dominique (? — 1764).
LA CÈNE. 1753.
Maître-autel. Eglise du Corps de Dieu, jésuite (1582—1593). Nesvij. Construite par Jan Maria Bernardoni (environ 1541—1605).

Künstler unbekannt.
GOTTESMUTTER MIT ROSENKRANZ. JESUS.
PHERETRON. 1730er Jahre.
Mariä-Himmelfahrts-Kirche der Franziskaner (16.—18. Jh.). Pinsk.
Künstler unbekannt.
HEILIGER KAZIMIR. Mitte 18. Jh.
Katholische Dreifaltigkeitskirche (1617). Ruschany.
Heski Xawery Dominik (? —1764).
DAS ABENDMAHL. 1753.
Hauptaltar. Leib-Christi-Kirche der Jesuiten (1582—1593).
Neswisch. Erbaut von Jan Maria Bernardoni (um 1541—1605).

МАЦІ БОСКАЯ ЗАМІЛАВАННЕ ЖЫРОВІЦКАЯ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Успенская царква (1654). С. Быцень Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.
Палатно, алей. 130×100.
Абраз выяўлен 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г.
Раскрыт рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1989 г.

Выстаўкі:
Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі. Мінск, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1972. С. 29; 1976, аўтарэф.
Маці Боская дадзена амаль пакаленна ў чырвоным хітоне, вохрыстым мафорыі. На правай руцэ яе сядзіць дзіця ў кароткай вохрыстай кашулі, з аголенымі ножкамі. Яно дзвюма ручкамі абхапіла шыю маці, прытулілася да яе шчакі. Выявы Маці Боскай і дзіцяці — з каронамі. Аздабленне — белая паласа, на якой сажай зроблен надпіс: «Дастойна ёсць»: «Честнейшую херувим и славнейшую без сравнения серафим, без истления бога слова родшую сущую богородицу тя величаем».

БОГОМАТЕРЬ УМИЛЕНИЕ ЖИРОВИЦКАЯ. Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Успенская церковь (1654). С. Бытень Брестской обл.

THE VIRGIN OF COMPASSION OF ZHIROVICHI. Mid-18th c.
The Belorussian school.
The Church of Dormition (1654). Byten vil., Brest Region.

LA VIERGE «TU ES MA JOIE» DE JIROVITCHI. Milieu du XVIII[e] s.
Ecole biélorusse.
Eglise de la Dormition (1654). Village de Byten de la région de Brest.

GOTTESMUTTER 'RÜHRUNG' VON SHIROWIZY. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Himmelfahrtskirche (1654). Byten, Gebiet Brest.

МІКОЛА З ЖЫЦІЕМ. Сярэдзіна XVIII ст.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Кафедральны (раней бернардзінскі) сабор (1642). Мінск.
Дошка, яечная тэмпера. 137×101×2.

Абраз раскрыт рэстаўратарам П. Р. Журбеем у 1982 г.

На цёмным фоне і карычневым падножжы стаіць Мікола ў блакітным хітоне, епітрахілі і чырвоным сакасе з вохрыстай каймой па нізу, рукавах і гарлавіне, блакітным з вохрыстым аздабленнем і крыжамі амафоры і паліцы. На шыі — панагія і крыж. На галаве — зялёная з вохрыстым арнаментам і эмалевымі драбніцамі мітра барочнай формы. На руках — вохрыстыя поручы. Правай рукой ён благаслаўляе, левай падтрымлівае знізу закрытае Евангелле ў чорным пераплёце з драбніцай і навугольнікамі.
Па жыційнай літаратуры, Мікола (*з грэч.*—перамагаючы народ) цудатворац (Мерлікійскі) вырас у Лікійскай краіне ў гор. Патара. Сын багатых бацькоў (бацька — Феафан, маці — Нона), прапаведнік і цудатворац з першых дзён жыцця. Быў архіепіскапам у Міры. Ратаваў караблі ад патаплення (1 кляймо), збаўляў ваяводаў, Хрыстафора — іерэя і трох мужоў ад смерці (2; 3), трох бедных дзяўчат — ад грэхападзення (4), юнакоў, Уласія, сына Агрыпы — ад сарацын, немаўля — ад патаплення (3—8).

НИКОЛА С ЖИТИЕМ. Середина XVIII в.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Кафедральный (ранее бернардинский) собор (1642). Минск.

ST. NICOLAS WITH SCENES FROM HIS LIFE. Mid-18th c.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Cathedral (a former Bernardine church) (1642). Minsk.

SAINT NICOLAS DANS L'ENCADREMENT HAGIOGRAGHIQUE. Milieu du XVIII$^{e}$ s.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Cathédrale (ancienne église bernardine). 1642. Minsk.

HEILIGER NIKOLAUS MIT LEBENSGESCHICHTE. Mitte 18. Jh.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kathedrale (früher Bernhardinerkirche) (1642). Minsk.


Чудо ѡ Христофорѣ иерей. ѿ трехъ мужахъ. ихъ же
стыи николаи избави ѿ посѣчения меча.

Аброўскі майстар.
НАРАДЖЭННЕ МАЦІ БОСКАЙ.
УВЯДЗЕННЕ Ў ХРАМ.
УСПЕННЕ.

Абразы святочнага рада Аброўскага іканастаса. Крыжаўзвіжанская царква (1754—1757 гг.). Сярэдзіна XVIII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошкі авальнай формы, яечная тэмпера, разьба. 43×27×2,5; 58,5×38,5×3; 71×39×3.

Выяўлены 16-й аб'яднанай экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 г. і 20-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 г. у Міхайлаўскай царкве (1892) с. Аброва Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. Рэстаўрыраваны ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР У. С. Харанекам у 1975—1978 гг.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988; Магілёў, 1989.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 110—120, № 45, 46, 56; 1988. С. 267; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 8, іл. 86—88; Піскун Ю. А. 1984. С. 34—40.

Даведка:
У святочным радзе абразы былі размешчаны ў наступным парадку: «Нараджэнне Маці Боскай», «Увядзенне ў храм», «Благавешчанне», «Нараджэнне Хрыстова», «Грамніцы (Стрэчанне)», «Хрышчэнне», «Тайная вячэра», «Праабражэнне», «Уваход у Іерусалім», «Узнясенне», «Уваскрэсенне», «Успенне», «Сашэсце Святога духа на апосталаў» (абразы захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР).

Нараджэнне Маці Боскай.
Пад зялёным полагам на пасцелі пад вохрыста-чырвонай коўдрай паўляжыць Ганна ў зялёным мафорыі. Злева Іаакім і бабка, якая падносіць Ганне дзіця. Справа бабка падносіць у чашы вінаград. На пярэднім плане па расчэрчанай падлозе — карычневая купель, накрыты зялёным абрусам стол з графінам, талеркай, кубкам.

Увядзенне ў храм.
На трохступеньчатым амбоне — Захарый у аранжава-чырвоным хітоне, вохрыстай далматыцы з брустухам на грудзях, у мітры, працягвае рукі Марыі, якая ідзе да яго, апранутая ў блакітную спадніцу, белую кофту, аранжава-чырвоны плашч, з вянком на галаве. На фоне шэрых сцен пабудоў, зоркі і трохвугольнага німба з «вокам» Саваофа за Марыяй стаяць Ганна, Іаакім і дзевы з вянкамі на галовах, са свечкамі ў руках. Позем карычневы.
Ілюстраваны тэкст апакрыфічнага Першаевангелля Іакава (гл. VII, VIII). Расказваецца аб тым, што Марыя з трохгадовага ўзросту была прысвечана богу, аддадзена ў Іерусалімскі храм, у якім жыла 12 гадоў, дзе яе карміў анёл.
Складанне іканаграфічнага зводу адбылося ў візантыйскім мастацтве, з XI ст. засвоена ў старажытнарускім.

Прадстаўлены кароткі варыянт Успення. На пасцелі з дзверцамі, пакрытай вохрыста-белай хустай, упрыгожанай белымі кутасамі па нізу, ляжыць Маці Боская ў сінім хітоне, аранжава-чырвоным мафорыі. За ложам, на фоне воблакаў,— Хрыстос у аранжава-чырвоным хітоне, блакітным гімацыі трымае душу Маці Боскай у выглядзе спавітай фігуры. Па баках ложа, на фоне пабудоў з аранжава-чырвонымі дахамі,— апосталы ў рознакаляровым адзенні. Зверху, у ружовых воблаках і белых прамянях, трохвугольным німбе,— «усёбачнае вока» Саваофа.
Усе кампазіцыі абрамлены скразной разьбой у стылі «ракако».

Обровский мастер.
РОЖДЕСТВО БОГОМАТЕРИ.
ВВЕДЕНИЕ ВО ХРАМ.
УСПЕНИЕ.
Иконы праздничного ряда Обровского иконостаса (Крестовоздвиженская церковь. 1754—1757). Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Obrovo.
THE NATIVITY OF THE VIRGIN.
THE PRESENTATION IN THE TEMPLE.
THE DORMITION.
Icons of the Church Feast Range on the Obrovo Iconostasis (The Church of the Exaltation of the Cross. 1754—1757). Mid-18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste d'Obrovo.
LA NATIVITÉ DE LA VIERGE.
LA PRÉSENTATION AU TEMPLE.
LA DORMITION.
Icônes des fêtes religieuses de l'iconostase d'Obrovo (Eglise de l'Exaltation de la sainte Croix, 1754—1757).
Milieu du XVIII[e] s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister von Obrowo.
GEBURT DER GOTTESMUTTER.
TEMPELGANG MARIÄ.
ENTSCHLAFEN.
Ikonen der Festtagsreihe der Obrowo-Ikonostase (Krestowosdwischenskaja-Kirche, 1754—1757). Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

КАРАНАВАННЕ МАЦІ БОСКАЙ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка са зрэзанымі вугламі, яечная тэмпера. 109,5×67×2.

Абраз вывезен з Мікалаеўскай царквы (1813) с. Наватухіна Аршанскага р-на Віцебскай вобл. да Вялікай Айчыннай вайны. Раскрыт часткова брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, А. Т. Дзеднянкова, М. Р. Малкіна, С. І. Голубева ў 1972—1975 гг. і поўнасцю ў Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1989 г.

Выстаўкі:
Мінская абласная выстаўка. 1918.
Тэмперны жывапіс Беларусі. Магілёў, 1989.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Каталог Мінскай абласной выстаўкі. Мн., 1918. С. 13, № 102 (А. Іпелем аднесены да XVIII ст.).
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1986. С. 136—137, № 71; 1988. Т. 2. С. 273.

У цэнтры кампазіцыі — на паўмесяцы — укленчаная Маці Боская ў чырвоным хітоне, сінім плашчы, з шэрай хустай на галаве. Яе ўвенчваюць рэльефнай каронай сядзячыя на прастоле Сын, Айцец і Святы дух у выглядзе голуба. На Сыне — чырвоны гімацій, на Айцу — зялёны хітон з пазалочаным раслінным арнаментам і светла-карычневы гімацій. У левай руцэ ён трымае дзяржаву. Німбы, ззянне, фон — пазалочаныя з раслінным арнаментам.

Іканаграфічная даведка.

Схема складаецца ў заходнееўрапейскім мастацтве з кампазіцыі «Успенне», дзе падкрэслена ўзнясенне Маці Боскай. З XII ст. уводзіцца вянчанне Маці Боскай, што з'яўляецца дадаткам да зямной сцэны — Успення. Самыя раннія помнікі адлюстроўваюць не вянчанне, а ўвенчаную Маці Боскую, якая сядзіць побач з Хрыстом. З XIII—XIV стст. Маці Боская сядзіць з Хрыстом, нахіляе перад ім галаву, на якую ён ускладае карону; пазней Маці Боская спускаецца з трона на каленях. Яшчэ пазней ужываецца вянчанне Маці Боскай, якое ажыццяўляюць Айцец, Сын і Святы дух. Аб вянчанні (каранаванні) Маці Боскай ёсць звесткі ў адной беларускай песні, аб якой паведамляе П. В. Шэйн:

«Венчана еси у престола Троического
А за шату солнце стало
Подножие — луну дало».

ВАРОТЫ. МІХАІЛ. СТЭФАН. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 183,5×70,5×3; 184×70×3.

Выяўлены 21-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1972 г. у Троіцкай царкве (1758) с. Дабраслаўка Пінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыты часткова ў Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» П. Р. Журбеем і А. С. Шпунтам у 1988 г.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 78.

Заўвага:
Экспедыцыяй былі знойдзены прыбітымі да падлогі. Раней жа ў царкве былі паўночнымі і паўднёвымі варотамі іканастаса. Надзвычай цікавым з'яўляецца злучэнне двух светапоглядаў, почыркаў, мастацкіх прыёмаў у афармленні гэтых бакавых варот. Адна іх створка выканана ў традыцыях больш блізкіх да старажытнарускіх узораў, другая — з арыентацыяй на заходнееўрапейскія іканаграфічныя схемы і аб'ёмную манеру пісьма.

КОРОНОВАНИЕ БОГОМАТЕРИ. Середина XVIII в.
ВРАТА.
МИХАИЛ. СТЕФАН. Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

CROWNING OF THE VIRGIN. Mid-18th c.
THE DOORS.
ST. MICHAEL, ST. STEPHAN, Mid 18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LE SACRE DE LA VIERGE. Milieu du XVIII$^{e}$ s.
LA GRANDE PORTE.
SAINT MICHEL. SAINT STÉPHAN. Milieu du XVIII$^{e}$ s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

DIE KRÖNUNG DER GOTTESMUTTER. Mitte 18. Jh.
TÜR HEILIGER MICHAEL. HEILIGER STEPHAN. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Латыгаўскі майстар.
НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА. 1746.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 82×64×2—3.

Абраз вывезен у 1898 г. з царквы (1811) с. Латыгава Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. у Віцебскае сховішча старажытнасцей. Рэстаўрыраван брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1975 г.

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Мінск, 1926.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988; Магілёў, 1989.
Старажытнае мастацтва Беларусі XVII—XVIII стст. Сарагоса, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1925. Т. 1. С. 26—28; 1926, № 21. С. 18; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 9, іл. 79; Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 107—108, 167, № 43; 1988. С. 273; Сарагоса.
На фоне крокваў хлява з саламянай страхой стаяць Марыя ў блакітным хітоне, цёмна-чырвоным мафорыі, упрыгожаным зоркамі, і Іосіф у блакітным хітоне, жоўтым гімацыі, з кіем у руцэ. У цэнтры кампазіцыі, у яслях на зялёнай траве, у вохрыстай мандорле, ляжыць спавітае дзіця. Перад яслямі стаяць карычневы вол, шэры асёл. Злева — з дарамі вешчуны ў зялёным, цёмна-чырвоным, блакітным адзенні. На блакітным фоне злева ад Віфлеемскай зоркі на шэрым воблаку намаляваны архангел Міхаіл з вохрыстымі крыламі ў рыцарскіх даспехах з мячом. Увядзенне Міхаіла з'яўляецца адступленнем ад кананічнай схемы.
Вытокі іканаграфіі бяруць пачатак са старажытнахрысціянскага мастацтва. Яна склалася на аснове евангельскіх тэкстаў і апакрыфічнай літаратуры.
Нараджэнне Хрыстова.
Па матэрыялах Шчакаціхіна (1925).
«Адзін з найбольш характэрных помнікаў латыгаўскай групы, выразна роўнічны, з графічнай чытэльнасцю контураў і дапаможнай роляю ў большасці змроклых фарб. У композыцыйных адносінах малюнак можа быць некалькі набліжаны да некаторых гравюр кутэінскага «Трыфолёгіона» 1647 г. З дэталяй цікава фігура маладзенца, спавітага вузкім паяском, як і заўсёды ў беларускіх композыцыях данае тэмы (пар, напр., № 8, таксама гравюры ў магілеўскіх выданьнях). Зварочвае ўвагу таксама і структура страхі на будынку з правага боку, аналёгічная сучасным саламяным страхам сялянскіх хат і гаспадарчых будоў» (гл. «Матэрыялы». С. 26—28).

Латыгаўскі майстар.
МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ МІНСКАЯ. 1744.
ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. 1744.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 109×60,5×2,5; 108×58×3.

Абразы вывезены ў 1898 г. з царквы (1811) с. Латыгава Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. у Віцебскае сховішча старажытнасцей. Рэстаўрыраваны брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1975 г. і ў Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. В. Тарасікам у 1989 г.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1926. Т. 2. С. 152—153; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 43, 44, 107—108, 109, 167; 1988. Т. 2. С. 273.

Латыговский мастер.
РОЖДЕСТВО ХРИСТОВО. 1746.
БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ МИНСКАЯ. 1744.
ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. 1744.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Latygovo.
THE NATIVITY OF CHRIST. 1746.
THE VIRGIN HODIGITRIA OF MINSK. 1744.
CHRIST PANTOCRATOR. 1744.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Latygovo.
LA NATIVITÉ DU CHRIST. 1746.
LA VIERGE HODIGUITRIA DE MINSK. 1744.
LE CHRIST PANTOCRATOR. 1744.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister von Latygowo.
CHRISTI GEBURT. 1746.
GOTTESMUTTER HODEGETRIA VON MINSK. 1744.
CHRISTUS PANTOKRATOR. 1744.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Латыгаўскі майстар.
МІКОЛА. 1740-я гг.
ПАКРОЎ. 1740-я гг.
КАРАНАВАННЕ МАЦІ БОСКАЙ. 1746.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 64×46×3,5; 95×69×4; 115×89×2.

Абразы вывезены ў 1898 г. з царквы (1811) с. Латыгава Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. у Віцебскае сховішча старажытнасцей.
Рэстаўрыраваны ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР У. С. Харанекам у 1972 г. і Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. В. Тарасікам у 1989 г.

Выстаўкі:
1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. Мінск, 1926.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Шчэкаціхін М. М. 1926. С. 18, № 21: «Унізе направа (абраза «Каранаванне Маці Боскай».— *Н. В.*) дата: Anno 1746». Адзіны датаваны помнік з групы дэкарацыйных кампазыцый, паходжэньне якіх з таго-ж Латыгава прадстаўляецца амаль што бясспрэчным. Група гэтая часткова набліжаецца да папярэдняй, але адрозьніваецца ад яе характэрнымі фонамі, аздобленымі разводамі, віткамі і расьлінным орнамэнтам. У даным выпадку орнамэнтацыя, як выключэньне, перашла на паасобныя фігуры кампозыцыі. Самая кампозыцыя блізка падобна да некаторых гравюрных узораў, напр., да горняй часткі дрэварыту Васіля Вашчанкі «Усьпеньне», які знаходзіцца ў магілеўскім выданьні «Акафисты всеседмичныя» 1698 г.»; Віцебшчына. Матэрыялы. 1926. Т. 1. С. 26—28; Кацар М. С. Рэпрадукцыі з абразоў Дзяржаўнага мастацкага музея ў Мінску, вывезеных немцамі ў Германію ў 1945 г. С. 2, № 20; С. 3, № 35 (рукапіс); Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 109, 167, 177, 185; 1988. С. 273.

Латыговский мастер.
НИКОЛА. 1740-е гг.
ПОКРОВ. 1740-е гг.
КОРОНОВАНИЕ БОГОМАТЕРИ. 1746.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Anonimous artist of Latygovo.
ST. NICOLAS. The 1740s.
THE INTERCESSION. 1740.
CROWNING OF THE VIRGIN. The 1746s.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Artiste de Latygovo.
SAINT NICOLAS. Les années 1740.
L'INTERCESSION. Les années 1740.
LE SACRE DE LA VIERGE. 1746.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Meister von Latygowo.
HEILIGER NIKOLAUS. 1740er Jahre.
MARIÄ SCHUTZ. 1740er Jahre.
DIE KRÖNUNG DER GOTTESMUTTER. 1746.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка (верхнія вуглы адпілаваны), яечная тэмпера. 168×90×3.

Абраз паходзіць з даваеннай калекцыі Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (№ 3-884). Паступіў з Паўлаўскага парку і музея мастацкага ўбрання рускіх палацаў XVIII—XIX стст. у 1964 г. Раскрыт у Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1989 г.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 48.

Прадстаўлен амаль пакаленна ў чырвоным хітоне з карычневым клавам і сіне-зялёным на вохрыстай падкладцы гіматыі. Правай рукой благаслаўляе, левай — падтрымлівае раскрытае Евангелле з тэкстам у 6 радкоў.
Фон пазалочаны з ляпным арнаментам. Клеймы пасярэбраныя з разнымі манаграмамі. Рама на палях страчана.

АРХІСТРАЦІГ МІХАІЛ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 88×73×5—2,5.

Абраз выяўлен 3-й і 32-й экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 і 1977 гг. у Георгіеўскай царкве (XIX ст.) с. Лядзец Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Рэстаўрыраван у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР У. С. Харанекам у 1978 г.

Публікацыі:
Збор. 1972. С. 683.

Абраз Міхаіла інтэрпрэтуецца па-народнаму. Ён дадзены з мячом у правай і кляшчамі ў левай руцэ. Апрануты ў вохрыста-шэрае адзенне. Ледзь акрэслены вохрыстыя крыллі. Німб, пышны фларальны арнамент на светла-вохрыстым полі аграфлёны. Рама размалёвана пад мармур.

АРХІСТРАЦІГ МІХАІЛ. Сярэдзіна XVIII ст.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 117,5×86×2,5.

Абраз выяўлен 27-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1974 г. у царкве Казьмы і Даміяна (XVIII ст.) с. Гарадок Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.
Раскрыт у Вытворчым аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» А. С. Шпунтам у 1989 г.

Архістраціг Міхаіл — чынаначальнік і ваявода ад бога — прадстаўлены пакаленна з узнятым мячом, на якім ініцыялы S. M.,— у правай і зерцалам з тэкстам «бгъ кто яко бгъ» — у левай руцэ. Апрануты ў чырвоны плашч, перавязаны бантам на правым плячы, светла-карычневы панцыр з рознакаляровымі лентамі, прыемны блакітны спод з пазалочанымі кветкамі. У светла-карычневых крыллях прапісаны папарткі. На шыі — грыўня з мальтыйскім крыжам. Німб пазалочаны. Фон аздоблены ляпным арнаментам з лісцяў аканта. Палі — чырвоныя з бялільным арнаментам з аканта, дэкарыраваны валікам з 7 «камянямі». Унізе — дрэнна захаваны надпіс бялілами ў два радкі.

ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. Середина XVIII в.
АРХИСТРАТИГ МИХАИЛ. Середина XVIII в.
АРХИСТРАТИГ МИХАИЛ. Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

CHRIST PANTOCRATOR. Mid-18th c.
THE ARCHISTRATEGUS MICHAEL. Mid-18th c.
THE ARCHISTRATEGUS MICHAEL. Mid-18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LE CHRIST PANTOCRATOR. Milieu du XVIII[e] s.
L'ARCHISTRATÈGE MICHEL. Milieu du XVIII[e] s.
L'ARCHISTRATÈGE MICHEL. Milieu du XVIII[e] s.
Ecole biélorussie.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

CHRISTUS PANTOKRATOR. Mitte 18. Jh.
ERZSTRATEGE MICHAEL. Mitte 18. Jh.
ERZSTRATEGE MICHAEL. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.


ІС
ХС
Прїидите ко
мнѣ вси тру
ждающїися
и обремене
нни и азъ по
кою вы возми
те иго мое
на себе и на
учитеся
от мене яко
кротокъ есмь
и смиренъ сердце

УСЕКНАВЕННЕ ГАЛАВЫ ІААНА ПРАДЦЕЧЫ. Сярэдзіна XVIII ст.
Беларуская школа(?).
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 89×85×1,5.

Абраз знаходзіўся да Вялікай Айчыннай вайны ў музейным фондзе БССР. Рэстаўрыраван брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1974 г.

Кат у чырвоных портках, сіняй кашулі з закасанымі вышэй локцяў рукавамі, у чырвонай, аблямаванай футрам шапцы, з мячом у руках. Ён адсек галаву Іаану Прадцечы, які стаіць на каленях і апрануты ў сіне-зялёны плашч. На зялёным поземе выдзеленая німбам ляжыць яго галава. Яе ж на блюдзе трымае дачка Ірадзіяны — Саламея, адлюстраваная ў сіняй спадніцы, ружовым плашчы, з блакітнай накідкай на галаве. Ззаду шматпавярховыя дамы. Злева праз адкрытае акно відаць стол. Каля яго сядзіць Ірад Анціпа, які ў свайго брата адабраў жонку Ірадзіяну. Неба — блакітнае.
Іканаграфія склалася па евангельскіх матывах (ад Матфея 14,6—12; Марка 6, 21—29).

МАЦІ БОСКАЯ АДЗІГІТРЫЯ. Сярэдзіна XVIII ст.
ХРЫСТОС УСЕДЗЯРЖЫЦЕЛЬ. Сярэдзіна XVIII ст.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 138×99,5×2,5—5,5; 138×100×2,3—4,6.

Абразы выяўлены 3-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1958 г. у Мікалаеўскай царкве (1762) с. Рэмель Столінскага р-на Брэсцкай вобл.
Раскрыты ва Усесаюзнай цэнтральнай навукова-даследчай лабараторыі па кансервацыі і рэстаўрацыі музейных мастацкіх каштоўнасцей у Маскве Ю. А. Рузавіным і О. В. Івановай у 1963 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1989; Магілёў, 1989.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 122—123, № 59—60.

Маці Боская намалявана ў чырвоным мафоры з чорна-карычневымі складкамі на блакітнай падкладцы, блакітным хітоне з сядзячым на левай руцэ отракам у белым хітоне, падпяразаным аранжавым поясам, у карычневым гімаціі з асістам. Фон пазалочаны з аграфлёным арнаментам, палі пасярэбраныя з чорным арнаментам.
Хрыстос паказаны ў чырвоным хітоне з карычневымі, чорнымі складкамі, у блакітным гімаціі. Правай рукой благаслаўляе, левай падтрымлівае знізу раскрытае Евангелле з тэкстам у 7 радкоў. Фон пазалочаны. Палі пасярэбраныя з чорным арнаментам і 8 «камянямі».
Абразы стылістычна і па арнаментыцы палёў фону блізкія. Малюнак арнаменту палёў бярэ пачатак ад «Маці Боскай Адзігітрыі Баркалабаўскай» (1659) з Троіцкай царквы (1899) Быхава, але, як і ў творы «Мікола» са Свята-Міхайлаўскай царквы (1816) с. Токары Брэсцкай вобл. (ДБЖ-275), ён зроблен больш суха.

УСЕКНОВЕНИЕ ГЛАВЫ ИОАННА ПРЕДТЕЧИ. Середина XVIII в.
Белорусская школа (?).
Государственный художественный музей БССР.
БОГОМАТЕРЬ ОДИГИТРИЯ. Середина XVIII в.
ХРИСТОС ВСЕДЕРЖИТЕЛЬ. Середина XVIII в.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

BEHEADING OF ST. JOHN THE PRECURSOR. Mid-18th c.
The Belorussian school?
The Belorussian State Museum of Art.
THE VIRGIN HODIGITRIA. Mid-18th c.
CHRIST PANTOCRATOR. Mid-18th c.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

LA DÉCAPITATION DE SAINT JEAN-BAPTISTE. Milieu du XVIII^e s.
Ecole biélorusse (?).
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.
LA VIERGE HODIGUITRIA. Milieu du XVIII^e s.
LE CHRIST PANTOCRATOR. Milieu du XVIII^e s.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

DIE ENTHAUPTUNG JOHANNES DES VORLÄUFERS. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule (?).
Kunstmuseum Belorußlands.
GOTTESMUTTER HODEGETRIA. Mitte 18. Jh.
CHRISTUS PANTOKRATOR. Mitte 18. Jh.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Манграміст М. В.
ПАКРОЎ. 1751.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 126,5×76×2.
Абраз выяўлен 14-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 г. на званіцы Пакроўскай царквы (1869) Маладзечна. Рэстаўрыраван брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг.
Раскрыт рэстаўратарам Інстытута «Расрэстаўрацыя» А. І. Навумавым пад кіраўніцтвам С. В. Філатава ў 1979 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.
Іканапіс Беларусі XVII—XVIII стст. Яраслаўль, Масква, 1990.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, автореф. 1983. Музей 4; 1986. С. 124—127, 185, № 62; 1988. С. 267, 270, 273; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980, іл. 83—85; Вецер Э. І. 1981; Піскун Ю. А. 1989. С. 34—40. (Высоўвае гіпотэзу, што злева знізу адлюстраваны Сігізмунд III Ваза (1587—1632), Казімір Ягаланчык (1440—1492), Ігнацій Завіша (1696—1738). Здымаючы аўтарства манаграміста, М. В. Піскун невядомаму мастаку, аўтару «Міколы» і «Пакроваў», прыпісвае «Партрэт Ігнація Завішы», на якім прастаўлена дата «1732» (ДММ БССР, ЗЖ-117), «Міколу» з Аброва (ДММ БССР, ДБЖ-22), «Міколу» і «Цуда Георгія аб змеі» ў Полацкім гісторыка-архітэктурным запаведніку і «Архідзякана Сцяпана» з Увядзенскай царквы, якая прапала ў час Вялікай Айчыннай вайны з Беларускага дзяржаўнага музея (гл. дадаткова Піскун Ю. А. 1986. С. 32; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980, іл. 152; Высоцкая Н. Ф. 1986. С. 167).
На ружова-блакітным воблаку стаіць Маці Боская з каронай на галаве ў блакітным хітоне, вохрыстым кароткім адзенні, ружовым на чырвонай падкладцы мафоры з покрывам у руках. Па баках на воблаках — апосталы Пётр, Павел, прарокі Майсей, Ілья, архангелы Міхаіл, Гаўрыіл, айцы царквы, пакутніцы і анёлы ў зялёным, сінім, ружовым адзенні. Німбы, фон — разныя, пазалочаныя. Знізу на шэрым амбоне з белым скруткам стаіць Раман Сладкапевец у светлым сподзе, ружовай далматыцы, з блакітнай епітрахіллю і паказвае на Маці Боскую. Вакол яго стаяць епіскапы, цары, шляхціцы ў рыцарскіх даспехах, манахі і Андрэй Юродзівы ў сінім гімаціі з кіем.
Асаблівую цікавасць да кампазіцыі выклікае размешчаная ў левым ніжнім вугле мужчынская фігура ў зялёным сподзе, чырвонай дэліі, з сіняй стужкай праз плячо і ордэнам белага арла на грудзях, які быў устаноўлены Аўгустам II Моцным у 1705 г. У руках булава.
Іканаграфічная схема «Пакрова» бярэ пачатак з растова-суздальскага зводу, які атрымаў шырокае распаўсюджанне ў старажытнарускім і беларускім жывапісе XVI—XVII стст.

Монограммист М. В.
ПОКРОВ. 1751.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Monogrammist M. V.
THE INTERCESSION. 1751.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Monogrammiste M. B.
L'INTERCESSION. 1751.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Monogrammist M. W.
MARIÄ SCHUTZ. 1751.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Манаграміст М. В.
МІКОЛА. 1751.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.

Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 126×76,5×2.

Абраз выяўлен 14-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 г. на званіцы Пакроўскай царквы (1869) Маладзечна. Рэстаўрыраван брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1972—1975 гг.
Раскрыт рэстаўратарам Інстытута «Расрэстаўрацыя» А. С. Чапурным пад кіраўніцтвам С. В. Філатава ў 1979 г.

Выстаўкі:
Тэмперны жывапіс Беларусі XV—XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф. 1983. Музей 4; 1986. С. 124—127, 185, № 63; 1988. С. 267, 270, 273; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980, іл. 80—82; Вецер Э. І. 1981; Піскун Ю. А. 1989. С. 34—40 (прачытвае надпіс не як МВ, а Mf 25).
На беразе ракі стаіць Мікола ў светла-блакітным хітоне, ружовай епітрахілі, чырвоным на зялёнай падкладцы з пазалочанымі кветкамі сакасе, блакітным з пасярэбраным арнаментам амафоры і паліцы. На шыі — грыўня з крыжам. На галаве ружовая з арнаментам барочнай формы мітра. На руках — блакітныя з пасярэбраным арнаментам поручы. Правай рукой благаслаўляе, левай падтрымлівае знізу закрытае Евангелле ў карычневым пераплёце з драбніцай і навугольнікамі. На супрацьлеглым беразе ў зеляніне — карычневыя базілікальныя цэрквы з чырвонымі купаламі, блакітныя горы, зялёныя ўзгоркі. Зверху на пазалочаным з раслінным арнаментам фоне, у ружова-блакітных воблаках — Маці Боская з пакровам, благаслаўляючы Хрыстос у блакітным, ружовым, сінім адзенні з Евангеллем. Фон, німбы пазалочаныя, разьбяныя, арнаментаваныя.
Па жыційнай літаратуры, Мікола (*з грэч.*— перамагаючы народ) — цудатворац (Мерлікійскі) вырас у Лікійскай краіне ў гор. Патара. Сын багатых бацькоў (бацька — Феафан, маці — Нона) — прапаведнік і цудатворац з першых дзён жыцця. Быў архіепіскапам у Міры. Цуды тварыў на зямлі і на моры. У бядзе на сушы дапамагаў, ад патаплення ратаваў, з цямніцы збаўляў, ад смерці вызваляў, вылячэнне даваў сляпым, кульгавым, глухім, нямым. Многіх ад галечы ратаваў, абагачаў (напрыклад, трох бедных дзяўчат), галодным ежу даваў, усякаму ў неабходнасці памочнік, цёплы заступнік.

Монограммист М. В.
НИКОЛА. 1751.
ФРАГМЕНТ.
ФРАГМЕНТ.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Monogrammist M. V.
St. NICOLAS. 1751.
DETAIL.
DETAIL.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Monogrammiste M. B.
SAINT NICOLAS. 1751.
DÉTAIL.
DÉTAIL.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Monogrammist M. W.
HEILIGER NIKOLAUS. 1751.
AUSSCHNITT.
AUSSCHNITT.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

Маркіянавіч.
ДЭІСУС. 1758.
Беларуская школа.
Дзяржаўны мастацкі музей БССР.
Дошка, яечная тэмпера. 130×97,5×2—9.

Абраз выяўлен 11-й экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1968 г. у Пакроўскай царкве (1795) с. Чыжэвічы Салігорскага р-на Мінскай вобл. Паходзіць з Пакроўскай царквы (XVIII ст.) с. Вялікі Рожан Салігорскага р-на Мінскай вобл. Раскрыт брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, А. Т. Дзеднянкова ў 1975 г.

Выстаўкі:
Рэстаўрацыя музейных каштоўнасцей. Мінск, 1985.
Тэмперны жывапіс Беларусі XV— XVIII стст. Мінск, 1988.

Публікацыі:
Высоцкая Н. Ф. 1976, аўтарэф.; 1983. Музей 4; 1986. С. 127—132, 185. № 64; 1988. С. 270; 1989. С. 6, № 13; Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. 1980. С. 6, іл. 91; ЭЛіМБел. 1984. Т. 1. С. 64, 337.

Да Хрыста Уседзяржыцеля ў чырвоным з буйным пазалочаным і пасярэбраным фларальным арнаментам на зялёнай падкладцы з пазалочаным арнаментам, імітуючым карункі, па гарлавіне і нізе рукавоў сакасе і сінім хітоне і плашчы звяртаюцца Маці Боская ў сінім хітоне, чырвоным на зялёнай падкладцы мафорыі і Іаан Прадцеча ў карычневай мілоці, зялёным на чырвонай падкладцы плашчы. Аголеныя ногі Хрыста стаяць на зялёным падножжы. Позем светла-карычневы, фон вохрысты з раслінным ляпным арнаментам. Рама — карытцам. У верхняй частцы рамы з паўкруглай выемкай на зялёным фоне — дзве галоўкі анёлаў з ружовымі крыламі паміж блакітных, вохрыстых раслінных парасткаў аканта і ружовай кветкай.

Маркианович.
ДЕИСУС. 1758.
Белорусская школа.
Государственный художественный музей БССР.

Markianovich.
DEESIS. 1758.
The Belorussian school.
The Belorussian State Museum of Art.

Markianovitch.
LA DÉISIS. 1758.
Ecole biélorusse.
Musée d'Etat des Beaux-Arts de Biélorussie.

Markianowitsch.
DEESIS. 1758.
Belorussische Schule.
Kunstmuseum Belorußlands.

